ББК 81.2 Бел-93
З-22
УДК 808.26(075)

Укладанне М. А. ФЕДАСЕЕНКІ,
Г. М. РАЗАНАВАЙ, Т. П. ПРОХАРАВАЙ,
Н. С. ЯНУШКЕВІЧ

Кніга адрасавана дзецям. Тым, хто яшчэ ў пялюшках, падыдуць калыханкі, дашкольнікам дарэчы будуць пацешкі, жарты, казкі, а вучні малодшых класаў будуць выбіраць на свой густ вершы, легенды, апавяданні, загадкі, смяшынкі, песні, гульні...

Чытанка складаецца з двух частак. Яна спатрэбіцца мамам і татам, бабулям і дзядулям, выхавацелям дзіцячых садоў і настаўнікам пачатковых класаў.

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі*
*і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

З 8080260000

ISBN 5-87884-150-9 (Ч. 1)
ISBN 5-87884-151-7



# ДА ЧЫТАЧОЎ

Чалавек нарадзіўся. Здаецца, такі маленькі, бездапаможны, кволы — нібы першы веснавы парастак. Але праходзяць дні, месяцы, гады, і гэты чалавечак набіраецца фізічнай моцы, настойліва спасцігае сутнасць і значэнне многіх слоў, прадметаў, з'яў, авалодвае мовай, знаходзіць адказы на тысячы допытлівых і магічных «чаму?»

Ранняе дзяцінства — унікальнае для разумення магчымасцей самога чалавека, бо дарослому ніколі не ўвабраць столькі інфармацыі, колькі назапашвае яе за першыя гады, свядома і несвядома, дзіця. Кожныя бацька, маці, бабуля або дзядуля імкнуцца перадаць сваім нашчадкам усё, што лічаць самым каштоўным, неабходным, лепшым. Відавочна, сярод іх асаблівае месца належыць роднаму слову. Спасцігнуць яго сэнс, шматфарбнасць, асалоду дапамагаюць мастацкія творы.

Напісаныя ў розны час прафесіянальнымі літаратарамі, складзеныя народам, яны пранікнуты агульначалавечымі каштоўнасцямі, высокай мараллю. Носьбітамі ўсяго дрэннага ў іх з'яўляюцца вурдалакі, пачвары, звяры. І гэта натуральна, бо чалавек заўсёды павінен быць увасабленнем дабра, міласэрнасці, спагады. Такія якасці і прывіваліся

з дзяцінства з дапамогай казак, калыханак, вершаў, апавяданняў. Некалі першадрукар усходніх славян Францыск Скарына вельмі пэўна сказаў пра сваю першую кнігу: «Детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помноженпе в науце».

Шмат стагоддзяў мінула з таго часу, шмат падзей адбылося ў гісторыі нашай радзімы. Вялікі і складаны шлях прайшла і беларуская дзіцячая літаратура. Нельга не ўспомніць пра кніжкі, падрыхтаваныя Алаізай Пашкевіч «Беларускі лемантар», «Гасцінец для малых дзяцей», «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Праз тры гады Якуб Колас выпусціў у свет «Другое чытанне для дзяцей беларусаў».

Беларуская дзіцячая літаратура зараз — гэта багатая скарбонка народных паданняў, казак, вершаў, апавяданняў, скарагаворак, лічылак і інш.

Штогод юныя чытачы атрымліваюць дзесяткі цудоўных кніжак. Асаблівае месца сярод іх займаюць кнігі, адрасаваныя самым маленькім, а таксама тым, хто толькі навучыўся чытаць самастойна.

Чытанка «Залатыя каласкі» — плён працы многіх паэтаў, пісьменнікаў, рэдактараў, мастака, складальнікаў. Гэта — першая кніжка, якую адрасуе дзецям выдавецтва «Лазурак». Мы спадзяемся, што чытачы з задавальненнем і цікавасцю перагорнуць яе старонкі, душой і сэрцам дакрануцца да крынічнай чысціні і багацця роднай мовы, сапраўдных скарбаў і дыяментаў беларускай літаратуры і фальклору.



*Бог дзяліў між народамі зямлі. Адным тое, другім — тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану богу спадабаліся. Ён і пачаў нас надзяляць: «Рэкі вам даю поўныя, пушчы — нямераныя, азёры — нялічаныя. Спёкі ў вас ніколі не будзе, але і холаду — пагатоў. Зажэрціся на багатай зямлі не дам, каб былі ўвішныя, кемлівыя, але і голаду ў вас ніколі не будзе. Наадварот, у голад шмат багацейшыя людзі будуць да вас прыходзіць. Не ўродзіць бульба, то ўродзіць жыта ці яшчэ нешта. А яшчэ звяры і дзічына ў пушчах чародамі, рыбы ў рэках — касякамі, пчолы ў борцях — мільёнамі. А травы — як чай. Не будзе голаду. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці — дужыя, сады — багатыя, грыбоў ды ягад — заваліся. Людзі вы будзеце таленавітыя, на музыку, песні, вершы — здатныя. На дойлідства — таксама. І будзеце вы жыць ды жыць...»*

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

## ПАДАННЕ ПРА ЗАСНАВАННЕ МІНСКА

Між Татарскім канцом і Пярэснінскім мастком, ля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па празванню Менеск ці Менскі і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем калёс. Ніхто самога Менеска не бачыў, тым не менш у навакольных мясцовасцях свіслацкай зямлі чуваць былі самыя фантастычныя расказы пра яго сілу. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся нейкія дзіўныя крыкі, галёканне, песні, музыка і скокі, што апоўначы раз'язджаў ён на сваім млыне па селішчах і набіраў дружыну з харобрых, смелых, дужых людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ і пасяліўся побач з млыном.

Тут і быў заснаваны горад і названы імем волата — Менск.

## ВОЗЕРА НАРАЧ

У гушчары старых бароў, як сляза, упаўшая з неба, блішчэла вялікае возера. Вельмі прыгожым яно было. Расказы пра яго чароўнасць ішлі ад паселішча да паселішча і нават у далёкія краіны заходзілі.

А яшчэ казалі людзі, што ў вёсцы, што прыляпілася да аднаго з бегароў возера, жыла дзяўчына-сіраціна па імені Найрыта, а аднавяскоўцы звалі яе Нарай. Вочы яе блакітныя, колеру азёрнай хвалі, заўсёды весела ўсміхаліся. Залацістыя валасы тугой касой абкручвалі галаву. Голас у яе быў высокі і гучны.

Бывала, сядзе на беразе пад разлапістым клёнам, дзе збіралася звычайна моладзь, на гусельках грае і спявае. Спачатку голас павольна плыве, а пасля ўзлятае высока і ляціць над пабярэжжам. У гэты час і птушкі спынялі свой спеў. Людзі забываліся пра сваё гора.

Аднойчы, калі Нара спявала, праязджаў вёскай пан, стары ўдавец. Пачуў ён дзівосную песню і загадаў спыніць каня. Слухаў, слухаў і сказаў Нары:

— Незвычайнай прыгажосці кветка вырасла ў дзікім краі. Табе толькі спяваць у маіх пакоях.

— Кепская з мяне будзе служанка, — прамовіла Нара.

— Ты будзеш гаспадыняй, жонкай маёй, — зазначыў пан.

Вакол Нары сядзелі на зялёнай мураве хлопцы і дзяўчаты. Адзін з іх, чарнявы хлопец, падышоў да пана.



— Гэта мая нявеста, — сказаў ён, — а пан няхай сярод паноў жонку шукае.

— Ці не сын ты таго Пятра, што бунтаваў мне народ? — успомніў пан, чырванеючы ад злосці. І залямантаваў: «Узяць яго!»

Прыслужнікі звязалі Андрэйку і павязлі ў маёнтак. Больш яго ніхто не бачыў. Праз некаторы час пасля гэтага здарэння пан зноў прыехаў да Нары даведацца, ці згодна яна да шлюбу. Дзяўчына зрабіла выгляд, што згадзілася. Тут жа дамовіліся пра вяселле.

Надышоў гэты дзень. Злосны вецер гнаў цёмныя хмары, а лес спяваў жалобныя песні. Нара ехала на фурманцы ў маёнтак, у руках трымала пакунак. Сустрэлі яе служанкі. Завялі ў панскія пакоі і апранулі ў шлюбнае адзенне. І Нара выйшла такой прыгажуняй, што ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць. Пакланілася яна пану ды папрасілася перад шлюбам крышку адной пабыць у пакоях. Пан згадзіўся. Ходзіць ён па двары, на служанак пакрыквае і на дзверы паглядвае.

А Нара тым часам з пакунка дастала смалякі ды падпаліла пакоі адзін за другім. І калі шугануў чорны дым з акон, а на даху заскакалі чырвоныя языкі полымя, выскачыла праз акно і на сваёй фурманцы, паганяючы каня, паехала ў вёску. Прыйшла на тое месца, дзе з Андрэйкам часта сустракала ўсход

сонца, прыхілілася да клёна і горка заплакала.

Ды тут пачуўся конскі тупат. Прыехалі панскія служакі. Бегалі па ўсёй вёсцы. Людзей бізунамі білі. Дапытваліся, дзе Нара.

— Вось яна, — закрычаў адзін з іх.

— Жывую не возьмеце, — смела крыкнула ворагам дзяўчына і шпарка кінулася да возера.

Цёмныя хвалі з белымі грабянямі ішлі адна за другой, а на беразе калыхаўся човен. Той човен, у якім Нара з Андрэйкам не раз каталіся. Спрытна і ўмела ўхапілася яна за карму і, адштурхнуўшыся ад берага, села ў човен.

— Я адпомсціла, пан, за Андрэйку, за яго бацьку і за ўсіх тых, хто загінуў ад тваіх паганых рук у тваім маёнтку, — прашаптала Нара.

Ад злосці панскія служакі кінулі гуслі ў возера. А човен адплываў усё далей і далей, потым зусім знік у хвалях. Усю ноч бушавала возера. Стагналі хвалі...

З таго часу і назвалі людзі возера імем смелай дзяўчыны. Да нашых дзён дайшла назва Нарач.



## БЯЗДОННАЕ БАГАЦЦЕ

Даўным-даўно ў Тураве жыў князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры. Таму і людзей каля сябе збіраў разумных і мудрых.

Выбраўся аднойчы князь на паляванне. Шмат за дзень набіў ён усякай дзічыны. Хацеў ужо трубіць на збор, як раптам убачыў вялізнага старога тура. Пагнаўся князь за турам. Некалькі гартаваных вострых стрэл упілося ў магутнае цела звера, а ён усё роўна імкліва ўцякаў ад лаўца.

Давай князь паганяць каня, каб дагнаць тура. А звер раптоўна спыніўся і крутнуўся насустрач паляўнічаму. Конь з разгону наскочыў на тура і, працяты рагамі, зваліўся на зямлю, падмяўшы пад сябе ездака. Яшчэ імгненне — і князь развітаўся б з жыццём. Выратаваў яго загоншчык Ранцэвіч. Ён зняў з сябе світку і накінуў на вочы туру. Потым ударыў рагацінай звера ў сэрца, і ён асунуўся мёртвым на зямлю.

Выкарабкаўся князь з-пад каня, падзякаваў загоншчыку і загадаў прыйсці ў абоз па ўзнагароду.

Калі Ранцэвіч прыйшоў у княжы абоз, Яраслаў паставіў перад ім куфар з золатам і сказаў:

— Бачыш, колькі тут золата... Але ж

жыццё — даражэй за ўсё на свеце. Вазьмі сабе гэтае бяздоннае багацце.

Загоншчык чалавек быў мудры. Узяў ён кій, разгарнуў чырвонцы, пастукаў па дне і сказаў:

— Праўда твая, княжа, тут вельмі шмат золата. Але дно ў ім можна дастаць, значыць не бяздоннае тваё багацце. Ды золата, княжа, больш патрэбна табе, чым мне, чалавеку простаму. А я прашу ў цябе дар, у якога папраўдзе няма дна...

Задумаўся князь.

— Калі нават я збяру ўсё сваё багацце, ты ўсё роўна у ім дастанеш дно.

Засмяяўся загоншчык:

— Хадзем, княжа, я пакажу табе бяздоннае багацце.

Адышліся яны ў поле. Узяў загоншчык меч і ўвесь, па самую ручку, загнаў у зямлю.

— Вось, княжа, тваё багацце, у якім няма дна! Яно для аратага даражэй за ўсе на свеце чырвонцы. Грошы могуць украсці, а гэты скарб ніхто не ўкрадзе.

Снадабалася Яраславу мудрасць Ранцэвіча.

— Праўда твая! — пагадзіўся ён. — І таму я даю табе зямлі ажно па дзесятае пакаленне.

Вярнуліся яны ў шацёр. Князь Яраслаў напісаў дароўную грамату загоншчыку Ранцэвічу на ўсю зямлю каля вёскі Вялемічы.

І дагэтуль у Мазырскім павеце, у Вялемічах, жывуць Ранцэвічы. З пакалення ў пакаленне перахоўваюць яны ў вялікай пашане дароўную князеву грамату і, паказваючы яе людзям, расказваюць паданне пра свайго мудрага пращчура.

## ПАДАННЕ ПРА ЗАСНАВАННЕ БЯРЭСЦЯ

Нібыта вёз купец на калёсах свой тавар у Літву ды заграз у багністых балотах. Не выбрацца. Пачаў абдзіраць бяросту і засцілаць ёю гаць. А калі назад з Літвы вяртаўся, пабудаваў на гэтым месцы капліччку. Да той каплічкі, як да святога месца «на бярэсце», пачалі сыходзіцца людзі. Месца было лёгка ўмацаваць ад ворагаў. Вакол — прыродныя абарончыя равы — рукавы Мухаўца.

І пачалі асядаць тут людзі, пачалі будаваць горад «на бярэсце».

## ПРА ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

Калісьці ўладаром возера быў мірскі князь. І вось ён задумаў даведацца, ці праў-

да, што на дне возера стаіць затоплены горад Свіцязь, як гэта гавораць у народзе.

Рыхтаваўся ён тры тыдні. Пабудаваў вялікі карабель, сплёў невад, паклікаў ксяндза. І вось, калі закінулі невад і пачалі выцягваць яго, то быў ён лёгкі. Рашылі, што нічога няма. Але, калі выцягнулі апошняе крыло, убачылі ў невадзе цудоўную дзяўчыну з белым тварам, доўгімі распушчанымі валасамі. Адны ад здзіву анямелі, другія кінуліся ўцякаць. Тады дзяўчына загаварыла голасам, падобным да голасу ручая, які бег у гэтае возера:

— Вы задумалі дзёрзкую справу, парушылі спакой возера. Але я раскажу вам пра яго. На тым месцы, дзе сёння возера, стаяў некалі горад. Князь, які валодаў горадам, быў у хаўрусе з навагрудскім князем Міндоўгам. Аднойчы напаў на Навагрудак з магутным войскам суседні цар. Князь разам са сваёй дружынаю паехаў на дапамогу Міндоўгу. У горадзе засталіся старыя, жанчыны, дзеці і сярод іх прыгожая князева дачка. Магутнае войска Міндоўга і княжацкае войска разбілі, і ворагі падышлі да горада Свіцязя. Тады перад князёўнай з'явіўся аднекуль стары і сказаў, што ператворыць горад у возера, а людзей у кветкі. Горад сапраўды адразу пачаў знікаць, а на месцы яго разлілося



возера, па якім плавалі цудоўныя кветкі-цары.

Расказаўшы гэта, дзяўчына знікла. Больш яе ніхто ніколі не бачыў. Як успамін пра гэта, кожную вясну цвітуць на возеры кветкі-цары.

## ПАДАННЕ ПРА МАГІЛЁЎ

Свеціць сярэбраны месяц з чыстага неба і святлом сваім залівае лясы і горы, рэчкі і ўзгоркі. Песціцца і млее ўся зямля, і мацней пануе на ёй палкая, гарачая любоў. Гучней стукае сэрца ў чалавека, гарачэйшая робіцца кроў, рукі цягнуцца для пяшчотных абдымкаў, вусны шукаюць пацалунка.

Сядзіць пад запаветным дубам добры малойца Машэка, глядзіць у сярэбраную далеч і думае думку пра сваю любу, пра мілую Прадславу. Запёрта яна, бедная, цяпер у душным палацы за сямю замкамі, і не выйсці ёй адтуль. Баліць у яе сэрцайка, ірвецца да дружка сардэчнага, і не ведала яна, што сядзіць ён недалёка ад яе палаца і думачку думае сваю:

«Ах, люба, люба мая, Прадслава, сонейка краснае, каб ты была тут побач, каб прыйшла ды суцешыла мяне, сіраціначку».

Раптам, нібы светлая хмарачка на небе, выплыла з бліскучай імглы белая здань жанчыны. Ускочыў Машэка: пазнаў ён сваю Прадславу, і вокліч захаплення готовы быў ужо зляцець з яго вуснаў. Але ў гэтае імгненне з той самай імглы паказалася іншая постаць, чорная, з бліскучым шышаком на галаве. Пацямнела ў вачах у Машэкі. Нібы ў сне ўбачыў ён, як кінулася Прадслава ў абдымкі да чорнага рыцара і як вусны іх зліліся ў пацалунку. Падскочыў ён да здрадніцы і толькі тады схамянуўся, калі кроў суперніка пралілася на зямлю. Бледная, дрыжучы, стаяла перад ім Прадслава, і такой бездапаможнаю здалася яна Машэку, што ён не пажадаў нават забіць яе і, адвярнуўшыся, пайшоў у белы свет.

Ішоў ён доўга, і чым далей ішоў, тым усё зласнейшы рабіўся супраць усяго роду чалавечага, усё мацней разгаралася ў ім прага да помсты.

І гатовы ён ужо быў затапіць увесь свет крывёю людской. Так дабрыў да правага берага Дняпра, да Гваздоўкі, страшнага логава разбойніка Гвазда. Укленчыў перад ім і сказаў:

— Вазьмі мяне, Гвозд, да сябе, не пасрамлю цябе і твайго рамяства. Прывяла мяне сюды злоба лютая і помста страшэнная, і даю



я табе зарок вялікі — не шкадаваць ніводнай душы жывой, а калі пашкадую каго, дык няхай я ад таго і загіну.

— Добра, — сказаў Гвозд, — ідзі за роў і працуй.

Пайшоў Машэка на другі бераг рова, заснаваў там сваё логавішча, назваў яго Машэкаўкаю і стаў наводзіць жах на ўвесь край. Мучыў і забіваў ён няшчасных падарожнікаў, рагатаў з іх просьбаў, здзекаваўся з іх слёз, не шкадаваў нікога: ні старых, ні дзяцей, ні мужчын, ні жанчын. Памёр даўно ўжо Гвозд, а Машэка за абодвух працягваў паліць і рабаваць, забіваць і мучыць. Але не мог крывёю затапіць сваіх пакут: любы вобраз часта паўставаў перад ім у начной цішы, і плакаў тады люты Машэка, бы малое дзіця, і праклінаў свой злы лёс.

Была такая месячная ноч, як тады, калі апошні раз ён бачыў сваю мілую. Сядзеў Машэка на камені, журботна звесіўшы галаву на грудзі, лёгкі ветрык гуляў над пасівелымі яго валасамі, і слёзы адна за другою буйнымі дыяментамі падалі на зямлю і зліваліся з расою.

Раптам пачуліся конскі тупат, галасы і шум, і праз хвіліну яго зграя прывяла двух новых палоннікаў.

— Як іх пакараць? — пытаюць у яго малойцы.

Але Машэка маўчаў і няўцямнымі вачыма глядзеў на жанчыну, што стаяла перад ім. Гэта была яна, Прадслава. Нарэшце, нібы апрытомнеўшы, правёў леваю рукою па лбе, правай махнуў на спадарожніка Прадславы і, абняўшы сваю любу, павёў яе ў будан. Тут укленчыў перад ёю і пачаў цалаваць яе рукі, і плакаць, і смяяцца, і папракаць.

— Не палюбоўніка майго забіў ты, — сказала яна, — а забіў брата майго, які быў пасварыўшыся з бацькам і патаемна са мною бачыўся. Але я даравала табе, мой любы. Доўга я чакала цябе. Кінь свой страшэнны занятак і ўцякайма. Уцякайма туды, дзе ніхто нас не ведае.

— Бяжым, бяжым, мая люба. Бяжым заўтра, а сёння дай адпачыць з табою разам ад стольніх жахаў і пакут.

— Добра, — сказала Прадстава.

Але не доўга адпачываў Машэка. Толькі салодкі сон заплюшчыў яго павекі, як каварная люба ўткнула яму з усмешкаю ў горла востры нож.

— Памры, сабака, — прамовіла яна. — Хоць і загіну ад тваёй подлай чэлядзі, але я ведаю, што адпомсціла табе за сябе і за ўсіх.

Прадслава не памылілася: закапалі яе жывую разам з забітым ёю Машэкам, а насыпаны над імі курган быў названы Магілаю Льва. Адсюль і горад, які ўзнік потым на гэтым месцы, пачаў называцца Магілёвам.

*Вацлаў Ластоўскі*

## СОЖ І ДНЯПРО

Сярод глухіх пушч, цёмных бароў, на прыгорку, стаялі калісь старыя-прастарыя харомы вялікага валадара, сівавалосага старца Рыдана. З канца ў канец зямлі слыў Рыдан багацьцем нялічаным, а над усе багацьці славілася скрытая за дванаццацьцю дзьверамі, дванаццацьцю замкамі залатая Рыданава карона. Як адмыкалі замкі, адчынялі дзьверы і выносілі тую карону на сьвет, то, калі на сьвеце была ноч, яна днём станавілася, а калі была зіма, то перамянялася ў лета; — так зігацелі дарагія каменьні на Рыданавай залатой кароне.

Завідавалі суседнія валадары і князі гэтай кароне і пастанавілі дабыць яе ў Рыдана. Сазвалі varажбітоў і знахароў і загадалі ім прыдумаць спосаб, каб украсьці карону з Рыданавага скарбца. Варажбіты і знахары думалі тры дні і тры ночы і прыдумалі разрыў-траву, каторай, калі дакрануцца замкоў, то самі адчыняюцца, ды сон-траву, зярнятка-

мі каторай калі пасыпаць, то ўсё наўкруг засынае. Прыдумаўшы гэта, паслалі зладзеяў красьці залатую Рыданаву карону. Тыя, прышоўшы пад харомы, сыпнулі сон-зельле, і ўся варта паснула; крануліся разрыў-травой замкоў, і замкі паспадалі. Тады ўзялі яны залатую Рыданаву карону і пусьціліся назад.

Устаў раніцай сівы Рыдан, падыйшоў да вакна, ажно глядзь: усе варты покатам сьпяць, увесь народ у сьне беспрабудным валяецца. І зразумеў старац адразу, што няма ў скарбцы яго залатой кароны. Падыйшоў ён тады да звана, ударыў раз, ударыў два, і разбудзіліся два Рыданавы сыны: Сож і Дняпро. Зьвярнуўся бацька да Дняпра і кажа: «Вазьмі, сынок, сталёвую зброю, каваны меч і бяжы садамі, лугамі аж да скалістых гор: мо' дагоніш цікунцоў з каронай».

Схапіў Дняпро і чым хутчэй пабег, а Сож астаўся пры бацьку. Сеў на залаты пасад стары Рыдан і кажа сыну:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай, ці бяжыць Дняпро?

Прылажыў Сож вуха да зямлі і кажа:

— Бегма бяжыць і не стаміўся яшчэ.

І другі раз кажа бацька:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай! — Прылажыў сын вуха да зямлі і кажа:



— Бяжыць, але цяжка дыхае — шум зямлёй ідзе.

І ўтрэцьце сказаў бацька паслухаць сыну. Сын прылажыў вуха да зямлі і кажа:

— Гул зямлёй ідзе і крык вялікі. Тады ўстаў Рыдан з пасаду і кажа:

— Бяжы-ж ты, сынку, імхамі-балотамі на падмогу яму, бо сам адзін не праб'ецца ён праз скалістыя горы.

Пусьціўся Сож імхамі, балотамі на падмогу брату, а стары бацька сам астаўся ждаць сыноў. Доўга ждаў стары; не дaждаўшыся, з маркоты пачаў плакаць:

— Бадай вам, дзеткі мае, сьлязамі разьліцца!

Ды ўлучыў ён такі мамэнт, што такі запраўды разьліліся сьлязамі браты і стары бацька: у рэкі ўсе тры зьмяніліся.

Дняпро плыве садамі ды лугамі, Сож імхамі ды балотамі, а Рыдан — куды вочы глядзяць. А з таго часу ўсе сілы ляснога краю плывуць у чужое мора і там прападаюць...

## НЯДЗЕЛЯ

Ці вы ведаеце, што Міхась у сераду Нядзелю вёз, едучы з Баранавіч?

Едзе ён, аж бяжыць паненка, усянютка ў белі прыбрана, і просіцца:

— Чалавечку! Падвязі мяне.

Ён кажа:

— Сядай.

Яна села.

Едзе Міхась, ажно бачыць: здалёк бягуць два сабакі белыя. Паненка як сабак угледзела, схавалася пад фартух у брычцы і просіцца:

— Чалавечку, не кажы ж ты сабакам, што мяне вязеш.

Аж даганяюць сабакі і пытаюцца:

— Чалавеча, не бегла сюдэма паненка ў белі?

Ён кажа:

— Не, не бегла, не бачыў.

Яны яго абмінулі дый пабеглі на сухі лес.

Тады паненка ўстала і кажа:

— Добра, што ты ім не сказаў, бо гэта я — Нядзеля. Каб ім сказаў, яны мяне б разарвалі, дый ужо ў вас не было б нядзелі, быў бы толькі будзень.

Тады злезла з брычкі дый сама недзе згінула.



## СЕРАДА І ПЯТНІЦА

Серада і Пятніца сустрэліся раз на раздарожжы дый пайшлі далей разам. Вось ідуць яны, ідуць дый сустракаюць чалавека, які вяртаўся з кірмашу дамоў. Параўняўся з імі чалавек, ды як зірнуў, што ідуць якіясь падарожныя жанчыны, сказаў ім «дабрыдзень» дый паехаў далей. Адышліся Серада з Пятніцаю дый пачалі спрачацца, каму гэта чалавек даў дабрыдзень. Адна кажа — мне, а другая — мне. Доўга спрачаліся яны, нарэшце згадзіліся вярнуцца ды спытаць у самога чалавека.

Вось яны пераляцелі назад дый зноў сустракаюць таго чалавека. Зірнуў чалавек ды адразу і пазнаў, што гэта тыя самыя. «Што за ліха, — думае ён, — што гэта за праява? Хіба якая марока? Я ж сустракаў іх на раздарожжы ці каля паваротკі, а тут вось ад'ехаў, а яны зноў ідуць насустрач. Ліха іх вазьмі, дам ізноў ім дабрыдзень».

Тут ён схамянуўся дый кажа:

— Дабрыдзень!

— Чалавеча, — пытае Серада, — каму ты даў дабрыдзень?

— Чаго? Тпру! Каб цябе ваўкі зарэзалі! — крыкнуў чалавек на каняку, супыняючы яе.

— Каму ты даў дабрыдзень? — пытае Пятніца ўжо.

Чалавек зірнуў то на адну, то на другую дый кажа:

— А ці я ведаю! Багі вас ведаюць, хто вы такія!

— Мы Серада і Пятніца, дык каго ты больш шануеш, Сераду ці Пятніцу?

— І серада й пятніца — добрыя дзянькі. Мы іх і шануем.

— Не, але каго ты больш любіш, Сераду ці Пятніцу?

— Мы больш любім нядзельку, бо гэта свята.

— А з нас каго больш?

— У серадную ўсё ядуць, а ў пятніцу не прадуць, не аруць.

Пабачылі Серада ды Пятніца, што ад хітрага мужыка нічога не дапытаешся, плюнулі дый пайшлі далей. Мужык ад'ехаў трохі, азірнуўся дый кажа:

— Яшчэ пытаюць, каго мы больш шануем. Абедзьве голадам мораць ды яшчэ пашаны хочуць. Той у пашане, хто нам есці дае.



# АДКУЛЬ УЗЯЎСЯ МЯДЗВЕДЗЬ

Ці ведаеце вы, адкуль узяўся мядзведзь?

Мядзведзь перш быў такі самы мужык, як і ўсе мы, гарапашнікі.

Даўно тое здарылася. Людзей тады было мала. Гэта цяпер так народу намножылася, што ледзь зямля іх падымае. А даўней людзі жылі сям-там па лесе, лавілі звера, птушак, а ў азёрах ды рэках — рыбу. Улетку збіралі ягады або капалі карэнне, рабілі запасы на зіму. Больш за ўсё запасалі арэхаў і мёду. Пчол тады было багата. Яны самі вадзіліся ў дуплах і ў земляных норах. Па лесе і цяпер яшчэ ёсць пчолы ў дуплах. Дык вось людзі і шукалі такіх пчол, і хто першы знаходзіў, таго і былі тыя пчолы. Ён абвязваў дрэва, на якім вяліся пчолы, лічылася, што гэтыя пчолы яго, а таму ніхто не меў права іх чапаць.

Але жыў сярод людзей адзін гультаяваты мужык. Яму не хацелася самому шукаць пчол, дык ён ухітрыўся выдзіраць чужыя. Толькі цяжка яму было ўзлазіць на дрэва. І пачаў ён шукаць ведзьмара.

За сямю лясамі ды за сямю балатамі меўся такі вядзьмар. Вось і пайшоў гультаяваты мужык да яго. Ідзе ён ды ідзе лясамі, ба-

чыць — ліпа абвязана; думае — пчолы. Падышоў бліжэй, зірнуў, аж дупло зусім нізка, а ў дупле — мёд. Выдраў гультай пчол і пайшоў далей. Бачыць — другое дрэва абвязана. Выдраў ён і тут пчол. Сыты і задаволены падыходзіць гультаяваты мужык да зямлянкі ведзьмара. Таго якраз не здарылася дома. Глядзіць мужык, аж тут пры самай зямлянцы ў дрэве пчолы. Давай гэта ён і тых пчол выдзіраць.

Але тут вядзьмар з'явіўся. Зірнуў на чужога чалавека і кажа:

— Раз пагаліўся на чужое, дык з гэтае пары і ты, і твае дзеці, і ўсё тваё кодла будзеце толькі пчол драць!

Абярнуў вядзьмар таго гультаяватага мужыка ў мядзведзя.

Дык вось адкуль узяўся мядзведзь.

## ЧАМУ КОНЬ НІКОЛІ НЕ ПАД'ЕСЦЬ

Вядома, што вол паесць трохі і ляжа, а конь есць-есць і ніколі не пад'есць. А чаму гэта так? Таму што калісьці хадзілі па свеце вандроўнікі-чараўнікі, і трэба было аднаму такому падарожнаму перайсці цераз раку. Спачатку ён папрасіў каня:



— Перавязі мяне.

А конь кажа:

— Я яшчэ не пад'еў.

Тады падарожны — да вала:

— Перавязі мяне, воліку, цераз ваду.

Волік:

— Сядай, зараз перавязу.

Сеў падарожны на вала, і той перавёз яго на другі бок. Вось за тое вол хутка пад'есць і адпачывае, а конь есць дзень і ноч і не можа наесціся.

## ПРА ЗЯЗЮЛЮ

Жылі-былі брат і сястра. Брат быў вельмі бедны, а сястра — дужа багатая.

Аднойчы пайшоў брат да сястры, каб хоць кавалкам хлеба дапамагла.

Сястра скупая была, сказала, што ключы ад клеці згубіла. І пачала яна нібы шукаць ключы, а брат стаяў, стаяў пад акном, чакаў, чакаў і нарэшце не вытрымаў і пайшоў.

На дарозе паваліўся і памёр ад голаду.

Сястра зразумела, што зрабіла дрэнна, і стала клікаць брата:

— Якуб, Якуб, вярніся, ключы знайшліся.

Праз сваю скупасць яна зрабілася зязюляй і цяпер увесь час кліча:

— Якуб, Якуб!
Толькі чуваць:
— Ку-ку, ку-ку!

*Зоська Верас*

## СКУЛЬ УЗЯЛІСЯ Ў НАС БЯРОЗЫ І АСІНЫ

Гарачае, ой, якое гарачае было лета! Людзі абліваліся потам, жывёла хавалася ў кусты ад гарачыні і ад мухаў; нават птушкі змоўклі і драмалі ў цяньку зялёных галінак.

На вузкім загоне жала трое людзей: бацька, маці і дачка. Бацька і маці, хоць пот ліўся цурком з іх твараў, працавалі шчыра, каб толькі зжаць хутчэй сваю ніўку. Але ж дачка не тое: аглядалася, пацягвалася, пастойвала. Відаць, гультайка была добрая. Наракала то на гарачыню, то на мух; то жалілася, чаму не наляціць цёмная хмарка, чаму дожджык халодны не асвежыць зямлі. Не памаглі ні просьбы мацеры, ні пагрозы бацькі.

Нарэшце маці, угледзеўшы, што дачка зноў стаіць, рукі злажыўшы, не выцерпела ды са злосці крыкнула:

— Чаго ж ты зноў стаіш? А каб ты стала асінаю!



У дрэнную гадзіну быў кінуты праклён. У моманцік ногі дзяўчыны перамяніліся ў пень, каторы ўрос у зямлю; рукі выраслі ў паднятыя ў неба галіны, пакрытыя круглаватымі зялёнымі лісточкамі, што так безупынку дрыжэлі, як дрыжэла ў мінуту праклёну цела спалоханай дзяўчыны.

Загаласіла маці, заплакала. Абедзвюма рукамі ўхапілася за галаву, ірве валасы.

Расплялiся косы, слёзы ракой ліюцца.

Спалоханы бацька анямеў на хвіліну, ды і ён як загалосіць:

— А што ж ты нарабіла!.. А долечка мая няшчасная... А каб ты сама бярозаю стала!..

Стаіць маці, рукі апусціўшы. Белая яе вопратка белай карой стала; валасы галінкамі тоненькімі, цёмнымі, бліскучымі да зямлі звешваюцца; як густыя слёзы, дробнае лісце па галінках сплывае. Стала маці бярозаю.

Многа вякоў з таго часу прайшло, а бярозы і асіны развяліся ўсюды па нашай зямлі.

*Сяргей Грахоўскі*

# ГАРЫВАДА

## ПАЛЕСКАЯ ЛЕГЕНДА

### 1

З той пары многа вёснаў і зім праляцела,
Болей гора, чым шчасця, было у жыцці,
Калі ў нетрах Палесся дзяўчына хацела
І святло, і цяпло, і збавенне знайсці.

За лясамі гібелі замшэлыя хаты,
Саламяныя стрэхі ў пясок ураслі,
Ад світання да поўначы гнуўся араты
На палітай слязьмі і крывёю раллі.

На касьбе і жніве гадаваліся дзеці,
Дождж іх мыў і балотны туман спавіваў.
Грэла сонца, люляў над калінаю вецер
І адну калыханку над імі спяваў.

Вечарамі на комінку тлела лучына,
Навальніца да рання над полем гула,
Праз акенца у цемру глядзела дзяўчына
І чакала збавення, цяпла і святла.

А навокал асеннія пушчы шумелі,
Выплывалі, як зданні, з дрыгвы туманы,



Пугачы рагаталі, ваўчыцы шалелі,
І кружылі над кожнай страхой груганы.

А за полем і гаем, над ціхай ракою,
Белы замак стаяў на крутой вышыні,
Там пілі і гулялі, і ў кожным пакоі
Аж да самага рання гарэлі агні,

І лілося віно, і звінелі цымбалы,
Аж дрыжалі ад песень і скокаў муры...
Многа вёснаў, і летаў, і зім мінавала
З той далёкай, але не забытай пары.

### 2

Пачыналася рана вясна на Палессі,
Прачыналася ранелька-рана Алеся,
На світанні выходзіла з курнае хаты,
А за ёю ішлі на дарозе дзяўчаты
На чужое, агорклае, панскае поле
І сваю праклілалі прыгонную долю.

Пралятлі над імі буслы з журавамі,
І казала Алеся: «Ляцець бы за вамі
На лугі, на азёры, на ціхія рэкі,
Каб забыцца пра гора і панскія здзекі,

Паляцець бы за вамі і нам за аблокі,
Пад гарачае сонца, у вырай далёкі,

Каб не вяла краса, каб не гінулі сілы,
Падарыце нам лёгкія, белыя крылы».

Пазіралі журботна на неба дзяўчаты,
А насустрач ляцеў на кані прыганяты,
Захмялелы і люты, як чорная хмара,
І развеяў дзявочыя светлыя мары.

За сахою хадзілі, капалі, палолі,
Не раса зіхацела, а слёзы на полі,
І ад самага рання да позняе ночы
Чула пушча праклёны у песні дзявочай.

Не сядзелася ў хаце вясною Алесі —
Забывалася гора,
блукаючы ў лесе.
Гаманілі дубы і замшэлыя хвоі,
Булькатала крыніца пад елкай крывою,
У кустах і ў ламаччы знікала сцяжына
Віўся хмель, налівалася сокам ажына.

Не прабілася сонца ў зялёныя нетры,
Не шумелі яліны ад буйнага ветру.
Зарасла багуном і чаротам нізіна,
Расступілася пушча, а там — азярына,
Ні лілеяў, ні бросні не відна нідзе,
Не калышуцца хвалі на чорнай вадзе,
Загусцелай, укрытай вясёлкамі тлушчу,
І трава каля возера чорная ў пушчы.



Паглядзелася Алеся на чорнае ўлонне,
Зачарпнула вады ў тугія далоні,
І адразу зрабіліся рукі рудыя:
«Як дагэтуль не бачыла чорнай вады я?

Як ніхто да мяне па сцяжынцы звярынай
Не дайшоў да глухое лясной азярыны?»

Берасцянку тугую Алеся скруціла,
Разагрэтай смалою яе засмаліла,
І дамоў, каб ніхто не заўважыў сляды,
Берасцянку панесла дзівоснай вады.

Да Алесі пад вечар сышліся мужчыны,
Запалілі на комінку смольнай лучыны,
Пры няроўным святле разглядалі дзяды
Чарадзейныя кропелькі чорнай вады.

Вось адна на сухую лучынку упала —
Зырка ўспыхнула полымя, затрапятала.

Запыталі сівыя мужчыны тады:
«А ці многа у возеры чорнай вады?»

Адказала Алеся: «Канца не відно.
Колькі я ні глядзела, не ўбачыла дно».

«От і добра, — гаворыць хлапец малады, —
Сцежку ведае толькі Алеся туды,

Хай не кажа, ці блізка ісці, ці далёка,
Каб не ўбачыла возера панскае вока,
Каб цівун не дазнаўся, што ў пушчы сляды
Праз балота вядуць да гаручай вады.

А сцяжынку на возера ў цёмным бары
Хай пакажа Алеся малодшай сястры».

4

Калі ў небе дрыжалі блакітныя знічкі,
Загарэліся ў хатах нясмела газнічкі —
Калыхаўся агеньчык на тоненькім кноце
І святціў аж да пеўняў прыгоннай галоце.
Пралі кужаль кабеты і кросны снавалі,
Весялей на вячорках дзяўчаты спявалі.

Хоць і паншчына гнула, і голад душыў,
Пасвятлела адразу ў людзей на душы,

Спадзяваліся — прыйдзе збавенне народу,
Бо мужычаму роду няма пераводу,
І паціху Алесю хвалілі заўжды,
Што прыносіла ў хаты гаручай вады.

Цераз вёску пад восень, якраз на змярканні,
Ехаў пан з прыганятымі на паляванне,

Прыпыніўся на вуліцы з нейкай прычыны
І пабачыў, што ў хаце гарыць не лучына.



— Што там свеціць?
Адкуль у халопа газніца?
Дапытаць. А не скажа, на стайні дабіцца!

Цівуны паляцелі ў Алесіну хату.
— Ну, расказвай, якое мужычае свята
Ты спраўляеш? — пытае старэйшы адразу,—
І адкуль узялася газніца і газа?

Відна, мала вас білі і мала каралі,
Калі з панскага замка вы газы накралі!

— Не, зямелька нас корміць,
зямелька нам свеціць,
Нам ад пана нічога не трэба на свеце.

Мы сваё аддаём. Ці ж не з нашае працы
Вырастаюць да самага неба палацы?

Замігаў газнічок. Цівуны, як пачвары,
Бізунамі хвасталі Алесю па твары.

Хоць раз'юшаны пан гарцаваў на кані,
Загараліся ў кожнай хаціне агні.

Пасвятлелыя вокны у цемені ночы
Асляплялі зайздросныя панскія вочы.

Ён ад злосці шалеў. Загадаў, каб Алесю
Гайдукі з цівунамі вадзілі па лесе.

Аж пакуль не пакажа дарогу туды,
Дзе знайшла азярыну гаручай вады.

Не сціхалі, дапытвалі дзеўчыну каты
І пагналі разутую з бацькавай хаты,
Сырамятнымі путамі рукі скруцілі
І па лесе да самае ночы вадзілі.

«Каб хацела, ніколі, ніколі ў жыцці
Мне да возера сцежку не ўдасца знайсці —
Бізунамі адбілі мне памяць і розум»,—
Прашаптала Алеся дубам і бярозам.

А за ёю праз пушчу, чарот, баґуны
На стаенніках ехалі тры цівуны.
— Супыніся! Ты зноў павяла не туды,
Пад дубамі на сцежцы чарнеюць сляды!

Задрыжала, заныла дзявочае сэрца,
Што прыкмецілі сцежку яны да азерца.
І пагналі па багне, кустах і ламаччы —
Не ад болю Алеся, .ад роспачы плача,

Расхінулі чарот. Каля берага сталі...
Зашумелі на возеры чорныя хвалі,
Закіпела, завыла густая вада,
Застагнала Алеся: «Ой, будзе бяда...»

— Ты вядзьмарка,
няйначай,— крычаць цівуны,



Узвіліся над дзеўчынай тры бізуны.
Тут маланка рассекла барвовую хмару,
І над возерам гром нечуваны ударыў.

Захраплі, на калені пападалі коні,
Закіпела вада ў глыбокім прадонні.

Правалілася дно, пакаціліся хвалі
І адна за другою ў прорве знікалі.

Паказаліся з возера выспы, груды,
І не стала ні белай, ні чорнай вады.

— Згінь, вядзьмарка! —
ад злосці раўлі цівуны,
Папрыкручвалі рукі да тоўстай сасны.

Пазірала Алеся спакойна на катаў
І казала,
што хутка надыдзе расплата,
Што пакутаў і цемры ніколі не будзе,
Што святло адшукаюць сумленныя людзі.
Асталася Алеся ў дрымучым бары,
Праціналі пабітае цела вятры,
І дзяўчына ад крыўды заплакала горка,
Але чуе — паўзе па хваіне вавёрка,

Каля ног выбіваецца з чорнай травы
Невялічкі гарачы агеньчык жывы.

Перагрызла вавёрка раменныя путы,
Уздыхнула Алеся.
Мінулі пакуты.
На агеньчык сухога накідала вецця,
І пайшла, і панесла надзею па свеце.

Асталася Алеся навек маладою,
Вёску ж людзі назвалі Гарывадою.

**5**

З той пары пралятаді гады і стагоддзі,
Але вера жыла і дужэла ў народзе,
Што святло і гаручай вады на Палессі
Адшукаюць калісьці нашчадкі Алесі.

Ад палацаў адны засталіся руіны,
А імя не забылася смелай дзяўчыны,
І пад гоман кастра каля белай палаткі
Пра Алесю расказвалі казкі нашчадкі.

На звярыных сцяжынках, на багне, на гале
Маладыя геолагі скарбы шукалі,

Пад дажджамі, і ў спёку, і ў лютыя буры
Прабівалі балота сталёвыя буры.

Аддавала зямля ўсё, што некалі мела,
Працавітым, разумным, сумленным і смелым.



За Алесінай вёскай, на полі ў зацішку,
Вырасталі за вышкаю новыя вышкі,

А калі зацвіталі вясною сады,
Падняліся фантаны гаручай вады.

Вырас горад, нібыта ў казцы ці ў песні,
І не згаснуць ніколі агні на Палессі!

*Уладзімір Караткевіч*

## КАЦЁЛ З КАМЕНЬЧЫКАМІ

Давай з табой сядзем і пагаворым. Ты што, спаць збіраешься ці хворы? Тады заставайся ў цёплым ложку. А калі ты здаровы і ты здаровая, то давайце сядзем на пашчапаныя бярвенні, ля прызбы, на лаўкі, а каму зручна — той і проста на падлозе.

І ўявім мы, што памчалі мы на нашым дыване-самалёце ў вясёлкавы наш з табою край, у сівую нашу з табой даўніну.

Ці бачылі вы паўночныя нашы ўзгоркі? Яны не дужа высокія, але ўсё ж верас на іх на некалькі дзён раней робіцца сівы. Ад падмарозкаў.

І сівыя робяцца старадаўнія валуны, камяніскі, камні, каменьчыкі. А пасля пачынаюць пакрывацца шкляным, ружовым на

ўсходзе лядком — заберагам, шматлікія нашы з табой азёры. А выкапаную бульбу даўно ўжо звезлі ў хаты і свірны, звалілі ў капцы.

Дык вось было гэта даўно, вельмі даўно, так даўно, што ў нашай з табой краіне яшчэ не было тады бульбы.

Стаялі тады на беразе маленькага чыстага возера — існае вочка зямлі — дзве хаты. У адной, багатай ды ганарлівай, жыў мужык Ігнат. Нядобры ён быў чалавек, жонку замарыў работай, дзеці ад хатняга рабства ў свет пайшлі. А гаспадар усё не ўтаймоўваецца, усё пад сябе грабе. Усё наваколле прыдушыў, глытай.

— Забыўся, што ў труны кішэняў няма,— горка пажартавала добрая Мар'я, бліжэйшая суседка. Бо яе хата бліжэй за ўсіх стаяла. Хата яшчэ з дзядоў, моцная, але зусім не дагледжаная. Бо гаспадара ўзялі на вайну і засталася жанчына адна з маленькімі дзецьмі. Аж пяцёра, і кожнае на пстрычку ніжэй за другое. І кожнае ўвесь час галоднае.

Пакуль бацька быў, сяк-так перабіваліся, а тут...

Словам, запанаваў на нашай зямлі самы страшны, самы подлы грэх, імя якому Несправядлівасць. Гэта калі адзін не можа заснуць, бо аб'еўся, а другі — бо галодны.



А дзеці — дык тыя нават плачуць з голаду. Кепска. Ніколі не дапамагай Несправядлівасці. За іншае, можа, і даруюць. За гэтае — не.

...Позняя, халодная была вясна. Такое самае лета. А восень яшчэ горай. Завылі вятры, уздзьмуліся рэкі, пашалелі азёры. Сатлелі травы на паплавах. Ад бацькі чуткі няма. Прыйшла чарга Мар'і ісці па дапамогу да суседа. А той сядзіць, далоні пад азадак паклаў ды пыхкае, як вожык. Нажэрся свіння свіннёю.

— Ну што?

— Пазыч мне, суседзе, меру ячменю ды меру фасолі. Я табе за гэта вясной адраблю.

— Адро-обе. Вясно-ою. Вясной усё наваколле адрабляць прыйдзе. А ты да таго часу ледзь ногі цягаць будзеш, а шчанюкі твае, можа, і не пацягнуць зусім. А можа, ты і ўдава цяпер. То й ён не адробіць. Не дам.

Рабіць няма чаго. Прыйшла бедная жанчына ў сваю халупу і, не запаліўшы нават лучынкі, упала на ўслон.

Цёмна. Цёмна за акном. Цёмна. Нізкія чорныя хмары і выхаду няма.

Да іншых суседзяў бегчы? Памаглі б, але і там тое самае. А дзецям што? Дзеці не ведаюць, як дарослым хлеб дастаецца. Цяжкай працай, часам — прыніжэннем. Калі зра-

зумеюць — пашкадуюць. А тут плачуць толькі на розныя галасы: «Сільна і слёзна», як у старых кнігах пісалі:

— Матухна!

— Зязюленька!

— Пакармі нас!

— Хлебца дай!

— Аклаец!

Што рабіць беднай Мар'і. Вырашыла яна дзяцей падмануць.

— Вы ляжыце зараз. Засніце. А я пайду бабоў назбіраю. Навару ды буду вас карміць.

Дзеці не засынаюць. Тады пайшла кабета, назбірала на полі дробных каменьчыкаў (а іх было сапраўды, як бобу), высыпала ў кацёл і паставіла на агонь. Настолькі бедная была хата, што і печкі няма.

Варацца каменьчыкі. Паснулі дзеці. Супакоіліся. Разбудзіць матка — наядуцца. Варацца каменьчыкі — да канца свету ім варыцца. Да канца свету плакаць матцы.

Ажно ўваходзіць у хату нейкі чалавек. Сам доўгі, кашчавы, з кіем, з торбай, адкуль нейкія травы тырчаць. І вочы пранізлівыя:

— Добры вечар у хату. Пусціце абагрэцца.

— Грэйся, добры чалавек. Толькі пачаставаць цябе няма чым.

— А што ж у катле варыш?



— Гэта, добры чалавек, каб дзяцей прысыпіць да заўтра, — і прыўзняла крышку катла.

— Гэт-та што такое?

— Камні. Муж у войску — можа, й забілі. Прасіла ў суседа чагосьці — не даў. Толькі й засталося на гэтай зямлі беднаму чалавеку каменьчыкі есці.

— Што ж ён?! Дзецям не даў?! Проста дзецям?!

— Не даў.

— Д-добра, — сказаў незнаёмы. — Бяры кацёл. Пайшлі.

Прыйшлі на надзел. Незнаёмы паставіў кацёл, азірнуўся: ля хаты Ігнат стаіць. Цікуе. А што гэта яны там робяць? Чаго кацёл прынеслі?

А незнаёмы той быў Вялікі Чараўнік. Толькі чараваць яму ў жыцці дадзена было тысячу разоў і засталіся лічаныя разы. І нічога ён тым сваім чараўніцтвам не дабіўся. Як дагэтуль ішло, так і пасля.

«Але тут, — думае, — здужаю».

Узяў ён з катла жменю каменьчыкаў і са свістам, як з сявенькі, сыпаў на раллі. І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ.

— Што ж ты, — паскардзілася Мар'я. — Так загон благі, а ты яшчэ й каменьчыкамі, што сабрала, падсяваеш.

— Маўчы,— сказаў той.— Глядзі, што будзе.

— Так ёй,— сказаў Ігнат.— Таксама мне, дзеці. Ва ўсіх дзеці. Муж на вайне. Гм, таксама мне, страшная штука вайна.

А незнаёмы сыпе і сыпе. Увесь загон каменьчыкамі засеяў. Россып. Дзецца няма дзе.

Мар'я плача. Ігнат смяецца. Балаган на кірмашы, і толькі.

— Глядзі, жанчына,— сказаў незнаёмы.

Тая зірнула — і вачам не паверыла: растуць каменьчыкі. Вунь ужо камяні сталі. Памерам з два кулакі.

— Збяры частку, пакладзі ў кацёл,— сказаў незнаёмы.— Пастаў варыць дзецям.

У Ігната вочы на лоб палезлі. А жанчына панесла кацёл з каменнямі ў хату. Прыйшла — камяні яшчэ падраслі.

— Глядзі, жанчына, за адзін дзень я табе ўсё пакажу. Заўтра будзешь капаць. А ва ўсе наступныя разы будзе гэта цягнуцца цэлае лета. Глядзі.

І тут камяні пачалі зарывацца ў зямлю. Як ружовыя, жоўтыя і белыя парсючкі. Ігнат аж счумеў. Вачыма толькі водзіць, нібы ў чужы гарох залез, а яго, злодзея, заспелі.

Пачакалі яны крыху — з'явіліся з зямлі парасткі, гусцець пачалі.



— Прынясі, кабета, матыку,— сказаў незнаёмы.

Тая прынесла. Расточкі ўжо ў кусцікі ператварыліся.

— Пацяпай вось так. Загарні ім ножкі ў кажушок... І яшчэ раз загарні.

А кусцікі ўжо амаль кусты.

І вось на кустах заззяла мора кветак. Белыя, ружовыя, лілаватыя, ружова-белыя зорачкі. І ўсе з жоўтым сэрцайкам.

— Вось цяпер можаш яе памацаць на выбар,— сказаў незнаёмы.— Гэта як дзеці галодныя.

І выняў два камяні з-пад куста.

Пасля засумавалі кусты, паблякла іх лакіравана-шурпатая, зялёная зверху і матавая спадыспаду паверхня, пасохла гікаўё.

— Ну вось, заўтра будзешь капаць. На ўсю зіму хопіць,— сказаў незнаёмы.— І з суседзямі падзяліся.

— Ясна,— сказала Мар'я, бо ўжо далятаў з хаты сыты, некаменны дух.— З суседзямі найперш.

— Мне! Мне — кінуўся Ігнат.— Мне перш за ўсё! Я іх кармлю-паю!

— І на работу наймаешь? — спытаў незнаёмы. Выняў адзін камень, і той закурэў у ягоных руках, а чалавек разламаў яго, паса-

ліў і стаў есці.— І не адмовіў ім у ежы, калі галадалі?

— Мне! Мне! Наймаю, кармлю.

— Добра,— сказаў незнаёмы.— Набяры мне кацёл каменьчыкаў са свайго поля. Ды хутчэй.

Ігнат чуйдух прыляцеў з катлом. Самых буйных, з кулак, камянёў нацягаў.

— Во! Во! У мяне ж і каменьчыкі. Во ў мяне, дык камні з кулак. А гэтыя ж лайдакі, хіба ў іх камні. Слёзы, а не камні.

— Слёзы,— сказаў незнаёмы.— Дык хочаш, каб у цябе яшчэ больш стала. Усё ж ёсць. Што даў — такі і плод.

— Мне! Мне! У мяне і камні.

— Глядзі-і,— сказаў незнаёмы і сыпануў камяні па Ігнатавым полі. І яшчэ. І яшчэ. Засеяў усё поле.

— Ну вось. Даў сёння хлеба яе дзецям?

— А што? Галадранцы. Самога з'ядуць, як мяккі будзеш.

Незнаёмы махнуў рукой.

Камні пачалі расці. Усе трох стаялі і глядзелі, як яны растуць: каменьчыкі — камні — камяні — камяніскі. Усё поле закрылі — Ігнат аж падскокваў.

— Ну чакайце, за такімі вы яшчэ й да мяне ўсе прыбяжыце. Прыйдзеце, любенькія, як прыпрэ.



Паглядзеў на яго незнаёмы, плюнуў.

— Ну вось, маеш,— сказаў.

— А чаму яны не зарываюцца?

— А таму, што вечна ім заставацца на вачах у людзей, як кожнаму скнарству, як кожнай жорсткасці, як кожнай нелюбові да людзей, як кожнай Несправядлівасці.

І пайшоў з жанчынай да яе хаты.

Кінуўся шчаслівы гаспадар да поля — не поле, а суцэльная каменная крушня. Валуны велічынёю з хату. На тысячу год наперад з зямлі вылезлі.

Пакуль дзеці, незнаёмы і жанчына елі ў хаце «камяні» — усё наваколле чула з-за каменнага мура дзікі віск і выццё. Выў і рыкаў Ігнат.

А пасля незнаёмы ўстаў.

— Пайду,— сказаў ён, закінуўшы за плечы торбу.

— Чым мне табе аддзячыць?

— Нічым. Дабрынёю да людзей. Ды гэтага дабра ў цябе заўжды хапала.

— Пайду пагляджу, як сусед. Звар'яцеў, пэўна.

— Нічога. Я ж кажу... дабра ў нас хапала. Залішне.

І пайшоў у свет, абапіраючыся на кій. Пад касыя асеннія хмары. Насустрач пералётам, што, калючыя, каціліся яму пад ногі.

Ужо зводдаль азірнуўся — Мар'я і дзеці глядзелі яму ўслед, маленькія на чорнай раллі.

— Гэй! А імя ёй будзе — Бульба! — крыкнуў ім незнаёмы.

І так з'явілася на Беларусі бульба.



*Якуб Колас*

* * *

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных
Балатоў тваіх, азёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?



*Данута Бічэль-Загнетава*

## БЕЛАЯ РУСЬ

Шчочку да вуснаў туліць,
каб таямніцу спытаць:
— Белая Русь, матуля,
гэта дзяўчынка?
Так?

Як называецца дзіўна...
Ты пра яе раскажы.
— Белая Русь — Радзіма.
Перад табой ляжыць.

Крыкні — яна адгукнецца
звонам гарачых кос.
Кропля з ліста сарвецца,
ускалыхнецца плёс.

Даль захлынецца громам —
Белая Русь запяе.
І азарыцца Нёман —
чыстае вока яе.

## РАДЗІМА

Радзіма —
нівы, рэкі і бары,
бярозавікам вецер набрыняў,

у Белавежы волаты-зубры,
а вунь мацуе ножкі зубраня.

Радзіма!
Тата, мама і браты,
сястра, бабуля, дзед
і шмат радні
зрабілі ўсё,
каб меў радзіму ты.
Яе высокі гонар не ўрані.

Стварай сваё,
ды беражы, што ёсць.
Дужэй між птушак,
песень і цяпла.

А розум, дабрату і прыгажосць
табе прырода родная дала.

*Кастусь Цвірка*

## ТАМ ЯНА

Там яна, дзе з небам сінім
Лес гамоніць трапяткі,
Дзе з бярозкаю асіна,
З ясным ясенем рабіна
Абняліся на вякі.

Там яна, дзе Буг аблокі
Пазбіраў з усіх нябёс,



Дзе Вілля, Дняпро шырокі,
Белавежа, Налібокі,
Нёмна песеннага плёс.

Там яна, дзе Прыпяць, Шчара,
Случ, Бярэзіна, Дзвіна,
Дзе Князь-возера і Нарач,
Свіцязь светлая, як мара,
І Бяздоннае без дна.

Там яна, дзе Тураў, Полацк —
Найстарыя гарады,
Мінск, чый чутны ўсюды голас,
Гомель, Віцебск, Брэст вясёлы,
Горад солі малады.

Там яна, дзе з кожным маем
Яблынь цвет ляціць з галля.
Палявая, лугавая,
Як заўсёды, маладая
Беларусь —
Твая зямля.

*Зоська Верас*

## ЧАРОЎНЫ КРАЙ

Сыночку маленькі, ты ручку мне дай,
Цябе павяду я ў нязведаны край,
Мы пойдзем вузенькай мяжою ўдваіх;

Так мякка, нат крокаў не ўчуем сваіх,
Так мякка, прыгожа, пахуча... аж рай!
Сыночку маленькі, ты ручку мне дай...

Глянь, жыта красуе на ўзгорку
крутым,
Русалкі-казыткі хаваюцца ў ім.
А зайчык, прысеўшы ля самай мяжы,
На жабкі міргае: «Дзе я, не кажы».

На лузе зялёным пан бусел стаіць,
А кнігаўка ўецца і просіць: піць-піць!
Шнур гусак на сонцы бліснуў, закрычаў,
Спусціўся і ў лозах-чаротах прапаў.

Па чыстай, празрыстай азёрнай вадзе
Лілея свае карагоды вядзе...
Камарыкі роем лявоніху скачуць...
Ля берага вербы хістаюцца, плачуць...
Чаго яны плачуць? Ты сэрцам
згадай...
Сыночку маленькі, ты ручку мне
дай...



*Янка Купала*

## СЫН І МАЦІ

### Сын

— Мамка, мамка, нам сягоння
Гаманілі ў школе
Аб якойсьці Беларусі,
Што жыве на волі.

Хоць я слухаў вельмі шчыра
(Не люблю іначай),
Ды ніяк не мог уцяміць,
Што ўсё гэта знача.

### Маці

— А вось тое, мае дзеткі,
Глянь-зірні наўкола:
Бачыш гэтыя сялібы,
Хаткі нашых сёлаў;

Гэта поле — шнур ля шнура —
Ўзгоркі і лагчынкі,
На узмежку грушу-дзічку,
Крыж каля пуцінкі?

Бачыш, логі, сенажаці,
А на іх — крыніцы,

Далей — бор зялёны, гонкі,
Што увысь глядзіцца?

А там далей, дзе ўжо вока
Дасягнуць не можа,
Тое самае пабачыш, —
А ўсё так прыгожа!

Сотні вёсак і мястэчак,
Гарадоў нямала,
Рэк бурлівых, пушч гамонкіх
З неапетай хвалай.

Там плывуць Дняпро і Сожа
Ды Дзвіна і Нёман,
Белавежы, Налібокаў
Там чуваці гоман.

Гарады —
Мінск, Віцебск, Вільня,
Магілёў, Гародня
І Смаленск з сцяной цаглянай
Разляглі выгодне.

Аб вялікай нашай славе
Сведчаць на свет цэлы, —
Як жылі мы, панавалі
Ў родным краі смела.

Во ўсё гэта, мае дзеткі,
Ад межаў да межаў



Беларусяю завецца
Й да цябе належа.

## Сын

— А! Ўжо сцяміў! Дык багат я,
Меўшы столькі цудаў:
Гэткім чынам я ніколі
Служкаю не буду.

Ну, а йшчэ скажы мне, мамка,
Бо я не разважыў:
Што такое беларусы,
Як настаўнік кажа?

## Маці

— Ах, які ты йшчэ дурненькі,
Каб не скеміць гэта!
Ну, паслухай: усе людзі,
Што ад лета ў лета,

Ад пакон вякоў жылі тут
І жывуць сягоння,
Носяць світкі, носяць лапці
Ды былі ў прыгоне,

Ўсе — і ты, і я, суседзі,
Хто, па-твойму, прусы?

Дык жа ўцям: на Беларусі
Жывуць беларусы!

Ды яшчэ, каб лепей ведаў,
Мушу табе ўспомніць:
Беларусы беларускай
Гутаркай гамоняць.

### Сын

— Вось яно што! Праўда, мамка,
Ўжо сабе ўтлумачыў:
Беларус я! Ох, дам пытлю,
Хто скажа іначай.

Ну, але яшчэ не ўсё тут
Ясным мне здаецца:
Што такое беларускай
Гутаркай завецца?

### Маці

— Ой, дурненькая варона,
Што з табой чыніці!
Як жа йначай беларусы
Могуць гаманіці?

Як жа мы з табой гуторым
Вось у гэту хвілю?



Як жа я пяю над зыбкай
Для малой Марылі?

Ды паслухай, як на вёсцы
Кажа дзядзька, цётка;
Як пяюць улетку жнеі
За сваёй работкай;

Як бабуля баіць казкі
Аб нядолі-долі;
Як начлежнікі спяваюць
На начлезе ў полі?!

### Сын

— Ну, ўжо знаю, знаю, мамка!
Як у люстры бачу,
Пакажу я ўсяму свету,
Хто я, дый што значу!

*Канстанцыя Буйло*

## ЛЮБЛЮ

**(Урывак)**

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.
І рэчку, што імкліва воды
Імчыць ў нязведаную даль,
І схілы берагоў пясчаных,
І яснасць чыстых яе хваль.
Люблю вясну, што ў кветкі, зелень
Аздобіць радасна зямлю,
Буслоў на гнёздах клекатанне
І спеў жаўраначка люблю.
Гарачую спякоту лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём,
І восень сумную люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
А касары — на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ва ўзор,
І белы снег, што, ўкрыўшы поле,
Ірдзіцца бляскам ясных зор.



*Сяржук Сокалаў-Воюш*

* * *

Блакіт нябёс, і белы бусел,
І кветкі ў полі, як абрус.
Мой край завецца Беларуссю,
А сам я — хлопчык-беларус.

*Вера Вярба*

* * *

Дарагія бясконца мясціны,
Ваш убор быў заўсёды такі:
Чырванеюць маністы рабіны,
Белы статак бяроз ля ракі.

Ўсё гаворыць тут роднаю мовай:
Ад вясенніх грымот да бароў,
Ад азёр і шумлівай дубровы
Да асенняй журбы жураўоў.

Да якое ж крыніцы прыпасці?
У якія азёры глядзець?
Мне пра вашае добрае шчасце
Свае шчырыя песні прапець!

*Пятро Глебка*

## НАШ ЛЕС

Вузкаю палоскаю
На краі нябес
Лёг за нашай вёскаю
Старадаўні лес.

Там, казалі, водзяцца
Сарны і дзікі,
Там, казалі, плодзяцца
Ў норах барсукі.

Там у таямнічыя
Ночы ля дубоў
Нашы паляўнічыя
Вабілі ваўкоў.

Дзівамі і казкамі
Быў ахутан лес,
Залатымі краскамі
Ён парос увесь.

І пайшлі аднойчы мы
На высокі груд
З выжламі і гончымі —
Паглядзець на цуд.

Мы ішлі дарогаю,
Мы блукалі дзесь



І пасля з трывогаю
Уступілі ў лес.

Там задорна-смелыя
Сосны параслі,
Там бярозы белыя
Нікнуць да зямлі.

Цішынёй і холадам
Вее ад нізін.
Дзяцел носам-долатам
Стукае адзін.

Ды ваверкі жвавыя
То вось тут, то там
Лапкамі, ласкавыя,
Пагражаюць нам.

Мы ідзём, галёкаем,
І аж восем раз
Водгулле далёкае
Паўтарае нас.

І ні следу сквапнага,
Ні звяроў жывых,
І ні паху вабнага
Красак залатых.

Але пушча вырасце,
Родзяцца ласі,

Бо у нас, па шчырасці,
Добрыя лясы.

А найлепшы з бачаных
Аж на свет увесь —
Цішынёй адзначаны,
Наш дрымотны лес.

## ЛОСЬ

У дрымотным лесе
Ходзіць лось рагаты,
У гушчар залезе
І стаіць, цыбаты.

З гушчару прабіцца
Да лясной дарогі
Вельмі ж замінаюць
Кручаныя рогі.

Лось забыў пра гульні
І, прамы і строгі,
Рушыў да цырульні,
Каб падстрыгчы рогі.

Яшчэ больш трывожны
Ён прыйшоў дадому:
Дзе ж ты возьмеш ножны
Волату такому?!



*Пімен Панчанка*

## МЕСЯЦЫ ГОДА

Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Беларускіх вясновых бяроз,
Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым мурогам, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Багаты кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад.

*Леў Парэмскі*

## ТУРНІР

Жыў на бярозе нашай шпак —
Непераўзыдзены спявак.
І спевы птушачкі любой
Перакладаў на голас свой.
Стараўся, рупіўся, спяваў
Усіх на свеце пераймаў.
Ды красавік да спявака

Падкінуў новага шпака.
Ён пасяліўся дрэў праз пяць
І нават лепш пачаў спяваць...
Між птушкамі не ўжыўся мір,
І час прайшоў — узнік турнір.
Адзін усклікнуў канюком,
Другі ў адказ — цецеруком.
Адзін — балотным кулікам,
Другі — залівістым драздом
Так выдаў
Гукаў пераліў
І так саперніка здзівіў,
Што той пераляцеў праз плот
І сеў на тэлеграфны дрот.
І гукаў гэткіх перабор
Пачаў ён, быццам цэлы хор
Жаб, качак, галак і варон
З сабой на дрот паклікаў ён.
Такога першы не стрываў
І ён — на дрот, і заспяваў.
Сарок і качак, і дзятлаў
Злятаюць галасы з дратоў.
У іх ўсё: і свіст, і фырк,
І шчоўк, і бульканне, і пырск...
Даўно змагаюцца.
Аднак
Верх не бярэ ніводзін шпак.
Ды першы зладзіў перабой —
Каронны нумар выдаў свой.



— Фі-ціу-ліу! — засвістаў —
Бы звонкай івалгаю стаў.
Зафлейціў так, што шпак другі
Падняўся, стаў рабіць кругі
І з вышыні
Піке заклаў
І закрычаў над першым: — Мяў-ў!..
Гарласта, быццам бы кату
Хтось стукнуў чымсьці па хвасту.
І першы шпак не спасаваў —
Ён Жучкай нашай забрахаў...
І разляцеліся ў бакі
Непераможна спевакі.
Без перавагі ў барацьбе
Спяваць стаў кожны сам сабе.

*Янка Брыль*

## ЖЫЎ-БЫЎ ВОЖЫК

Нашага вожыка тата злавіў у лесе і прынёс у кішэні дахаты. Спачатку вожык ляжаў, як клубок. Як паклалі яго ў кутку, пад маім ложкам, так ён і ляжаў. Я наліў яму ў сподачак малака. А вожык хоць бы што. Тады я лёг побач з ім на падлозе і пачаў назіраць.

На дварэ змяркалася, і пад ложкам рабілася цёмна.

— Дурненькі ты, — сказала мама. — Ты

яго толькі не чапай, ён малако знойдзе.

І праўда, толькі я лёг у ложак і ў хаце зрабілася ціха, як у куточку пад ложкам нешта ціхенька заварушылася і зачмыхала:

— Ту-ту-ту-пых! Ту-ту-ту-пых!

А потым па дошках падлогі затупацелі маленькія мяккія ножкі.

— А што, не гаварыла я,— сказала мама.— Не палохай, ён малако пачне хлябтаць.

І праўда, мы памаўчалі, і неўзабаве пачулася, што нехта маленькі хлебча. Не так, як кот, а так, як парасяты,— плямкае. Вожык тупацеў усю ноч, і за гэта мы пачалі называць яго Тупцікам. А за тое, што ён перастаў нас баяцца, я не забываўся даваць яму есці.

Але не было з кім Тупціку пасябраваць. І стала яму сумна ад гэтага. Каб развесяліць вожыка, я зняў аднойчы са сцяны люстэрка і паставіў на падлозе. А вожык падышоў да люстэрка, наставіў лычык, паглядзеў і надзьмуўся. А той, што у люстэрку, надзьмуўся таксама, і вось яны разам зрабілі:

— Пых!

Мы засмяяліся — і тата, і я, а Тупцік паглядзеў, асцярожненька дакрануўся лычыкам да шкла і як быццам усё зразумеў. Адышоўся і больш не глядзеў у люстэрка.

І мы занеслі Тупціка ў агарод. Яму цяпер весела, добра на волі.





## БЛАГАСЛАВІ, МАЦІ

(З народнага)

Благаславі, маці,
Вясну заклікаці,
Лецечка сустракаці.
Прыйдзі, вясна,
Прыйдзі, красна,
Ой, Дзід-Лада.

— Вясна-красна,
На чом прыйшла,
На чом прыехала?
— На сошаньцы,
На бароначцы.

*Ларыса Геніюш*

## ГОД І ЯГО РОД

Год стары дзяцей склікае,
Ён да ўсіх пытанне мае.
Сеў паважна ў крэсла:
— Што, вясна, прынесла?
— Я прынесла травы, кветкі,
Птушкі ў неба, рыбу ў сеткі.
— А я, лета, нясу хлеба,
Маю ягад колькі трэба,
Усё зграбаю сенажаці,
Не сяджу ніколі ў хаце.



Людзям збожжа, дрэву — плод,
Птушкам — гнёзды, пчолам — мёд.
— Я, татуля, — твая восень.
Змалаціла ўсё калоссе.
Ў садзе яблыкі паспелі.
Птушкі ў вырай адляцелі.
Я арэхаў назбірала,
Бульбу ў полі пакапала.
— Я — зіма. Работу маю:
Дол абрусам засцілаю.
Я дні-ночы на хаду.
Пражу белую праду.

Едзе сын, Новы год, —
Вось і ўвесь дзядулеў род.

## ЛАСТАЎКА

Зялянеў пявучы май,
Да зямлі прыпаўшы.
Закахаўся папугай
Ў ластавачку нашу.

Не пяюн, а лапатун,
Рыжы, як з пажару.
Можа, ён і прыгажун,
Ластаўцы — не пара.

Ластавачка над зямлёй
Нізка пралятала
І на мове на сваёй
Гэтак шчабятала:

— Вопратку тваю хвалю,
Гонар — паважаю.
Ўсё ж, скажу,
Я не люб-лю
Розных папугаяў,
Што дзяцей пужаюць.

Калі хочаш з намі жыць,
Есці нашы мушкі,
Навучыся гаварыць
Лепш па-беларуску.

## ДОБРАЙ РАНІЦЫ, АЛЕСЬ!

Гожы пеўнік на жэрдку залез.
Кукарэкае, крыллем лапоча.
Добрай раніцы, мілы Алесь,
Дарагі, працавіты мой хлопчык!

Звоняць песняй даўно жаўрукі.
Мерыць бусел цыбаты балоты.
Выганяюць кароў да ракі,
Адчыніўшы шырока вароты.



Добрай раніцы, поле і лес!
Дрэвы, сёлы, дарогі бясконцыя!
Добрай раніцы, хлопчык Алесь!
Добрай раніцы, неба і сонца!

*Янка Купала*

## ВЯСНА

У вянку з пралесак,
У святлянай шаце
Ходзе борам-лесам,
Полем, сенажацяй.

Сонцу-яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брыльянты, росы.

Сцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

Весела міргае
Сошцы і баронцы,
Зернятка хавае
Ў свежай баразёнцы.

У гайкі заходзе,
Шапаціць лістамі;
Гутарку заводзе
З белкамі, дзятламі.

Роднае прыселле,
Вырай любіць вуча,
Лад вядзе ў капэле
Грамады пявучай.

Сяміцвет — вясёлкай
Ззяе над далінкай,
Ходзе за кароўкай,
Гляне і ў хацінку.

Дзецюку, дзяўчыне
Блогасна ўсміхнецца,
Штось на вуха кіне,
Закалоце сэрцам.

І усюды гэтак —
Полем, сенажацяй,
У кароне з кветак,
У святлянай шаце.

*Кандрат Лейка*

## ГАРАБЕЙ

От гаробчык, спрытны
хлопчык,
Каля хат сягае,
Сюды-туды, ўбок, узад
Ножкі выхіляе.
Дзяўбе з ранку да вечара —
І тут, і там кража,
А спытайся: ці наеўся?
— Чуць жыў, — ён адкажа.

*Якуб Колас*

## ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках — булі-гулі! —
Песні чуюцца вясне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык-ручаёк.
На яго, бы тая матка,
Сонца кідае свой зрок.

А ён, гучны і смяшлівы,
Так і ходзіць, аж дрыжыць,



І другі сябрук шчаслівы
Насустрэч яму бяжыць.

Ты паслухай, дзед сярдзіты,
Што там чуецца ўгары?
Што за спеў за самавіты
Ў небе правяць песняры?

А зіма аж пачарнела —
Годзе ёй тут кросны ткаць!..
Гэй, маленства, жыва, смела
Выйдзем весну прывітаць!

А як слаўна каля хаткі
Нам пабегаць, пагуляць!
Ну, зіма, збірай манаткі,
Годзе нас табе ўшчуваць!

Маладая вясна,
Залатая пара!
Будзь красна і ясна,
Не шкадуй нам дабра!

Вокам маткі зірні,
Бледнасць з твару згані!
Дай уздужаць малым
Пад павевам тваім.
Мы вяночак спляцём,
Табе песню спяём.

## ЛАСТАЎКІ

Прыляцела ластаўка з далёкага выраю. Села яна на страху старога гумна і зашчабятала. Вясёленькая песенька яе так і пасыпалася па ўсім двары мілым шчэбетам. Уляцела яна ў гумно, даведалася свайго даўнейшага леташняга доміка. А ён за зіму абсыпаўся, абвіс павуціннем; толькі камячок гразі трымаўся каля сахі, на каторую апіралася страха гумна. Туды прыляцела і другая ластаўка. Пашчабяталі яны ўдзвёх, парадзіліся і давай папраўляць сваю хатку, ачысцілі яны яе ад пылу і павуціны. Кожны дзень па некалькі разоў прылятталі яны ў гумно; насілі ў дзюбах клейкую гразь, замазвалі дзіркі і далей рабілі гняздзечка, каб яно было глыбейшае і большае. Доўга працавалі ластаўкі, і вылепілі яны харошанькае, кругленькае гняздзечка. Тады насілі яны пёрцы і высцілалі імі дно. Самічка-ластавачка несла там свае маленькія, рабенькія яечкі.

Праз тыдняў два з яечак выйшлі голенькія, маленькія птушачкі з жоўценькімі роцікамі. У тое гумно часта прыходзіў гаспадарскі сынок Пятрусь. Любіў ён, лёгшы на сене, пазіраць, як клапаціліся старыя ластаўкі, носячы корм для сваіх маленькіх дзетак. А маладзенькія ластавачкі садзіліся ў гняздзе ў рад і разяўлялі роцікі, як толькі прылятала да іх якая-небудзь старая ластаўка. Старыя клалі корм кожнай па чарзе. Пятрусь любіў на гэта пазіраць і, лежачы, ціха сам сабе смяяўся.

У Петруся быў сябра, сын суседа, яго равеснік Антось. Завяліся неяк заневашта хлопцы. Хітры і нягодны Антось, каб зрабіць злое Петрусю, прыйшоў раз у гумно, як не было Петруся там, і спароў тычынаю гняздо, а сам уцёк. Бедныя, нявінныя птушачкі паскідаліся на сена. Жаласна зачырыкалі старыя ластаўкі, біліся, ляталі, кружыліся над беднымі сваімі дзеткамі. Пачуў Пятрусь іх трывожны крык і кулём кінуўся ў гумно. «Кот, мусіць!» — падумаў Пятрусь і ўзяў аскабалак, каб пачаставаць ласуна, шэрага ката. А як забілася яго сэрца, як убачыў ён, што гнязда не было! Старыя ластаўкі кружыліся каля самага Петруся, усё роўна як прасілі ў яго помачы. Шкада было Петрусю маленькіх птушачак. Сядзелі яны, бедныя, у куточку і разяўляліся. Доўга думаў добры Пятрусь, як памагчы няшчасным дзеткам-ластавачкам. Усіх было цэлых пяць...

І вось што прыдумаў Пятрусь. Узлез ён на гумно, выдраў на самым валу ямку, абклаў яе пер'ем і збудаваў хітрае гняздзечка. Потым ён пабраў у шапку маленькіх ластавачак

і палез з імі на гумно. А каб шапка не перашкаджала яму лезці, ён узяў яе ў зубы. Узлезшы, палажыў ластавачак у зробленае ім самім гняздзечка. Старыя ластаўкі лёталі над Петрусём; яны не ведалі, што будзе рабіць з іх дзеткамі дабрадзей іх, Пятрусь. Паклаўшы ластавачак, Пятрусь злез з гумна і адышоўся, каб не баяліся яго старыя ластаўкі. Убачыўшы, што іх дзеткі ўсе, і ўсе жывы, старыя весела зашчабяталі і паляцелі лавіць мошак на полудзень для сваіх дзетак. А маленькім птушачкам тут было зусім добра, не горш нават, як у гумне. Па некалькі разоў у дзень лазіў Пятрусь на гумно паглядзець, як маюцца ластавачкі. А яны борзда раслі і харашэлі.

Як толькі падымалася хмара, збіраўся дождж, Пятрусь кідаў работу, лазіў на гумно і накрываў гняздзечка разам з ластавачкамі, каб не нацякло туды вады. У Петруся бацька быў добры і не крычаў на яго за тое, што ён парасцягаў трохі на страсе салому, лазячы да сваіх птушачак. Толькі часам пасмяецца з яго і скажа яму: «Эх ты, ластаўчын бацька». Але Пятрусь за гэта не гневаўся і не сердаваў.

Старыя ластаўкі перасталі палохацца Петруся, бо ведалі, што не зробіць злога ім і іх дзецям. У харошую пагоду маладыя ластаўкі вылазілі з гнязда і ўвесь дзень



сядзелі на сонцы, а на ноч зноў хаваліся ў гняздо, зробленае Петрусём.

Прайшло тыдняў два. Узлезшы на гумно, Пятрусь узяў у руку маладую ластавачку і павагаў яе. Махнула яна крыльцамі, фуркнула і паляцела, а за ёю пападымаліся і ўзняліся і другія. Рад быў Пятрусь, што лётаюць яго ластавачкі (ён называў іх сваімі). Вось яны палёталі, пакружыліся і зноў прыляцелі на гумно. А дзянькоў праз два яны ўжо лёталі разам са старымі і самі шукалі сабе пажывы. Вось як Пятрусь даў шчасце добрым нашым прыяцелям — ластаўкам.

*Зоська Верас*

## СОНЕЙКА ГРЭЕ

Сонейка ты, залатое!
Колькі цёмных, сумных дзён
Мы чакалі, дарагое,
У нашых хатках ля акон
Тваіх ясных цёплых косак,
Тває ласкі і пяшчот,
Што збудзілі б жыццё вёсак,
Поле, траўку, лес, чарот…
Разбудзілі б птушак хоры,
Жаб зялёных грамаду;
Растапілі б снегу горы,
Адагрэлі б і ваду…

*

І прыйшоў вось час жаданы:
Рады мы вясну сустрэць,
Просім сонца край каханы
Абудзіць і абагрэць.

*Цётка*

## ГУТАРКІ АБ ПТУШКАХ

(Жаваранак)

Сцюдзёна яшчэ малым дзеткам у хаце: большую палову дня жэўжыкі шыюць каля печы. Праўда, дзед штодня цешыць унукаў, быццам вясна ўжо блізка, што вось-вось ужо за гэтым лесам вялікім, што за рэчкай стаіць.

— Ужо прышла б, — кажа дзед, — але надта змучылася, ідучы здалёку, дык прылягла крыху на пагорку і адпачывае.

— А як, дзядок, вясна выглядае? Да каго падобна? — дапытваюцца зацікаўленыя ўнукі.

— А такая маладая, пекная паненка ў зялёнай сукенцы; таваркі яе — розныя кветкі, пакорныя служкі — галасістыя птушкі. Ось, хутка прышле да нас некаторых з іх, прымерам, — жаваранка-песняра і кветку-пралесачку.



— А калі ж, дзедулёк, жаваранак прыляціць?

— А тады ж, як вы, жэўжыкі, па тры боханы хлеба з'ясцё.

— Дзедка, то мы будзем завіхацца.

— Вядома, завіхайцеся: на зарок не адкладайце.

«Але, мусіць, то дзед жартуе, — думаюць дзеці, — бо якая тут вясна ідзе, калі дзед апранаецца ў кажух, на рукі пхне суконныя рукавіцы».

Нездарма сямілетні Юзюк, учарэпіўшыся дзеду за шыю, пытае:

— Ты, дзядуля, мусіць, апрануўся так цёпла, каб зіму хутчэй спудзіць?

— Э-э, будзеш і ты, жэўжык, калісьці таксама на старасць цёпла ўхутвацца, як і твой дзед, а цяпер адчапіся ад маёй шыі, бо ты ж не званок, а я не конь!

— Але затое ж я твой унучак, — бойка адказвае Юзюк, — і як прычаплюся да тваей, дзедулёк, шыі, то так прырасту, як барадаўка да крывога носа.

— Ой, божа мяне крый ад такога гумзака, як ты, Юзючок!

— Ну, то купі мне боты, дзедулёк.

— Што-о? Боты?

— Але, боты такія, як у музыкі Банадыся.

— Ох, які ты здагадлівы, унучак! Вясна, як піць даць, стане на дварэ, мо ўжо жаваранкі заўтра запяюць, а ты ботаў захацеў.

— Дзядуля, дзедулёк, купі, купі, — ужо хліпаючы, прыстае ўнук.

— Цыц, дзіцятка! Утры нос і перастань хліпаць; як будзеш добры, паслухмяны, то мо жаваранак сам здагадаецца і прынясе табе боты.

— І мне, мне! — свіргоча дзіцячая драбяза.

Марыля, Настка, Казюк чапляюцца за калені дзеда. А дзед ходзіць па хаце, як стары баравік паміж суравежкамі.

— Дзядуля! Як той жаваранак прыляціць, то няхай мне хустачку прынясе чырвоную, — просіць Марыля.

— А мне — дудку і коніка, — ласіцца Казюк.

— Добра, дзеткі, добра; зараз выйду на падворак і гукну, каб усё маім унучкам малым жаваранак папрыносіў.

Дзед выходзіць скаціне даваць. Дзеці гуляюць па хаце і чакаюць яго. Дзед варочаецца:

— А што, дзядулю, ці сказаў жаваранку?

— Не, дзеткі, жаваранка я і не бачыў, бо толькі выходжу з хаты, манюся яму загадаць, ажно мароз, такі сівы, з вялікай, доўгай, барадой, — цап мяне за рукі: «Не смей, — кажа, — клікаць жаваранка, абудзіш вясну, і зара маю ўсю работу папсуе гэта нягодная баба. А ў мяне цяпер, — кажа, — найважнейшая справа ідзе: мост будую цераз вашу рэчку». — «А што мне за дзела да твайго моста, — адказваю, узлаваўшыся, — мне мае ўнукі бліжэйшыя, я для іх хачу жаваранка клікнуць». — «Ціха, пачакай, — кажа мароз, — я тваім унукам лепшых цацак пекных нарысую на вокнах, а жаваранак няхай яшчэ пасядзіць за морам».

— Дзедулёк! То жаваранак за морам? Раскажы нам дзе ён?

— Раскажу пасля, цяпер не маю часу: трэ дровы на вячэру сеч. А вы, дзеткі, пакуль што пагуляйце, маткі слухайце, старшыя малодшых не крыўдзіце, а я зара вярнуся.

*Вера Вярба*

## ПРАЛЕСКА

Белыя бярозы
Спалі на узлеску,
Як сваю галоўку
Узняла пралеска.
Тоненькую ножку
З-пад пярыны белай

На зямлю пралеска
Ставіла нясмела.
А снягі наўкола —
Ні канца, ні краю,
Страшна стала кветцы:
«Я адна — жывая!»
Кажа зверху сонца:
«Зорачка лясная,
З новым нараджэннем
Я цябе вітаю!»
Белыя бярозы
Разам зашапталі:
«Мы цябе, пралеска,
Ўсю зіму чакалі».
І старая елка
Голасна ўздыхнула:
«Вясна надыходзіць,
А зіма мінула».

*Васіль Вітка*

## ДОЖДЖЫК, ДОЖДЖЫК, СЕКАНІ!

Пад полудзень з асмужанай прыціхлай прасторы павеяла яго блізкасцю. Нарэшце, можа, прыйдзе ён, доўгачаканы, першы за гэту вясну дождж.

Але ён не прыйшоў, як прыходзяць вясно-



выя дажджы,— гарэзліва, весела імкліва, з першай маланкай і громам, а нейк нябачна, спакваля і няўпэўнена заскробся, як малое кацяня, па бляшаных дахах гарадскіх дамоў.

Сонны, ляны і скупы, ледзь варушыцца ён у прыціхлым паветры, і толькі мокрыя казыркі стрэх ды пасвяжэлая зеляніна дрэў выдаюць, што прайшоў ён недзе далёкай стараною або проста пацвяліўся з намі, страсянуўшы з сябе лішнія кроплі. Толькі назаўтра пераддзень пачаўся ён, ціхі і спорны, а раніцай памацнеў.

Я так ссох душою па добраму вясноваму дажджу, што знарок пайшоў на вуліцу, каб на самім сабе адчуць яго свежасць, пах мокрае вопраткі. Хадзіў, пакуль не вымак. Вальней стала дыхаць.

Змяніўшы адзежу, яшчэ доўга цешыўся, як прыемна было пад цёплымі пырскамі не толькі зверху, але і з-пад колаў машын, што абдавалі вадою з лужын і каляін.

Лёгка зразумець урачыстую радасць дзяцей, для якіх вясновы або летні дождж — заўсёды жаданы друг у гульні, з якім весела бегаць навыперадкі і пацвельвацца: «Дождждык, дождждык, секані! Дождждык, дождждык, абгані!»

*Пятро Прыходзька*

## РУЧАЙ

Праз паплавы, лугі, аблогу
Ручай вясенні шпарка бег.
Ён прабіваў сабе дарогу,
Зганяў з палёў апошні снег.

Туды, дзе хвалі ў белай пене,
Дзе дна ў глыбінях не відно,
Ручай прабіўся праз каменне
І ў рэчку скочыў, аж на дно.

У пенным пошуме бруістым
Яго ніхто не заўважаў.
І вось, пад сонцам прамяністым,
Ён непрыкметнай кропляй стаў.

Але адчуць было прыемна
Таму малому ручаю,
Што ў рэчку з лужыны наземнай
Часцінку ўнёс і ён сваю.

*Змітрок Бядуля*

## ВЯСНОЙ

Грэе сонца, свеціць сонца,
Пахнуць кветкі і трава.



Радасць, радасць, гул бясконца!
Скачуць жабы — ква-ква-ква!

Птушкі-грайкі вядуць гулі
На бярозавым суку.
Кліча ў поле птах-зязюля,
Кліча зычна — ку-ку-ку!

Шэпчуць дрэвы. Грае рэчка.
Квокчуць кура на двары.
Скок і скок на луг авечка,
Брыкне, мэкне — мэ-мэ-мэ!

Матылёчак, як вясёлка,
Мігаціць пад гул і шум.
Над мядочкам звоніць пчолка,
Баіць байкі — зум-зум-зум!

Як жывыя — гай, шнурочкі.
Грае, ззяе ўся зямля.
А хлапчына на лужочку
У свісцёлку — тра-ля-ля!

*Мікола Хведаровіч*

## ЧАРЭШНЯ

Маленькая чарэшанька
У садзіку расце.

Маленькая чарэшанька
Каторы год цвіце.

Успенілася пухам,
І ўжо здалося мне,
Што зноўку завіруха
Цярусіць белы снег.

Мне сумна, сумна стане,
Калі ў наступны дзень
Бялюткі цвет завяне,
Дадолу ападзе.

Але ў зялёных шатах,
Там, дзе апала цвець,
Зноў ураджай багаты
Пад сонцам будзе спець.

І раніцай ліпнёвай
Я зноў прыйду сюды
Пакаштаваць пунсовыя
Салодкія плады.

## СОНЕЧНЫ ЗАЙЧЫК

Ізноў вясна
Прыйшла да нас,
Са стрэх вада струменіць.



І сакавік
Праз вокны ў клас
Праменняў сыпнуў жменю.
І вось па партах,
Па сцяне,
Па столі
Хутка скача
Наш госць вясенні да мяне —
Вясёлы, шустры зайчык.
Крычаць сябры:
— Трымай, глядзі!..
І смех на кожным слове...
Мы дружна ўсе,
Не я адзін,
Яго рукамі ловім.
А ён —
То пырхне з-пад рукі,
То скокне зноў на лаўку.
Маленькі,
светлы,
трапяткі —
Вясновы любы зайка.
Ён — уцякаць,
І мы — бягом,
Чаго не нарабілі!
Яго лавілі
Ўсім гуртом,
Ды так і не злавілі.
Ён мільгануў

Пад столь ад нас,
Як воблака акрайчык...
Каторы раз,
Каторы раз
Уцёк вясенні зайчык.

*Яўген Крупенька*

## ВЯСНЯНА

Сёння рана-рана
Крочыла Вясняна,
З прамяністых рукавоў
Выпускала сакалоў.
Там, дзе яны селі,
Дрэвы зелянелі.
Там, дзе яны палі,
Кветкі выраслалі.
І звінелі песні
Ў сінім паднябессі.

*Леанід Дайнека*

## У ВЯСНОВЫМ ЛЕСЕ

Пойдзем, дзеці, у лес вясновы,
нібы ў дом вясёлы, новы.
Толькі тым, хто ў казку верыць,
лес свае адчыніць дзверы.



Там пад дубам зайчаняткі
дружна робяць фіззарадку,
там ваўкі яшчэ ад рання
сена косяць на сняданне.

Там з імпэтам і запалам
лось іграе на цымбалах,
там мядзведзь каля балота
рамантуе буслу боты.

Песні там і смех усюды.
Але ведайце, што цуды
толькі тым вясна пакажа,
хто не скрыўдзіць і мурашкі,
хто з прыродаю сябруе,
птушак і звяроў шануе.

*Рыгор Барадулін*

## КОЦІКІ

Сонца гне вясёлы сук,
Спее,
Быццам яблык.
Я за пазухай нясу
Коцікаў азяблых.

Кожны коцік во тачкі,
Мяккі і не драпкі.

Коцікі-вербавічкі,
Пакажыце
Лапкі.

Снег яшчэ ляжыць вакол.
Цёпла — у пакоі!
Я пастаўлю вас на стол,
Напаю вадою.

Малюпасенькіх
Не дам
Аніякай крыўдзе.
Усміхнецца мама вам,
Як з работы прыйдзе.

*Лідзія Арабей*

## ЗЕРНЕТКА І ВЕЦЕР

Віхор наляцеў на ліпку, і яна густа зашумела, ссыпаючы долу чорныя зернеткі насення. Адно зернетка падхапіў вецер і панёс у белы свет. Гушкаў яго, круціў пад самым небам, ды раптам сціх, нібыта надакучыла яму гульня такая. І пачало зернетка падаць. Страшна яму было ляцець з вышыні, баялася, што разаб'ецца, загіне, хапалася за пылінкі, за смяцінкі, што круціліся каля зямлі, але і тыя асядалі.



Моцна выцялася зернетка аб камень, што ляжаў на полі, адскочыла і ўпала на шашу.

Ператрывала боль, аддыхалася, пачало азірацца. Блізка не было ні дробачкі зямлі, не сачылася ні кропелькі вады, і зернетку зрабілася сумна. Доўга ляжала яно, не ведаючы, як адсюль выбрацца, як уцячы. Ды раптам зноў вецер! Спачатку падзьмуў ціхенька, зернетка ад яго подыху толькі варухнулася, потым пажвавеў, а далей зноў разышоўся, адным махам закінуў зернетка пад воблакі, панёс над палямі, балотамі. «Куды я лячу, што са мною будзе? — ледзь не плакала зернетка. — Дзе ты, родная ліпка, чаму кінула сваё дзіця на пагібель?»

А характар у ветру быў несур'ёзны, ветраны, то ён дзьмуў з усяе сілы, то заціхаў. Зноў надакучыла яму гойсаць пад воблакамі, і зноў ён пакінуў зернетка пасярод неба. І пачало яно зноў апускацца. Так хацелася яму ўпасці ў мяккую раллю, каб не пабіцца яшчэ раз, ды не шанцавала зернетку. Унізе плыла рака, шырокая, як мора, і падступала — усё бліжэй, бліжэй...

«Загіну! Патану!» — сцялася зернетка.

Некалькі хвілін яно ляжала, не ведаючы, ці жыве, ці загінула. Потым зразумела, што жыве. Яно ўпала на лісток, што трымаўся ў вадзе на тонкай сцяблінцы, як на якары.

Тут зернетку было крышку лепш, чым на шашы, крышку мякчэй, ды і кропелька вады ляжала на лістку, з яе можна было напіцца. Але жыць тут зернетка ўсё роўна не магло б. Як можна жыць без зямлі? Яе маці, вялікая ліпа, трымалася карэннямі за глебу, так вучыла яна і дзяцей.

Ляжала зернетка на лістку, гайдалася, як дзіця ў калысцы, і заснула. Прачнулася ад буры на вадзе. У чорным небе гарэлі яркія зоры, а рака пад лістком кіпела, бурліла, лісток то падлятаў на хвалях, то ападаў уніз, вада залівала зернетка. Унізе пачуўся трэск, зернетка моцна падкінула, а потым лісток паплыў, як карабель, што сарваўся з якара. Ён плыў усю ноч, пакуль пад раніцу не зачапіўся за вярбіны корань.

Над рэчкаю ўзыходзіла сонца — вялікае, чырвонае і цёплае. Добра было б цяпер пагрэцца, абсушыцца, адпачыць, ды тут зноў адкуль ні вазьміся — вецер. Схапіў зернетка разам з лістком і пакаціў па полі.

Ведала ўжо зернетка злосны нораў ветру, дабра ад яго не чакай, можа, зноў пад хмары закіне. І як ад яго адчапіцца, як гэты вецер абхітрыць! Толькі падумала, а тут у зямлі шчылінка — тоненькая, быццам пёркам на зямлі нехта рыску напісаў. Злаўчылася зернетка — скок у тую шчылінку. Вецер і не



заўважыў, далей пусты лісток пагнаў. А зернетка затаілася, ляжыць. І так яму добра аказалася ў той шчылінцы — цёпла, мякенька, і крынічка недалёка цурчыць.

Стомленае ад сваіх прыгод, зернетка заснула. Яно не чула, як засыпала шчылінку зямля, як закідала дол жоўтым лісцем, як пайшлі халодныя дажджы, як укрылася зямля белым снегам.

Спала зернетка да вясны. Прачнулася і здзівілася. Аказваецца, яно тут не адно, у зямлі поўна іншых зернетак, і жоўтых, і зялёных, і чырвоных, і ўсе, адно перад адным, спяшаюцца, працуюць, прарастаюць. І наша зернетка ўзялося за работу. Пачало белы карэньчык выпускаць ды ім у зямлю тачыцца, а зялёным парасткам прабівацца ўгару, да неба. Гэта была вельмі цяжкая работа, зернетка аддавала ёй усе свае сілы: скора яно вельмі схуднела, а далей і зусім знікла, растала, ператварылася ў карэньчык і парастак. Цяпер карэньчык ужо моцна трымаўся за глебу, а парастак прабіўся да святла. Азірнуўся навакол, і вельмі тут яму ўсё спадабалася. Недалёка плыла рэчка, за ёю сінеў лес, на краі якога раслі высокія ліпы.

Пачаў парастак лісткамі прыбірацца. Спачатку вылузаў адзін — светла-зялёны, ліпкі, за першым — другі, за другім — трэці.

Ужо зверху ўніз пазіраў ён на пралеску, якая тут нядаўна расцвіла. А пралеска, відаць, вельмі хацела пазнаёміцца з парасткам. Аднойчы раніцою, умыўшыся туманам, яна нясмела загаварыла:

— Добрай раніцы! Мяне завуць Пралеска... Я суседка ваша, я тут расту. А вы хто?

— А я — ліпка, — адказаў парастак. — Бачыце высокія дрэвы на ўскраі лесу? Такая буду я...

— Вельмі прыемна... Я рада з вамі пазнаёміцца, — і Пралеска схіліла сваю сінюю галоўку.

*Янка Лучына*

## РУНЬ

Месячык блакітам
Праплывае, стыне,
Шнур кусціцца жытам
Сцішана ў даліне.

І калыша збожжа
Вецер, нібы хваля,
І, здаецца, гожа
Збожжа сябе хваліць:

«Вырасла з зямліцы,
З маткі глебыворнай



Коласам маліцца,
Жыць красою зорнай.

І мая спагада
Ходзіць над лясамі —
Хмарка шчыра рада
Напаіць слязамі.

Сонца мне за голас
Золатам заплоціць —
Перш зяленіць колас,
А пасля залоціць.

Колас закрасуе,
Ветрык не гуляе,
Цэлы дзень працуе,
Кветкі апыляе.

Гляне плён багаты
Смела і вясёла,
Зерні-вачаняты
Схіляць колас долу».

*Яраслаў Пархута*

## ПТУШЫНЫ ІНТЭРНАТ

Аднойчы ў таполі навальніца зламала вершаліну. Людзі заўважылі непарадак, усцягнулі на дрэва старую барану і сказалі:

— Няхай хоць птушкам паслужыць.

І праўда. Вясною прыляцелі аднекуль буслы і пачалі завіхацца — майстраваць гняздо. Носяць сухія галінкі, шматкі моху, леташнюю салому і радуюцца: хутка зажывуць у новым доме!

А вераб'і ўвесь гэты час гойдаліся на галінках і толькі пасміхаліся:

— Ці ў ім жыцьмуць?! Ці ў ім жыцьмуць?!

Іх падтрымалі шпакі:

— Дарма ўюць! Дарма ўюць!

А калі буслы нарэшце закончылі будаўніцтва і з вясёлым клёкатам паведамілі, якое ў іх цудоўнае жытло атрымалася, вераб'і першыя спахапіліся і пачалі прасіцца ў падсуседзі.

Буслы падумалі-падумалі і дазволілі вераб'ям пасяліцца разам.

Узрушаныя шпакі ад зайздрасці ажно свіснулі: маўляў, не шкодзіла б і ім прысуседзіцца!

— Такі клопат! Такі клопат! — сказалі буслы і шпакам таксама далі дазвол.

Але як ні стараліся шпакі прыстроіцца да буслінага гнязда — не змаглі. І тады з ельніку прыляцеў дзяцел і пачаў рабіць ім дупло. Ніжэй буслінага жытла, ніжэй вераб'інага... А калі ўбачыў, што кватэра шпакам цудоўная выйшла, дык рашыў заадно і сабе дупло змайстраваць.



На старой таполі нібы інтэрнат атрымаўся.

Але аднойчы рыжы кот Фядот вырашыў праверыць буслянку. І тут дзяцел першы ўзняў трывогу. Стукнуў тройчы ў сук:

— Кот-кот-кот!

Усхапіліся шпакі ды завагаліся:

— Біць ці не? Біць ці не?

— Біць-біць-біць! — закрычалі вераб'і, кінуліся ў атаку і пачалі калашмаціць Фядота — ажно рыжая поўсць паляцела. Тут і шпакі пасмялелі, памагаць пачалі. А калі на той гоман з бліжняга балотца прыляцелі бусел з буслíхаю, на таполі быў поўны парадак: бусляняты спрасонку пазяхалі на мяккай пасцельцы, шпакі з вераб'ямі абмяркоўвалі нядаўнюю падзею, а кот Фядот ляжаў у крапіве і лічыў сінякі.

З таго часу жыхары птушынага інтэрната жывуць спакойна. А кот Фядот за вярсту абыходзіць старую таполю.

*Васіль Лаўрыновіч*

## РУЧАЁК

— А куды ж ты, ручаёк,
Так бяжыш імкліва?

Ахінаеш беражок
Белапеннай грывай...
— Доля гэткая мая —
Мне няма спакою,
Бо спяшаю зліцца я
З бурнаю ракою.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

### ВЯСНА

Вада з гор пацякла, вясну прынясла.

Убачыў грака — вясну сустракай.

Ластаўкі прыляцелі — скора гром загрыміць.

Красавік з вадою — май з травою.

Дружная вясна — чакай вялікай вады.

З бярозы цячэ многа соку — будзе дажджлівае лета.

Калі ў бярозы лісце распусціцца раней, чым у вольхі — лета будзе сухое, а калі ў вольхі раней — лета мокрае.



## ТЫ, КУПАЛІНЬКА, РАНА, РАНА...

(З народнага)

— Ты купалінька, рана, рана,
Да дзе ты была, рана, рана.
Да што ты рабіла, рана, рана.
— Ды ў бары была, рана, рана,
Я краскі збірала, рана, рана.
— Нашто красачкі, рана, рана.
— Я й вянкі віці, рана, рана.
— А нашто вяночкі, рана, рана.
— Дзевачцы на галоўку, рана, рана.

## А НА КУПАЛУ...

(З народнага)

А на Купалу
Рана сонца іграла —
Рана сонца іграла,
На добрыя годы —
На добрыя годы,
На цёплыя росы —
На цёплыя росы,
На хлябы-ўраджаі —
На хлябы-ўраджаі.



*Ларыса Геніюш*

## КАЗКА

У небе срэбнаю касой
Прарэзаў месяц хмуры-хмары,
І паліліся паласой
На дол загадкавыя чары.

Бліснула ў возеры вада,
Як шкло, пры месяцавым ззянні.
І салавейкаў чарада
Распачала свае пяянні.

Лясун заенчыў у бары,
У такт з ім — совіны чароды.
Да самай ранічнай зары
Русалкі водзяць карагоды.

Бо покі срэбнаю касой
Спрэс рэжа месяц цёмны хмары,
Ліюцца сіняй паласой
На дол загадкавыя чары.

*Станіслаў Шушкевіч*

## АДМЫКАЕ КОНІК ЛЕТА

Захісталася трава,
Конік ключыкі скаваў.

Ён спацеў, ажно намок.
Дзе ж вісіць цяжкі замок?
Лета чараўнік замкнуў,
Ключ у рэчаньку шпурнуў.
Ах, скажыце, людзі, мне,
Хто нам лета адамкне?
Хто на нашыя прасторы
Прынясе цяпло нам скора?
Хмары сонца хай развее,
Ягадка ў лясах паспее,
Хай жа дружна на градзе
Агародніна гудзе.
Працавіты конік мой,
Ключ рабі хутчэй, не стой,
Навясны замок на браме
Адамкні, хай лета гляне.
Выпускай на волю лета,
І напішуць у газетах:
Конік з брамы зняў замок,
Хлынуў цёплы вецярок.
Ну, удар яшчэ разок
Ды хутчэй здымі замок!

## ВЕТРАВЕЙ

Мчаўся ветрык-ветравей
Па галінках, па траве.
Дуб разгойдаў малады,



Кідаў, сеяў жалуды,
Верхавіны ў лесе гнуў,
Калыхаў на іх жаўну.
Ноччу рваў бляшаны дах
І таптаўся па кустах.
Разам з дожджыкам скакаў,
Ранкам скрыўся і прапаў.
Ні бяды ў яго, ні гора...
Непаседа спіць за борам.

## ЦЯЖКА ЖАБЦЫ ЖЫЦЬ БЕЗ ХАТЫ

Жабка квакае на кладцы:
— Вунь бабры жывуць у хатцы,
А на беразе, на горцы,
Крот у цёмнай, цёплай норцы,
А зусім жа недалёка
Мае дом-гняздо сарока.
Мне ж няма дзе прытуліцца.
Там, дзе росная травіца,
Дзе густая асака,
Дзе на ўскраю ясакар,
Там бабёр на узбярэжжы
На кавалкі дрэвы рэжа,
Крот-сусед надзвычай лоўкі,
Ма́е лапы, як рыдлёўкі,
А сарока, глянуць люба,

Так працуе вострай дзюбай.
Я зубоў не маю ў роце,
З гора квакаю ў балоце.
А цяпер сяджу на кладцы...
Як мне, беднай, будавацца?..
Мае́ лапкі, нібы гума.
Галава трашчыць ад думак.
Хто ж квакуху пашкадуе,
Скаргу хто яе пачуе?
Пад кустом старым кашлатым
Цяжка жабцы жыць без хаты.

*Максім Багдановіч*

## СРЭБНЫЯ ЗМЕІ

Срэбнымі рожкамі мгліцца
З цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца, —
Рушыцца ў ім вадзянік.

Ў хвалях гуляць выпускае
З віру змяю за змяёй;
Вось іх грамада ўсплывае,
Срэбнай ірдзіцца луской.

Будуць яны ўсю ноч віцца,
Ў хвалях хрыбтамі блішчаць;
Будуць сціскацца, круціцца,
Гэтак да рання гуляць.



Свецячы блескам чырвонца
Праз парадзеўшую мглу,
Пусціць, ўстаючы, сонца
Ў іх залатую іглу.

Згіне змяя за змяёю,
Знікне з нябёс маладзік.
Доўга па іх пад вадою
Будзе ўздыхаць вадзянік.

## НАД ВОЗЕРАМ

Сонца ціха скацілася з горкі;
Месяц белы заплаканы свеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.
Ў іх русалкі заблуталі косы, —
Рвуць і блытаюць срэбныя ніці;
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча русалкам:
«Засніце».

## ПРОСЦЕНЬКІ ВЕРШЫК

Няяркая, маленькая вясёлка
Ўкруг месяца ледзь бачна зіхаціць;
Яе не кожны нават і прыкмеціць,

Хто ў гэты час на неба паглядзіць.
Няяркая, маленькая вясёлка! —
Праз гэта ты і да спадобы мне,
Бо я адну з табою долю маю —
Зіяць ледзь бачна ў сіняй вышыне.

*Янка Купала*

## ЖНЯЯ

Як сама царыца
Ў залатой кароне,
Йдзе яна ў вяночку
Паміж спелых гоняў.

З каласкоў вяночак —
Moладасці сведка —
На ёй зіхаціцца,
Як у садзе кветка.

На грудзях шчаслівых
Каптанок ружовы,
У руцэ сярпочак
Зублены, сталёвы.

Вецер абнімае
Стан яе дзявочы,
Сонца ёй цалуе
Шыю, твар і вочы.



Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзівіцца ігруша
На мяжы зялёнай.

А яна — царыца —
Весела, шчаслівa
Карануе песняй
Залатое жніва.

Смела йдзе у сонцы,
Ўся сама — як сонца,
Гэта жнейка наша
Ў нашаей старонцы.

## ХОХЛІК

Як зайграе ў лесе хохлік, —
Замірае песень воклік;
Як зачэпіць мох і лозы, —
Аджываюць смех і слёзы...

Ў цёмным яры скачуць чары,
Кветка чахне на папары,
Лісць трасецца на асіне,
Вогнік блукаецца сіні.

Барадой лясун ківае,
Шалы нетрай спавівае;

Ваўкалак за дамавінай
Выпаўзае на пуціну.

Ад загону да загону
Хохлік царскаю каронай
Карануе у сусветы
Сухалесы, пустацветы.

Хохлік грае, ведзьма скача,
Ноч смяецца, сонца плача,
Толькі песень не чуваці
На стаптанай сенажаці.

*Яўген Крупенька*

## ШПАК

Шпак вясёлы на шпакоўні,
У яго — настрой цудоўны.
Не праспаў ён ранне,
Не праспаў сняданне.
Накарміў сваіх дзяцей,
Славіць сонца чыстае,
Тых, хто спіць за ўсіх пазней,
Ён цяпер абсвістае.



## РАСІНКІ

Пырснуў дождж ык
Цёплы, спорны,
Нібы сонца,
Залаты.
Узнялі
Галоўкі ўгору
Каласістыя жыты.

Заіскрыліся расінкі,
Ураджайным
Будзе год.
Выгінае
Траўка спінку,
Як вясёлы
Васька-кот.

## АЛЕНКА

Запыталася Аленка
У вясёлкі залатой:
— Хто табе купіў сукенку?
У мяне няма такой.
— З чыстых промняў, нібы з нітак,
Клапатліваю рукой
Летні дождж ык яе выткаў
З ясным сонцам раніцой.

*Максім Танк*

## СВЕТЛЯЧОК

Дзе вербы плакучай галінку
Абвіў серабрысты паток,
На дробным лісточку расінку
Аднойчы сустрэў светлячок.

Сустрэў ён і залюбаваўся,
Як ранняю, ціхай парой
У светлых праменнях яна ўся
Вясёлкавай ззяе красой.

Ды толькі адну мо хвілінку
Знаёмства цягнулася іх,
І сонца забрала расінку
З прастораў і траў лугавых.

Часамі яна ў аддаленні
З галінкі якой замігціць
Ды знікне зноў хутка ў праменні,
Пакуль светлячок дабяжыць.

А ён без яе ўжо сумуе,
Шукае і ноччу і днём
І вечна па свеце вандруе
З сваім залатым аганьком.

## ЖУК І СЛІМАК

Пагожым летнім ранкам
На лузе за сялом
Сустрэўся жук аднойчы
З рагатым слімаком.

— Здарова! — жук вітае.—
Куды, браток, ідзеш



І з ракавіны хатку
Нашто з сабой нясеш?

Абцёр слімак пот з твару,
Гаворыць так жуку:
— Нямала пеpажыць мне
Прыйшлося на вяку.

То сцюжа, то марозы,
То навальніца, дождж,
То часам у дарозе
Захопіць змрок і ноч.

Шукай тады начлегу
Пад нейкім пад кустом...
Вядуць размову гэтак
І раптам чуюць — гром.

Ударыў дождж краплісты.
І жук пабег шукаць
У засені цяністай
Шырокага лістка.

Але на цэлым лузе
Няма страхі нідзе,
І мокры, ледзь жывы ён
Да слімака ідзе.

— Пусці, браток, пагрэцца,
Змок дужа на лугу,

Насіць за гэта хатку
Табе дапамагу.

У ракавіне шчыльнай
Вандроўнікі сядзяць.
Іх нават дождж краплісты
Не зможа ў ёй дастаць.

Але мінулі хмары,
І сонца ўстала зноў.
Жук хатку слімакову
Пакінуў і пайшоў.

Забыўся пра нягоды,
І не на ўме жуку,
Што абяцаў паднесці
Ён хатку слімаку.

*Аляксей Пысін*

## ЛАСТАЎКА

Ластаўка, куды?
— На млынок,
Намялю там жыта
І спяку блінок.
Дзетак-малалетак
Накармлю;
Добра летам, добра летам,
Лета я люблю.



## ПЧОЛКА

Паляцела пчолка на лужок,
Ой, патрэбен пчолцы фартушок.
Белы ці зялёны, які лепш?
Скінь, бярозка, лісцік ты найперш.

Ды няма іголкі — нечым шыць,
Давялося ў вожыка папрасіць.
Тут патрэбны ніткі акурат,
Адматаў ёй нітак шаўкапрад.

Пахне медуніцамі лужок,
Шые пчолка, шые фартушок.

## МАТЫЛЁЧКІ-МАТЫЛІ

— Матылёчкі-матылі,
Дзе лятаді, дзе былі?

— Мы лятаді па лугах,
Начавалі на палях.

— Матылёчкі-матылі,
Што вы елі, што пілі?

Быў на кветачцы мядок,
На траве салодкі сок.

## ВЯСЁЛКА НАД ПЛЁСАМ

Ад пасёлка да пасёлка
Ехаў гром.
Заірдзелася вясёлка
Над Дняпром.
Гэта — арка, гэта — арка
Да нябёс.
А пад аркай ходзіць хмарка.
Плешча плёс.
Яркіх колераў багата —
Сем якраз.
Што за свята, што за свята
Сёння ў нас?
Дождж добры, працавіты
Сёння быў.
І пшаніцу ён і жыта
Напаіў.

## ЦЕСНЫЯ БОТЫ

Бусел да шаўца ідзе:
— Мне патрэбны боты,
Бо хаджу я па вадзе,
Мераю балоты.

Мерку зняць шавец забыў,
Шыў ён без турботы,



Боты меншыя зрабіў,
Ціснуць надта боты.

Ходзіць бусел з году ў год
Вельмі асцярожна:
Толькі ступіць — цісне бот,
Аж цярпець няможна.

*Уладзіслаў Галубок*

## НАВАЛЬНІЦА

Над вялікім даўно ўжо пакінутым і заглохшым садам збіралася навальніца. Цяжкія хмары паўзлі па шэрым, як арыштанцкі армяк, небе і, выцягваючы свае лапы, падпаўзалі бліжэй к сонцу, каб згасіць яго. Чорныя цені, што паляглі на зямлі ад хмар, наводзілі на ўсё жывое страх.

Спужаўся і задрыжаў сад, бо прадчуваў, што можа стацца, калі навальніца пачне крышыць без міласці худзенькія дрэўцы, між каторымі толькі стары дуб стаяў смела і адважна, паглядаючы вясёла ў вочы цёмным хмарам.

Што значыць яму навальніца?

Ці раз бывала, што віхры парываліся схіліць яго к зямлі, але ўсё дарма: ён мала дбаў і толькі смяяўся над непагодай.

Ды і так сказаць, чаго, здаецца, было пужацца, калі ён пад зямлёй крэпка ўмацаваў свае карэнні, даючы ім вольна расці і ўшыр і ўдоўж, а над зямлёй высока дзяржаў векавую зялёную карону.

Добра ведаў стары дуб, што ўвесь сад не меў вока на яго за тое, што карэнні забіралі ад іх пажыву з зямлі, а вечная засень глушыла маладыя ўсходы. Ды такой бяды: ён меў толькі адну думку, каб як-небудзь зніштожыць ненавісных суседзяў сваіх, а на іх месцы выгадаваць дубовы гай.

Цярпліва пераносілі крыўду заглохшыя дрэўцы і час ад часу выміралі праз ласку дуба, жадаючы ў адплату і яму пагібелі, а той толькі рос і радаваўся, звысока гледзячы, як канчалі жыццё цененькія лазінкі і алешынкі.

І ніхто з іх не ведаў, якая доля чакае таго дуба-веліканa...

Тым часам пад зямлёй, дзе крэпка спляліся яго карэнні, жыло шмат маленькіх ворагаў, каторыя дзень і ноч вялі пільную працу; хоць гэта і марудная была праца, але пэўная, і праз іх ласку дуб даўно ўжо пачаў траціць сілу ў карэннях. І настаў дзень, калі на падмогу працы скрытных маленькіх чарвячкоў наляцела шалёная навальніца, як бы зрабіўшы з імі хаўрус дзеля згубы таго, хто так



горда глядзеў у неба і не схіляў прад ёй сваёй галавы.

Хмары, як непрытомныя, паўзлі ўсё бліжэй і бліжэй к сонцу; халодны вецер гнаў з дарог пыл, і, скруціўшы ў стоўб, растрасаў з боку ў бок, — брызнуў густы дождж і ўдарыў пярун.

Глянуўшы на сілу навальніцы, страпянуўся дуб, — і, выпрастаўшы шырокія грудзі, прыгатаваўся спаткаць націск, як калісь бывала; тым часам хмары ўжо напаўзлі на сонца, згасілі яго і сунуліся ў цемнаце далей.

Задрыжэлі цененькія дрэўцы, прыляглі к зямлі і чакалі смерці. Задрыжэў і дуб, і пад дзікім націскам ветру пачала хіліцца яго зялёная карона.

— Глядзі, суседка! — шаптаў арэшнік, прытуліўшыся к сасне. — Глядзі! Такі дуб хінецца, цяжка і яму прыйшлося...

Але не дакончыў арэшнік, і не пачула яго сасна: ударыла маланка, задыміўся і зваліўся апалены дуб. І без ліку пахаваў пад сабой маленькіх дрэўцаў.

Навальніца, як цёмны аграмадны птах, уцякала далей. Дождж сціхаў, і дзе-нідзе з-за хмар паказвалася яснае неба.

Шмат палягчэла тым дрэўцам, што асталіся ў старане; з прывычкі яшчэ пудліва пагля-

далі яны на дуб, што распластаны ляжаў у саду, але ніхто цяпер не гінуў ад вечнай засені, і ўсім стала прасторна.

Пачарнеўшы пень старога дуба дзіка глядзеў увысь і адзначаў месца, дзе жыла векавая сіла.

*Сяргей Новік-Пяюн*

## НОЧКА

Сонца палючае,
Сонца жывучае
Скончыла дзённы абход.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
Ў небе вядуць карагод.

Месячык беленькі,
Месячык чысты
З хмарак свой твар паказаў.
У рэчцы спакойнай,
У рэчцы празрыстай
Хор вадзяны запяяў.

Дрэўцы купчастыя,
Дрэўцы зялёныя
Ў люстра глядзяцца вады.
Жабкі рухлівыя,



Жабкі вясёлыя
Скачуць туды і сюды.

Летняя ночка,
Як маці, калыша
Стомлены працай народ.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
Ў небе вядуць карагод.

*Казімір Камейша*

## ДОЖДЖЫКАВА ЛІЧЫЛКА

Раз — і зірнула лісце
Зеленавока на свет.
Два — і струменьчыкаў ніці
Шыць пачалі па траве.
Тры — вытанцоўвае кропля
Звонка ў балейцы пустой.
Ну а чатыры — на кроне
Чорненькі свіснуў свісток.
Пяць — мыюць кветкі пялёсткі,
Вушы скрабуць лапухі.
Шэсць — гэта зноўку над вёскай
Воблака вырас пухір.
Сем — сем глыткоў каляровых
Вып’е вясёлка з ракі.
Восем — з-пад сховаў імховых

Вылезуць баравікі.
Дзевяць — і сонейка ўзыдзе.
Дзесяць — і спыніцца дождж.
Што ж ты спыніўся?
У крыўдзе
Луг на цябе і садок.
Просіць гародчык вачыма:
«Цёпленькі, што ж ты аціх?»
Дожджык лічыць вучылі
Толькі да дзесяці.

## ПЧАЛІНАЯ ПЕСНЯ

Блукаў я сёння раніцай
У сховах сасняка
І песеньку пчаліную
На верасе спаткаў.

Мядовая,
ружовая
Мелодыя плыла.
Ляцела песня ўдалечы
Крылата, як пчала.

Спявалася пра лета ў ёй,
Пра сонейка ўсход.
А песня,
як прыслухаўся,
Была ўсяго пра мёд.



*Васіль Зуёнак*

## ЗОРКІ ВЫПАЛІ Ў БАРЫ

Вы не бачылі, сябры,—
Зоркі выпалі ў бары!

Дзе ні глянеш,
на паляне —
Ўсё гарыць чырвоным зззяннем.
Пад лістамі ля пянькоў —
Сотні зыркіх аганькоў.

Свецяцца жарынкі —
Цёплыя смяшынкі,
Сонечныя дочкі —
Зваблівыя вочкі.

У бары, у бары
Дол увесь іскрыцца,
У бары, у бары
Выспелі суніцы!

## РУЧАЁК

Ці ты зблізку, ці здалёк
Прыкаціўся, ручаёк?
Дзе ты быў і дзе ты жыў,
З кім гуляў і з кім дружыў?

Адказаў нам ручаёк:
— Я ні зблізку, ні здалёк —
Я з высокай хмаркі,
Што ляцела шпарка
Над палямі, над лясамі
І спынілася над вамі.

Вецер хмарку абярнуў —
Цёплы дожджык сыпануў!
За струменьчыкам струменьчык —
Дзе травінка, дзе каменьчык —
У абгонкі скок ды скок —
І радзіўся ручаёк.

Непаседа-вясялун,
Гаманлівы булькатун —
Буду з вамі я гуляць,
Вам караблікі люляць!

## ГАРЛАЧЫК

Хто не знае, хто не бачыў
Кветку-доктара — гарлачык.
Карнявішча — як аптэка:
Вітаміны ёсць і лекі,
Нібы ў бульбіне, нямала
Ў ім бялюткага крухмалу...



Вось бы наварыць галушак! —
Ды вада
агонь затушыць...

*Сяргей Грахоўскі*

## СУНІЧКІ

Каля поўнае крынічкі
Пахаваліся сунічкі
Пад сцяблінкі і лісты
І за ельнічак густы.

З раніцы да ночкі
Бомкаюць званочкі,
Галасочкам тонкім
Клічуць іх рамонкі.

Сойкі і сінічкі
Свішчуць: «Дзе сунічкі?»
Ім адказвае саза:
«Я шукаю іх сама!»

Абазваліся сунічкі:
«Мы хаваемся, як знічкі,
Каля самае зямлі,
Каб адразу не знайшлі,
Каб з травой і зеллем
Зайцы нас не з'елі.

Любім мы свае лясы,
Чуем вашы галасы.
Хто не вельмі ганарыцца,
Нам павінен пакланіцца.
Калі схіліцца хоць раз,
Пад лістамі знойдзе нас».

І чырвоныя суніцы
Зніклі зноў, як чараўніцы.

*Авяр'ян Дзеружынскі*

## ВАСІЛЁК

Стаіць,
Выглядаючы з жыта,
Як зорачка-знічка
Здалёк,
Што ўпала
Іскрынкай
З блакіту,
Палеткаў краса —
Васілёк.

Калі расцвітае
Цуд гэты,
На полі
Яшчэ гарачэй,
Буяе,
Квітнеецца лета
І фарбы прыроды —
Ярчэй.

Стаіць,
Паглядае з пагорка,
Як зорка
Аднекуль здалёк,
Часцінка
Любімай старонкі,
Часцінка зямлі —
Васілёк.



## КРАПІВА

Крапіва, крапіва,
Ты пякучая трава,
Ты такая злючка,
Апякла мне ручкі.
Гэта — непарадак,
Вырву цябе з градак.

*Ганна Іванова*

## СОНЕЙКА-СОНЦА

Сонейка-сонца,
залатое донца,
не хавайся ў бары,
а гары,
гары,
гары!
Ну —
хоць трохі пасвяці,
каб нам спаць не ісці!

*Рыгор Барадулін*

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ГОРАД

Сценамі атулены,
Шкоднікам на злосць,

Пад акном бабуліным
Дзіўны горад ёсць.

На зіму руйнуецца
Ён, нібы ў вайну,
Нанава будуецца
Кожную вясну.

Не адзін выростае
Знакаміты род.
З вуліцамі простымі
Горад той —
гарод.

Ёсць яшчэ такая дзе,
Адкажыце,
Птушка?
Яйкі ўсе ў зямлю кладзе,
Хітрая нясушка.
Вочы ўзрадуе твае,
Ні прыйшоў адкуль бы.
Шмат у горадзе яе,
Беларускай
бульбы.

От бабуля важна села
І глядзіць навокал смела.
У зямлю схавала лапаць.
Як зачэпіш —



Будзеш плакаць.
Гэта злосная бабуля
Называецца
цыбуля.

У бабулі родны брат
Ласкавейшы быццам,
А да слёз давесці рад,
Так, як і сястрыца.
Сам сабе наўме панок,
А прасцей сказаць —
часнок.

А Пятрок малады
Вып'е
Возера вады.
Так і цягнецца ў цянёк
Шалапутны блазан.
Каб далёка ён не ўцёк,
За нагу прывязан.
Гэта я заву Пятрок,
А наогул ён —
гурок.

І не Маша,
І не Галя,
А дзяўчына ў крыўдзе —
За касу яе цягае
Кожны,

Хто ні прыйдзе.
Жыве ў спакоі вельмі рэдка,
І яна завецца —
рэпка.

З вусамі,
А не стары.
Зайздросныя вочы.
За што-небудзь у двары
Учапіцца хоча.
Хопіць хітрасці на трох,
Ну, на тое ж ён —
гарох.

Не сыдзе з месца
Ні на крок,
Зарыўшыся ў пярыну.
Цярэбіць ветрык незнарок
Ягоную чупрыну.
А возьмуць за чупрыну
Ды выцягнуць з пярыны —
Пачырванее, небарак.
Вядома, хто гэта —
бурак.

Гэта што за важны туз,
Хвост зялёны,
Чэпкі вус?
Усім вядомы



Карапуз
Пузан, Пузанаў сын
гарбуз.

І цётка ёсць яшчэ такая,
Якую ў горад не пускаюць.
Яна на ўскраіне жыве,
Ёй — толькі шкода ў галаве.
З закрытымі вачыма
Яе пазнаць магчыма.
Гэта злосная трава,
І завецца
крапіва.

У піжаме паласатай
Вылезла на санцапёк,
Пазірае хітравата,
Грэе гаспадыня бок.
Гэта гаспадыня —
дыня.

І жывуць у цёплым леце
Дружна ўсе, нібы сябры.
— Калі ласка, ў горад,
Дзеці! —
Запрашаюць жыхары.

*Канстанцыя Буйло*

## ДОЖДЖЫК

Дожджык, дожджык залаты,
Ліся, цёплы і густы,
На сады, і на палеткі,
І на травы, і на кветкі.
Палівай гароды болей,
Дзе расце гарох, фасоля...

Дожджык, дожджык залаты,
Не мінай нікога ты.
Гулкім громам грукачы!
Мы паспеем уцячы,
Мы не будзем охаць,
Нас не напалохаць!

Ярка бліснула маланка,
Мы схаваемся на ганку.
Хоць намоклі мы таксама,
Але нас не лае мама,
Кажа нам: — Дождж —
Радасць людзям.
З ураджаем добрым будзем!

## ПА СУНІЦЫ

Мы з сястрыцаю Алесяй
Пойдзем сёння па суніцы.



Ёсць прасека ў цёмным лесе,
За прасекаю — крыніца.
Ад крыніцы той дадолу
Ручаёк збягае чысты,
Звон птушыны, звон вясёлы
Льецца ў ранак прамяністы.
А наўкола пні сівыя,
А ля іх цвітуць рамонкі,
Нам ківаюць, як жывыя,
Іх бялюткія галоўкі.
Зрэнкам жоўценькім, яскравым
Падміргнулі нам, здзіўлёным:
Разгарніце толькі травы,
Колькі ж тут суніц чырвоных!
Ужо поўныя збаночкі,
Пах струменіцца духмяны,
А зычлівых кветак вочкі
Не пускаюць нас з паляны.

*Алесь Гарун*

* * *

Лётала чайка, сумна крычала,
Збурылі гнёздка, што збудавала:
— Кіулі, кіулі!
Ў неба ўзлятае, моцна галосіць,
Чорную хмарку жалабна просіць:
— Кіулі, кіулі!

Хмару мінула, слонейка бачыць, —
Жаліцца слонцу, жаліцца, плачыць:
— Кіулі, кіулі!
Лётае чайка, скігліць у жалю, —
Людзі благія дзетак забралі:
— Кіулі, кіулі!

*Адам Русак*

## У БУСЛАЎЦЫ

Ніхто не знае таго дзеда,
Ніхто яго не ўспамянуў,
Што ў незапамятнае лета
Прыйшоў у нашу старану.

Што працавітаю рукою
Тут першы хату збудаваў
І нашу вёску над ракою
Калісьці Буслаўкай назваў.

З даўным-даўна буслы, бусліцы
Тут гадаваліся, жылі,
Бо ўжо найлепшае сталіцы
На ўсёй акрузе не знайшлі.

Тут ім — балоты, азярыны,
Рачны блакіт і шыр лугоў,
Таму і гнёздаў шмат бусліных
У Буслаўцы спакон вякоў.



*Валянціна Коўтун*

## КНІГА БЕЛАВЕЖЫ

Паміж дрэў — дыван куп'я,
Тут — зубрыная сям'я.
Бацька-зубр на мох прылёг,
Аб пянёк пачухаў рог:
— Што ж, сынок,
У добры час
Рушыць трэба ў першы клас!
Бавіць час табе даволі,
Вучаць у Пушчанскай школе:
Хто твой сябар, хто чужы,
Як сумленна трэба жыць...
А падручнік самы лепшы —
Гэта кніга
Белавежы!

## АВЕЧКІ

Золкай раніцай пастух
Гоніць статак свой на луг.
— Пасу-пасу авечкі
Каля быстрай рэчкі.
Воўк за гарою,
Я — за другою.
Ваўка не баюся,
Пугай адаб'юся.

А прыбег зубаты воўк —
Уцякае пастушок,
А за ім авечкі
Каля быстрай рэчкі.

Уцякаюць ад ваўчыны
Ды праз горы і даліны,
Праз бярэзнічкі густыя,
Праз паляны залатыя...
Пераскокваюць крыніцы
І імчацца па травіцы,
Па дарогах і карэннях,
Па карчах і па каменнях —
Ад ваўка ўцякае статак,
Не дагоніць звер зубаты!

*Рыгор Ігнаценка*

## ЛЯСНЫ ТЭЛЕГРАФ

Ёсць такая птушачка — заранка. Яе яшчэ малінаўкаю называюць. Сама невялічкая, з цагляна-чырвонаю грудкаю, тонкімі высокімі ножкамі, бураватым хвосцікам. Прачынаецца раней за ўсіх птушак у лесе і пазней спаць кладзецца. Свае вясёлыя крыштальныя песенькі спявае не ўдзень, а ранішнімі і вячэрнімі заранкамі — у прыцемкі.

Здавалася б, заранка — лясная птушка:



любіць густыя цяністыя хвойнікі. Але дзе толькі не сустрэнеш яе! Выйдзеш на досвітку з грыбным кошыкам з хаты і пачуеш у садзе: цюк-цюк-цюк. Быццам хтосьці часта-часта срэбным малаточкам па кавадле б'е. Гэта яна, заранка, першай цябе ўгледзела і ўсім паведамляе пра гэта.

Ідзеш соннай вуліцай.

Варта наблізіцца да раўчука за хатамі, як з роснага вярбоўніку ўжо другая голас падае: цюк-цюк-цюк. Маўляў, бачу, бачу. Нібыта адказвае той, першай, у садзе.

У полі ні дрэў, ні кустоў. Ціха. Ды толькі падыдзеш да хмызняку, што перад вялікім лесам, як зноў знаёмы голас пачуеш. Быццам гэта трэцяя заранка ад той, другой, тэлеграму прыняла.

А ў лесе ўжо нідзе не схаваешся ад пільных птушыных вачэй. Куды б ні ішоў, заранкі цябе, як тую эстафету, усю дарогу адна адной перадаюць: цюк-цюк-цюк. Не змаўкаюць срэбныя малаточкі, б'юць па песенным кавадле.

Заранкі цябе бачаць, а вось ты паспрабуй каторую пабачыць! Доўга палазіш гушчэчай, пакуль нарэшце не блісне гарачай жарынкай з цёмнага хвойніку грудка маленькай лясной невідзімкі.

Што і казаць, вельмі спраўна працуе ляс-

ны тэлеграф. Да таго ж, ніколі не псуецца і не памыляецца.

*Янка Брыль*

## «ВЕТЭРЫНАР»

Нашу Сіўку нешта трывожыла.

Прыйдзеш у хлеў пасля ночы, дык пад нагамі ў яе кола вытаптана, як каля малатарні, а сама яна пасуслена ўся, пад пахамі мокра і грыва паплецена ў коскі, ды гэтак хараша, быццам знарок.

Прабавалі ўсялякай рады. Усіх шаптух абхадзілі. Адна шаптуха параіла ўзяць чырвонай бульбы з белымі вочкамі, якая завецца вар'яткай, надзерці яе на тарку і мазаць Сіўку нанач. Другая параіла, каб апоўначы верхам на Сіўцы аб'ехаць тры разы вакол могільніка. Але нішто не памагло.

Узлаваўся наш тата.

— Ну іх,— кажа,— з шаптухамі! Толькі ўсё сала ды крупы звёў. Паеду заўтра па ветэрынара, няхай хлеў агледзіць, што ён скажа, паглядзім.

— Што ён табе паможа, ветэрынар гэты! — засупярэчыла мама.

Ды тата сказаў ёй, што «тут ужо няхай твая галава не баліць»,— і паехаў.



Чакалі мы, чакалі. Мама і стол заслала настольнікам, і хату разы два перамяла, і фартух новы падвязала. А ўжо толькі ўвечары — лах-лах калёсы: уз'язджае наш тата на двор. Уваходзіць у хату, а на руках у яго маленькі сівенькі козлік.

— Вось я вам якія лекі купіў! — кажа тата. Развязаў казлу ножкі і пусціў яго на падлогу.

У козліка — рожкі і пад мызачкай ледзьледзь пачалася бародка.

— Дык гэта ты — «ветэрынар»? — скубянуў я яго за бародку.

А ён — таўхель мяне рогам, і мы ўсе ў рогат: і тата, і мама, і я.

— Сіўку трывожыць ласіца,— кажа тата,— мне ветэрынар сказаў. Казыча кабылу, каб яна бегала, спацела, а тады пот яе смокча. Ласіца вельмі казінага паху баіцца, адразу не пойдзе. А шаптухі немаведама што раілі. Туманяць вочы, дый толькі.

— Ну, будзем бачыць,— сказала мама,— што ты з сваім казлом вымудрыеш.

А козлік, мусіць, не ведаючы, што аб ім ідзе гутарка,— скок на лаву, скок на стол, на ложак, а з ложка на печ. Стаў на коміне ды: «Ме-е-е!» Першы раз такім тонкім, дрыжачым голасам.

Ах ты, сваволькік!

* * *

Памясцілі козліка з Сіўкай разам.

І з таго часу ласіца перастала Сіўку і ганяць, і косы заплятаць у грыве. Толькі козлік пасля ночы стаіць ці ляжыць замучаны, сам не свой, ды толькі тоненька, дробненька: «Ме-е-е!..»

— О, бедны мой «ветэрынар»! — жартую я, ды яму не да смеху.

Пасля ж і яго пакінула ласіца — зусім адчапілася. Спаць прымасціўся ён у Сіўчыным катуху, на сене. Сіўка спачатку пырхала на яго і туліла вушы, а потым прызвычаілася ці, можа, таксама ўцяміла, што ён яе «ветэрынар».

Паілі козліка малаком з бутэлькі цераз соску. Угледзіць толькі—эх, бяжыць! Укленчыць і смокча, узяўшы соску на язык, толькі хвосцікам падрыгвае. Вельмі ж я любіў падманьвацца з ім гэтай бутэлькай з малаком. Як ён бегае за мной і мекае і тоўхаецца рожкамі ў калені!

Падрос козлік і вельмі ж развалачыўся. Панадзіўся ў Піліпавы грады і ўсе капусныя высадкі абцерабіў. Ганяе яго цётка Марта і лаецца: «А каб цябе так ды гэтак!».

А дома у нас панадзіўся ў каморку, па крупы. Так сабе клямку рогам — раз, дзверы — таўхель, скіне днушка з кубельца і —



чаў-чаў-чаў — есць, толькі бародкай трасе. А то хлеб знойдзе, усе боханы паабгрызае. Проста рады няма. «А каб цябе воўк заеў!» — лаецца мама. А ён забяжыць за вугал ды толькі бародку сваю высуне, цікуе. Век жа не будзеш стаяць, пойдзеш, а ён тады зноў — дэб, дэб — ідзе назад.

А хітры, хітры!

Збяруцца каля нас мужчыны на вуліцы, гутараць, кураць. А ён — тыц у тое кола са сваёй барадой, стаіць і слухае таксама. Я да яго з надворка ці з акна:

— Эй ты, «ветэрынар»!

А ён адвернецца — ме-е-е! — і слухае далей.

— Дайце вы яму, дзядзькі, закурыць! — крычу я, а мужчыны смяюцца.

Нехта зачэпіць яго, дык ён толькі рогам штурхне (не лезь, не перашкаджай) і зноў слухае.

Ах ты, барадаты!

* * *

Тата паехаў да цёткі Марылі і прывёз назад нашага Жука.

Наша цётка — удава, жыве наводшыбе ад вёскі і вельмі ж баіцца зладзеяў. Прыстала да таты ўвосень, і ён даў ёй Жука на ўсю зіму.

Вярнуўшыся дахаты, Жук доўга не мог супакоіцца, прызвычаіцца зноў. Ляжыць навязаны, маўчыць, маўчыць, а потым — воў, воў, воў — пачынае выць ад сумных думак.

Козлік з ім спачатку не сябраваў. Усё валочыцца недзе ці лазіць па двары, таксама сумуе. У нас вароты новыя, заложым падваротню, дык ён і не вылезе ніяк. Падыдзе да Жукавай будкі, брэнкае па ёй рагамі, разбудзіць Жука, узлуе. Той толькі з будкі: «Ррр!».

Ды так ужо казёл абрыдаў сабаку сваім прыставаннем, што Жук аднойчы не стрываў, ды хваць яго з будкі за бараду! Упяўся мой «ветэрынар», аж вочы вылупіў ды дзікім голасам: «Ме-е-е!»

— Ой, барада, барада! — крычу я, бегучы ад хаты.

Вызваліў яго ад Жука, а ён мяне за гэта рогам ды пад бок. А пасля разагнаўся, каб стукнуць, ды я схіліўся ўбок.

Пасля ж яны з Жукам здружыліся так, што аж дзіва. Падыдзе козлік да будкі — брэн, брэн рагамі, а Жук спачатку толькі: «Гррр!» А потым такі раскатурхаецца, вылезе, панюхаюцца на прывітанне, і пайшлі гайсаць вакол двара! Палётаюць, нацешацца і да сенцаў. Стаяць абодва каля дзвярэй, чакаюць, каб ім чаго далі. «Ветэрынар» дык



той проста прэцца ў хату ці ў кухню сам, а Жук толькі хвастом павільвае кожнаму, хто ні выйдзе. Гэты хоць трохі сораму меў: яму скажы, дык паслухае, згорбіцца і ў будку; прынясеш есці — твая ласка, а не — дык і так будзе спаць. А козлік — ого!

І вось аднойчы яны раптам зніклі абодва.

Апаўдні толькі прыбягае Жук адзін.

Віляе, віляе хвастом, быццам нешта хоча сказаць, ды не можа.

— Дзе ж ты, нягоднік стары, козліка дзеў? — накінулася мама. — Скавычы вось цяпер, як сабака, адзін. Сорамна, цьфу!

І што ж, Жук і праўда стуліўся, прыгорбіўся, быццам ад сораму, і моўчкі палез у будку.

* * *

Дзень няма козліка, другі няма, цэлы тыдзень няма. Мы ўжо так і падумалі, што ён загінуў назаўсёды.

Аднак, на другім ужо тыдні, дачуваемся, што наш «ветэрынар» жывы, што ён ажно ў Лядах — трэцяй вёсцы ад нас, па дарозе да цёткі Марылі. Вось ліха — няўжо яны ішлі туды?..

Я гэта за кіёк і пайшоў у Ляды, кіламетраў з пяць па гасцінцы. Прыйшоў, іду па

вёсцы. Хацеў толькі каго-небудзь спытацца, дзе тая Янкава Стэпка жыве, у якой апынуўся козлік, ажно бачу: на нечым двары, у садку, стаіць мой «ветэрынар»! Стаіць пад яблыняй дыбка і ўспінаецца, каб дастаць на галінцы лісток. А вакол яго дзеці.

— Ветэрынар! — гукнуў я яшчэ ад варот.

А ён пазнаў нябось — і бяжыць мне насустрач.

— А што, паслухаў, схадзілі? У прочкі хацеў уцякаць!

А ён — штурхель мяне рагамі. Таксама хацеў бы нешта сказаць, ды не можа.

Выйшла з хаты жанчына, тая самая Янкава Стэпка, ды кажа:

— Гэта ж я вось раненька выйшла на вёску, а ён ляжыць на мастку і ўцякаць не ўцякае. Замарыўся, відаць. Я гэта за рогі яго ды дахаты. А чорны сабака — таксама, мусіць, ваш — за мною: «Грр!» А я гэта фартух распеperазала ды як махну на яго, дык ён і пабег ад мяне. Доўга круціўся каля нашай хаты, пакуль малыя, каровы гонячы, не патурылі яго з вёскі. А гэты, вось бачыш, прывык.

Цётка дык тая нічога: бяры, кажа, калі ён ваш, але ад малых я ледзь адпрасіўся: прывыклі да казла, не аддаюць.

Начапіў я козліку аборачку на рогі і павалок са двара.



Мне дахаты спяшацца трэба, а «ветэрынар» — хоць ты яму што хочаш — дрэп-дрэп, ды годзе. Папасу я яго трохі каля прысад і далей. Ужо зусім пад вечар дабрылі мы дахаты.

Ну ж і ўводзіны былі! Распытваюць мяне, смяюцца. А малых дык цэлая чарада за намі ўчапілася.

Падвёў я «ветэрынара» да будкі. Вылез Жук, панюхаў козліка, а той толькі рагамі — таўхель яго, а сам адышоўся і лёг.

— Ну, Лявон,— кажа мне дзядзька Паўлюк, наш сусед,— гэта ж брат, казка, жывая казка! І трэба ж, ліха ім, надумацца ды згаварыцца!..

— Ветэрынар! — кажу я козліку.

А ён толькі павярнуўся.

— Ну што ж, ідзі раскажы, як вы ў госці хадзілі. Будзем казку пісаць.

А ён нават не ўстаў.

*Пятро Прыходзька*

## ЛЯСНЫ МАНЦЁР

Бор навёў на птушак жах:
Сапсаваўся тэлеграф.

Першым кінуўся праз бор
Дзяцел-электраманцёр.

На сасонку сеў, стук-стук:
Вінен хто — чарвяк ці жук?

Трэба ўсіх іх пакляваць,
Тэлеграму трэба даць.

Птушкі, вас тут вельмі многа,
Трэба ваша дапамога.

Совы, сойкі і сарокі
Прыляцелі з недалёку.

І дразды, сычы ляцяць
Тэлеграф рамантаваць.

Паступова, нетаропка
Выбівае дзяцел кропкі —

Знакі азбукі сваёй,
Падае сігнал на ёй.

Развіднела ўжо над борам,
Заспявалі птушкі хорам.

Стук пачулі над сабою
І да дзятла ўсёй гурбою.

Разам дружна працавалі,
Тэлеграф рамантавалі.



І працуе тэлеграф.
Зноў чакайце тэлеграм.

*Аркадзь Марціновіч*

## ЗАГАДКА

Сіваваронкі пасяліліся ў хатцы на сасне якраз насупраць акна леснічоўкі. Гэта птушкі з вельмі прыгожым апярэннем: у іх сінеблакітныя крылы з чорнымі краямі, ярка-карычневая спінка, чорны хвост з сіняй каёмкай, блакітнаватая галоўка.

Паўліку дужа падабаліся сіваваронкі. Ён любіў сачыць, як яны прыносяць спажыву сваім птушанятам. І от заўважыў, што з нейкага часу ў сям'і сіваваронак нешта няладнае. Яны падлятаюць да гнязда як быццам са страхам, а потым раптам з крыкам, шумна лопаючы крыламі, адлятаюць назад, не аддаўшы корм птушанятам. А ў гняздзе ад раніцы да ночы, не змаўкаючы, ціўкае адно птушаня. Іменна адно. Паўлік добра ўслухоўваўся і пазнаваў, што галасы іншых чуюцца толькі ў час кармлення. Што ж такое здарылася?..

— Мабыць, нешта туды залезла. Можа, змяя? — сказаў Паўлік дзядзьку.

— Гэта, пэўна, ціўкае чужое птушаня, —

выказала здагадку цётка Вера. — Можа, якая сарока ці зязюля падклала яйка?

— Хутчэй за ўсё, ціўкае таму, што хворае, — сказаў Іван Патапавіч. — Ты, Паўлік, паназірай яшчэ.

Паўлік назіраў. Назіралі ўсе трое — усіх зацікавіла прычына такіх паводзін сіваваронак. Нарэшце вырашылі паглядзець птушанят.

Дзядзька зняў хатку з сасны. Птушаняты прытаіліся і ляжалі ў гняздзе, як нежывыя. Іх было трое. Тры кволыя, з лёгкім пухам камячкі. Адно меншае, худзейшае.

— Усё ясна, — сказаў Іван Патапавіч. — Бачыце, гэтыя двое каля самага акенца. Яны дужэйшыя, бо перахопліваюць увесь корм, слабаму не дастаецца, і яно ціўкае, просіць есці...

— А чаму сіваваронкі з крыкам адлятаюць ад гнязда? — усумніўся Паўлік.

— Бацькі клапоцяцца пра ўсіх і хочуць накарміць трэцяга, — растлумачыў Іван Патапавіч. — І от сварацца на гэтых дваіх.

— Малайцы якія! — усклікнуў Паўлік.

Ён адразу пагадзіўся, што разгадка можа быць толькі такая.



*Віктар Гардзей*

## ГУЛЬТАЙКА

Мець сваё гняздо — ці чулі? —
Захацелася зязюлі.

Сойка вучыць: — Ты з ялінак
Наламі сухіх галінак.

Раіць ластаўка: — За рэчкай
Глею многа для гняздзечка.

Дзяцел кажа: — Слухай, любка,
Выдзеўбі дупельца дзюбкай.

Бусел хмыкнуў: — Лепш вясною
Кола зацягні на хвою.

Птушкі ўсе ляцяць з парадай,
Ды зязюля ім не рада:

— Гэта столькі многа працы?
Не, не трэба мне палацы!

І ў гняздо заранцы яйка
Зноў падкінула гультайка.

*Паўлюк Прануза*

## ЗЯЛЁНЫ ТЭАТР

На пянёк прысеўшы, піша
Зайчык шэранькі афішу:

«У тэатры у зялёным
Сёння адкрыццё сезона».

Рэха коціцца па лесе:
— Хто б афішу змог павесіць?

Два дзятлы ўзнялі галовы:
— Мы гатовы. Мы гатовы.

І афішу падхапілі —
На бярэзіне прыбілі.

Вось чытае лось рагаты:
«Выступаюць акрабаты,

І танцоры, і салісты,
І капэла цымбалістаў...»

Тут не зала, а паляна,
Муравой яна заслана.

Сцен няма — дубы, бярозы,
Дах — блакітныя нябёсы.



Зайчык выгукнуў з натхненнем:
— Пачынаем прадстаўленне!

Лес замоўк, не звоніць лістам.
Песня салаўя-саліста

Разлілася. Сосны, хвоі
Не гамоняць між сабою.

Выў у лесе шэры воўк,
Як пачуў той спеў, замоўк.

Потым выйшлі жураўлі,
Лёгка ў танцы паплылі.

Шустрыя музыкі-пчолы
Зацымбалілі вясёла.

А мядзведзь спытаўся: — Можна?
З лесу выйшаў асцярожна

І пусціўся ў скокі жвава,
Тупнуў правай,
Тупнуў левай,
Захісталіся аж дрэвы.

Так адранку цэлы дзень
Лес спяваў, шумеў, гудзеў.

*Нэлі Тулупава*

## СЫРАЖУЙКІ

Дзед Пахом
І ўнук Алежка
Ў лес пайшлі
Па сыраежкі.
А за імі кот Мявука,
Певень Куд
І свінка Жуйка.
Дзедка тупае ля елак,
Разграбае мох кійком.
Ўнук ляціць наперад смела,
А дубец — ягоны конь.
Кот Мявука каля норкі
Адганяе пеўня: «Кыш!»
Шышку скінулі ваверкі,
Кот як скочыць!
Думаў — мыш...
Жуйка бегае па сцежках,
Пятачком ледзь павядзе —
Там красуюць сыраежкі,
Як цюльпаны на градзе.
Лес прайшлі
З унукам дзед.
Не знайшлі грыбоў нідзе.
Што за дзіва, што за цуд?
Падлятае да іх Куд:
— Захварэла наша свінка,



І жывот баліць, і спінка...
— Што ты ела, Жуйка?
— Ела «сыражуйкі»,
Каля сцежак,
Ля кустоў
Не адну,
А цэлых —
Сто!

*Змітро Бяспалы*

## ДЗЕ НАЧУЕ АДМІРАЛ?

Вучоныя назвалі гэтага матылька адміралам.

Верхнія крыльцы ў адмірала чорныя, а ніжнія — цёмна-бурыя. На канцах верхніх - па пяць белых вочак рознай велічыні.

А чым жа ён на адмірала падобны? Хіба гэтымі белымі вочкамі? Не.

Верхнія крыльцы матылька падзяляюцца кожнае на дзве часткі чырвонымі лініямі-лампасамі.

На ніжніх — таксама лампасы. За іх, пэўна, і празвалі адміралам.

Знізу крыльцы яшчэ прыгажэйшыя. Яны нібыта вышыты белымі, чорнымі, карычневымі, сінімі і іншых колераў ніткамі. Здаецца, бясконца любаваўся б прыгожым убраннем матылька.

Часта даводзілася бачыць удзень адмірала на лясных палянах. Лятаў ён павольна, важна.

Захацелася даведацца, дзе ж ён начуе. Але адмірал не спяшаўся паказаць свой дом. Як толькі пачынала вечарэць, ён заўсёды некуды знікаў.

Многа вечароў патраціў я на пошукі, але адшукаць адміральскі дом не ўдавалася.

Аднойчы, ужо страціўшы надзею, што ўдасца паназіраць, як і дзе начуе гэты матылёк, я вяртаўся напрасткі праз стары ельнік дадому. Пад ялінаю, якая стаяла на невялікай паляне, спыніўся. Кінуў позірк на ствол і ўбачыў дзве чырвоныя палоскі, якія ў косых праменнях вячэрняга сонца і заўважыць цяжка было.

Прыгледзеўся.

Гэта быў адмірал.

Чорна-бурыя крыльцы матылька зліваліся з бурай карою яліны.

Адламаў галінку і торкнуў адмірала. Ён адразу ўзняўся і знік у галлі. Падумалася, што паляцеў шукаць новае месца для начлегу. Але праз хвіліну-другую адмірал прыляцеў і сеў амаль на тое ж самае месца, дзе сядзеў. Яшчэ раз патрывожыў яго. Адмірал зноў узняўся ў галлё, але хутка вярнуўся.

«Хопіць цябе турбаваць. Спакойнай ночы».



Адмірал разгарнуў крыльцы, паказаў свае лампасы, згарнуў, нібыта махнуў на развітанне.

*Алесь Пальчэўскі*

## ЖЫВЫ БАРОМЕТР

У Мішы — цётка настаўніца. Працуе у сельскай школе біёлагам. На лета хлопчык паехаў гасцяваць да яе. Там ён хутка пасябраваў з такімі, як сам, вучнямі і цэлымі днямі прападаў з імі то на рэчцы, то ў лесе.

— Цётка Паліна, мы сёння зноў пойдзем у лес,— сказаў Міша за снеданнем.

— Тады вазьмі з сабою плашчык.

— Плашчык? — здзівіўся Міша.— Навошта?

— Можа быць дождж.

Міша засмяяўся.

— Адкуль ён будзе? На небе ні хмурынкі.

— А ты паглядзі, што паказваюць наготкі,— паказала цётка на градку пад акном, дзе расло шмат кветак.

Хлапчук зірнуў і пацiснуў плячамі.

— Нічога не паказваюць.

— Як жа не паказваюць? Каторая пара ўжо, а яны не раскрылі пялёсткаў. Тыя рані-

цы аж зіхацелі ў гэты час, а сёння спяць.

— Я ні разу не бачыў, калі яны распускаюцца.

— Трэба, Міша, прыглядацца да таго, што вакол цябе. Прырода — найцікавейшая кніга. Запомні: перад дажджом белая лілея таксама аберагае свае суквецці ад дажджавых кропляў, хоць і расце сама ў вадзе. А ці бачыў ты калі, як «плача» клён?

— Не.

— Прыгледзься, гэта цікава. У тым месцы, дзе пачынаюцца чаранкі лісцяў, на дождж выступаюць слёзы. Хочаш знаць чаму? Перад дажджом у паветры з'явілася шмат вільгаці, а клён сваю не можа выпарыць праз лісце, от і капае лішняя вада... Ты, мусіць, не ведаеш, што і акацыя перад дажджом выдзяляе куды больш нектару, чым звычайна. Правер. Калі над кветкамі акацыі многа мошак, чакай дажджу.

Міша чуў гэта ўпершыню і не знаў, верыць ці не, а цётка казала далей:

— І дым, бачыш, з коміна ў дзядзькі Ціта не слупам ідзе ўгору, а рассейваецца, таксама прыкмета на дождж. А ластаўкі, паглядзі, высока ці нізка лятаюць? — спытала цётка.

— Ды вунь, над самай зямлёю, — паказаў хлапчук.



— А ўчора дзе лятлі?

— Высока ў небе.

— Значыць, мошкі ціснуцца да зямлі перад дажджом, і птушкі зніжаюцца, каб лавіць іх.

Міша аж пляснуў рукамі:

— Ой, як цікава! Без барометра можна сказаць, якое надвор'е будзе. Адкуль вы, цётачка, уведалі пра гэта?

— Што з кніжак, а што і са сваіх назіранняў... Яшчэ заўваж, кветкі могуць не толькі прадказваць надвор'е, але і паказваць гадзіны сутак.

Тут ужо Міша зусім здзівіўся.

— Як гэта? Кветкі — гадзіннікі? Першы раз чую.

— Ды вельмі проста: кожная з іх распускаецца або закрываецца ў пэўны час. Station назірай сам, даведаешся.

Хоць Мішу і не верылася, што будзе дождж, а дождж сапраўды прайшоў пасля абеду. Невялікі, але прайшоў.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

### ЛЕТА

Павук старанна пляце павуцінне — да сухога надвор'я.

Павук забіўся ў вугал — будзе вецер.

Жабы расквакаліся — чакай дажджу.

Мурашкі хаваюцца ў муравейнік — будзе навальніца.

Ластаўкі лятаюць нізка — перад дажджом.

Моцная раса — да яснага дня.

Вясёлка вечарам — будзе добрае надвор'е.

Вясёлка раніцай — чакай дажджу.

Пчолы лятаюць непадалёк ад вулею — будзе дождж, залятаюць далёка ў поле — чакай добрага надвор'я.

Салаўі спяваюць усю ноч — будзе сонечны дзень.



## ВОСЕНЬ МАЯ, ВОСЕНЬ...

(З народнага)

Ой, восень мая,
Восень сцюдзёная,
Чаго ты рана захаладала.
Я й не раненька,
Я й не позненька, —
Калі мая пара прыйшла:
Лісточак апаў, зямельку ўслаў,
Вось мая і пара прыйшла.
Рэчкі сталі, пазамярзалі,
Во мая й другая пара.

*Пятрусь Броўка*

## НАДЫХОД ВОСЕНІ

Вось і лета сышло,
Адспявалі калоссі,
Цяжка нам заўважаць,
Як з'яўляецца восень.

Непрыкметна зусім —
Прыплыве павуцінкай,



Гляне жоўтым лістком
З-пад зялёнай хусцінкі.

Усплыве туманом
Над рачулкаю соннай,
Устрывожыць дымком
З пахам бульбы пячонай.

Зачаруе агнём
Маладзенькай рабіны,
На адлёце крылом
Памахае буслiным.

А пасля,
А пасля
Ліст апошні сарвецца...
Ды не знаю, чаму
Ты мне, восень, па сэрцу.

*Янка Купала*

## ДУБ

Распусціўшы суччa
У глухім прыволлі,
Сам адзін расце ён
На далёкім полі.

Як цар, у кароне,
Аб нічым не дбае,

Ці то стогне бура,
Ці віхор гуляе.

На адным ён месцы
Днюе і начуе;
Многа казак знае,
Многа песень чуе.

Дождж падмыў карэнне;
Ў ім дупло — як хата...
Ён стаіць і дрэмле —
Грозны, расахаты.

*Цётка*

## ПЕРАЛЁТНЫЯ ПТУШКІ

### Чаму птушкі адлятаюць

Тыя птушкі, якія мусяць жыць вясну і лета ў адным краі, а восень або толькі часць восені і зіму ў другім краі, называюцца пералётнымі.

Птушкі на халодны час пералятаюць у цёплы край, бо яны ўсе жывяцца рабакамі, кузюркамі, жучкамі і т. п., а ўсе гэтыя страшэнныя ворагі нашых дрэў і раслін на зіму гінуць, дык птушкам не было б чым жывіцца.

Каб мог здарыцца такі год, што птушкам дзеля якой прычыны нельга было б вярнуцца



да нас, якім жа страшным, глухім і спустошаным праз гэта стаўся б наш край: замест мілага шчэбету, замест песняў звонкіх, толькі голыя веткі і галіны шапацелі б замест багатых рознакалёрных ніў — поле ляжала б, як чорны папар і т. д., бо ўсё багацце нашага краю зніштожылі б, аб'елі б жукі, рабакі, мошкі.

*Сяргей Новік-Пяюн*

## ВОСЕНЬ ЗАЛАТАЯ

Восень, восень залатая
Сее радасць на зямлі.
Хмарка ў сінім небе тае.
Мкнуць ў вырай жураўлі.

Не чуваць у лесе птушак,
Летні гоман сціх і шум.
Матылькоў няма і мушак —
Луг ахутаў мілы сум.

Ніткай срэбнай павуцінне
Ў косах сонейка блішчыць.
Што за цуднае зіхценне!
Што за ціш вакол стаіць!

Я іду лясною сцежкай,
Як па мяккім дыване.

Восень з ветлівай усмешкай
На спатканне выйшла мне.

Ярка, хораша прыбрала
Ўсюды дрэвы і кусты
І зямлю памалявала
Ў колер жоўта-залаты.

*Пімен Панчанка*

## У МАГАЗІНЕ

Ідзе вясёлы продаж.
Сам выбірай, бяры
Садоў і агародаў
Духмяныя дары.

Сябе хваліла лета
І верасня – суседа,
Ад паху тут званілі
Пчаліныя званы.

Капуста, памідоры
І сопкай бульбы горы,
А кут запаланілі
Цяжкія кавуны.

Цыбуляй залацела,
Грыбамі на шнурочку,



Са слоікаў глядзела
Зялёным агурочкам;

Арэхамі звінела
І пахла часнаком
І яблыкамі спелымі
З бурштынавым бачком...

Машыны ўсё падвозяць
Мядовы пах густы.
Прыйшла ў наш горад восень
На лапках залатых.

*Уладзімір Юрэвіч*

## ШУМНЫ ЛІСТАПАД

Раненька ідзе Тацянка ў дзіцячы сад. Ідзе, як заўсёды з дзедам. Ідзе, як заўсёды, адной дарогай. А дарога гэтая – праз парк. Тацянка памятае тут кожны кусток, не тое што дрэва.

А вось сёння прайшла Тацянка масток і не пазнае дарогі. Нібы хто квяцісты дыван разаслаў пад ногі. На ім жоўтыя кружочкі, барвовыя далонькі, ружовыя сэрцайкі. Іх усё большае і большае. Яны падаюць і падаюць. Дыван прыгажэе і прыгажэе.

Спынілася Тацянка і не ведае: ісці далей

ці неісці. Як жа ступіць на такое хараство?

— Дзеду, — пытаецца яна, — адкуль гэтыя лісточкі?

— З дрэваў, унучка.

— А чаму яны падаюць?

— Стаміліся дрэвы за лета, вось і скідаюць свае сукні. Гэта, дзетка, лістапад пачынаецца.

— Пачынаецца? А калі ён кончыцца? Можа пачакаем, пакуль кончыцца, а тады пойдзем, — не сціхае ўнучка.

— О не. Чакаць трэба доўга.

— Да вечара?

— Не, больш, — толькі і адказаў дзед.

А Тацянка тым часам прысела ўжо і пачала збіраць лісточкі. І чырвоныя, і жоўтыя, і ліловыя, і зеленавата-аранжавыя... Цэлы букет у Тацянкі ў руцэ.

— Глянь, дзеду, прыгожа?! — захапляецца ўнучка і збірае ўжо ў другую руку, бо ў адной не месціцца.

Дзед прыгнуўся і таксама пачаў збіраць лісточкі. Толькі не ўсе запар. А тыя, што найпрыгажэйшыя.

Раптам наляцеў аднекуль вецер і цэлы дождж жаўталісцця пасыпаўся долу. Тацянка стаяла і не ведала, што ж рабіць? У яе ўжо было поўнае бярэма лістоў, ледзь абхапіць.

— А ты мне, дзеду, памажы, — папрасіла



Тацянка, — бачыш, мне няма чым збіраць.

— Усяго, дзетка, усё роўна не збярэш, — тлумачыў дзед. — Ні я, ні ты... Вунь, колькі дрэваў. Глянь, які шумны лістапад! І нашто хараство збіраць? Хай будзе для ўсіх. Хай усе цешацца, як распранаюцца дрэвы, ідучы на зімовы спачын.

Тацянка згадзілася з дзедам і ўжо хацела рассыпаць сабраныя ёю букеты лісця. Але дзед не дазволіў.

— А твае лісцікі і вось я свае, — сказаў ён, — аднясем у дзіцячы сад. Хай і там сёння будзе лістапад. Хай і там будзе хараство.

*Іван Муравейка*

## ВОСЕННЮ Ў САДЗЕ

На галіне тонкай
Яблыкі вісяць.
І гадае хлопчык:
— Як жа іх дастаць?

Выручыў малога
Вецер палявы,
Страсянуў галіну
І гукнуў:
— Лаві!..

*Паўлюк Пранузა*

## ЯК ХУТКА ЛЕТА ПРАЛЯЦЕЛА

Як хутка лета праляцела,
Дажджом абмыўшы сіняву.
Лісток бярозы пажаўцелы
Апаў спакойна на траву.

А сонейка ахвотна грэе,
Хоць выбраў верасень маршрут.
А школа, бы аранжарэя,
Якіх не ўбачыш кветак тут!

Дзень сёння самы прыгажэйшы.
Цячэ, цячэ дзятвы рака.
Не ведаю я песні лепшай,
Чым голас школьнага званка!

*Уладзімір Ягоўдзік*

## ЖУРАЎЛІ

«Курлы!.. Курлы!.. Курлы!..» Быццам дзесьці высока-высока пад аблокамі зайгралі звонкія срэбныя трубы. Ды не дзве і не тры, а сапраўдны аркестр. Так пераможна трубяць у гонар вясны шэрыя жураўлі, якія спяшаюцца да родных гняздоўяў.

Жураўлі, ці журавы, як яшчэ іх называюць, надзвычай прыгожыя птахі. Усе як адзін рослыя, дужыя, самавітыя. І, бадай, найлепшыя танцоры ў птушыным свеце. Асабліва хораша яны танцуюць на світанні, калі ўзыходзіць сонца. Прыляцяць на ціхую балацявіну, збяруцца ў карагод і пускаюцца ў скокі, падпяваючы сабе гарэзлівым курлыканнем. А колькі ў тых скоках весялосці! Жураўлі то кланяюцца адзін аднаму, то распускаюць крылы, то ходзяць упрысядкі, то бегаюць навыперадкі. Птушыны цырк дый годзе!

Убачыць зблізку жураўлёў няпроста, бо яны жывуць на глухіх балотах. Гнёзды свае ладзяць сярод травы, на высокіх сухіх купінах. Звычайна жураўліха адкладвае ў гняздо два яйкі. Калі птушаняты праклюнуцца і падужэюць, бацькі вучаць іх знаходзіць пад мохам чарвякоў, жучкоў, лавіць у вадзе жабак, іншую дробную жыўнасць, паказваюць, як лаўчэй скакаць з купіны на купіну, хавацца ад шматлікіх ворагаў. Асабліва нялёгка даводзіцца маладым жураўлям пазней, калі ў іх адрастуць крылы. Тады бацькі-настаўнікі ні хвіліны не даюць ім спакою — прымушаюць махаць крыламі, падскокваць угору, пералятаць з аднаго месца на другое.

Такая штодзённая фізкультура не прахо-

дзіць марна. Мінаюць тыдні, і ў жніўні падлёткі становяцца на крыло — падоўгу крыляюць у небе. Але абавязкова пад пільным вокам вопытных птахаў. Старыя жураўлі паказваюць маладым розныя паветраныя манеўры, вучаць ляцець клінам, выконваць загады важака. Неўзабаве суровы экзамен — вырай у цёплыя заморскія краіны.

Надыходзіць восеньскі дзень, і гаспадары балотных абшараў выпраўляюцца ў далёкае падарожжа. Ляцяць яны высока, імкліва, кідаючы развітальныя крыкі: «Курлы!.. Курлы!.. Курлы!..»

Услухайся ў гэта самотнае курлыканне, дружа, і ты, мабыць, пачуеш, як важак чарады гукае:

«Кірыла! Кірыла! Кірыла!..»

А журавель, які ляціць апошнім, яму адказвае:

«Скры-віў Скры-віў!..»

І проста на вачах выцягнуты ў раўнюткія шнуры клін паварочвае ўбок ці зусім распадаецца. Наперадзе — няблізкі шлях. Нельга памыляцца ў пачатку дарогі! Колькі хвілін птахі ляцяць моўчкі, потым зноўку збіраюцца ў свой дзівосны клін.



*Марк Смагаровіч*

## ВОСЕНЬ

Восень, восень!
Па твайму загаду
Разгарэўся залаты пажар.
Дні наўпрост спяшаць да
лістапада,
Неба надзімае шчокі хмар.

За дарогай учарнеў іржэўнік,
Да зярнятка ўзважаны ўмалот.
У сяле задзірыстыя пеўні
Паліналі, не ўзляцяць на плот.

Хіба што яшчэ трава нягуста
Зелянее ўпарта дзе-нідзе.
Туманом спавітая капуста
Зябне на запозненай градзе.

Ну, а ўсё астатняе гаворыць,
Што пара развітвацца з цяплом.
Глухнуць апусцелыя прасторы,
Да вясны заснуў на небе гром.

*Аркадзь Марціновіч*

## НЕДАВЕРЛІВАЯ ВАВЁРКА

Паўлік доўга круціўся каля сасны з вавёрчыным гняздом. Яму вельмі хацелася зблізку паглядзець на звярка з пушыстым хвастом. Дагэтуль вавёрку ён бачыў толькі на малюнках у кніжцы. Паўлік стукаў па камлі кіем, каб спудзіць вавёрку і каб яна паскакала па галінах. Вавёрка адзін раз выглянула, але Паўлік не паспеў нават разгледзець яе. Ён паспрабаваў дабрацца да гнязда, але сукі на сасне былі кароценькія і далёка адзін ад аднаго.

«Я цябе перахітру ўсё-такі», — сказаў сам сабе Паўлік і, адышоўшыся, схаваўся за камель тоўстай сасны. Доўга цікаваў. І от пачуўся лёгкі шоргат, у акенцы хаткі мільгануў хвост. Вавёрка спрытна вылезла з хаткі з дзіцянём у зубах і, скачучы з галінкі на галінку, з сасны на сасну, знікла ў глыбіні лесу.

Паўлік падхапіўся і пабег хутчэй у леснічоўку, каб расказаць пра гэта дзядзьку.

— Ясна, — сказаў Іван Патапавіч, — не ўпадабала, што ты сочыш за ёю. Недаверлівая. Пэўна, перабіраецца ў другую хату. Ты ідзі, панаглядай яшчэ, яна і астатніх малых забярэ.



Паўлік вярнуўся да сваёй схованкі. Сапраўды, вавёрка неўзабаве з'явілася і раз, і другі. А за трэцім разам незнарок выпусціла дзіцяня, і яно звалілася на зямлю. Паўлік ажно ўскрыкнуў. Памкнуўся падбегчы, паглядзець, ці не забілася малое, але стрымаўся, каб не спудзіць вавёрку. А тая, убачыўшы Паўліка, паскакала ў лес. Неўзабаве, праўда, яна вярнулася, пакруцілася каля сваёй хаткі, але ўніз не спусцілася і праз колькі часу зноў знікла.

Што рабіць? Доўга чакаў Паўлік. Потым падышоў да сасны. На зямлі нямогла варушылася маленькая вавёрачка. «Пэўна, моцна выцялася», — падумаў Паўлік, узяў аберуч мяккі камячок і пайшоў да дзядзькі.

— Забяром яе ў хату, — сказаў Іван Патапавіч, — а то ўночы які драпежнік яшчэ паквапіцца на гэтую малечу. Ужо ж змяркаецца.

Так і зрабілі.

Паспрабавалі накарміць вавёрачку, але яна прыціхла, забілася ў куточак кошыка і нават не варушылася.

Затое ноччу, пад раніцу, адкуль і сіла ў яе ўзялася, — так разгулялася. Паўлік спаў, а Іван Патапавіч прачнуўся і доўга не мог заснуць. Звярок карабкаўся ўверх па фіранцы, падаў і зноў лез.

Раніцай Паўлік устаў і адразу — да кошыка. А вавёрачка зноў як і ўвечары, ляжыць сабе ціхенька.

— Не памрэ яна? — спытаў Паўлік.

— Сілы ў яе многа, — адказаў Іван Патапавіч, — глянь вунь, якая фіранка! Падрала за ноч, чарцяня.

— Хацела ўцячы?

— Ага. Занясі яе да сасны, можа, залезе ў сваё гняздо.

Паўлік занёс. І вавёрачка спачатку нясмела, а потым хутка-хутка пакарабкалася па ствале і спрытна перакулілася цераз акенца ў сваю хатку.

Толькі Паўлік адышоўся да леснічоўкі і агледзеўся, як убачыў, што ў гняздо шмыганула яшчэ адна вавёрачка, а неўзабаве — другая і трэцяя. Мабыць, новая схованка, куды іх перанесла маці, не спадабалася ім.

А дзе ж маці? Паўлік пільнаваў доўга. Нарэшце пайшоў да Івана Патапавіча, які быў на агародзе.

— Няма, не прыйшла вавёрка, — сказаў ён.

— Не можа быць, — супакоіў яго Іван Патапавіч. — Маці ніколі не пакіне дзяцей. Гэта, брат, закон прыроды. Прыбяжыць абавязкова. Яна, можа, усю ноч не спала праз гэтае дзіцяня, што ты забраў.



Калі неўзабаве яны ўдвух падышлі да сасны, з хаткі высунулася мордачка вавёркі. Іван Патапавіч усміхнуўся:

— Бачыў? Ну вось. Ты за ёю сачыў, — а яна — за табою. Толькі ты адышоўся, а яна — скок у хатку. Перахітрыла цябе.

Хутка вавёрка прымірылася з суседствам Паўліка. І ўжо смела скакала з галінкі на галінку, нават калі Паўлік стаяў каля самай сасны. Перамагла сваю недаверлівасць.

*Алесь Якімовіч*

## ЗВЯРЫ НАШЫХ ЛЯСОЎ

Звер вядомы ён усім —
І старым і дзецям.
Футра цёплае на ім,
А завуць — мядзведзем.

А гэта вось —
Рагаты лось
З сям'ёй сваёй уранку
Выходзіць на гулянку.

Як дзяды, яны з барадамі,
Ходзяць цэлымі чародамі.
Проста дзіва — не звяры,
Называюцца — зубры.

Бабры — спакойныя звяры;
Хвасты ў іх як лапаты.
Без тапароў і піл бабры
Сабе будуюць хаты.
Ля іх, нібы разбойніца,
За язем выдра гоніцца.

На суку ў гушчары,
Распусціўшы кіпцюры,
Рысь і дні і ночы
За здабычай сочыць.

Навастрыла вушы ліска,
Пачала ўглядацца:
Ці няма пажывы блізка —
Птушкі або зайца?

Глядзіць куніца горка
На шуструю вавёрку:
За ёй куніца
Скакаць баіцца.

Пад'еўшы ўволю жалудоў,
Па сцежцы лесавой
Ікластых чарада дзікоў
Ідзе на вадапой.

Ну і рогі у аленя!
Метраў два яны — не меней.



Ад такой пагрозы
Уцякаюць козы.

А гэта — не кот, не бабёр,
А самы звычайны тхор.

Воўк на зайца
Вострыць зубы.
Уцякай, шарак,
Ад згубы!

Не ласун барсук, о не!
Есць ён што папала.
Нават жабу праглыне,
Калі мышак мала.

*Уладзімір Паўлаў*

* * *

Восень мінулая між верасамі
Хмеліць яшчэ перамерзлай брусніцаю,
А дзераза ўжо казыча вусамі
Кволыя травы ніцыя.
Неба заслана да самае раніцы
Зорным вясновым настольнікам.
І на дасвецці настройваюць рацыі
Цецерукі ў сасонніку.
Цягнецца к сонцу рунь маладая.
Спяць у туманах аселіцы.

Хутка пад вокнамі сад зашугае
Бела-чырвонай мяцеліцай.
Плачуць бярозы слязінамі чыстымі
У латакі кляновыя.
Шпак ля шпакоўні ў гуморы насвіствае:
«Новая хатка,
Новая!»

*Ядвігін Ш.*

## ГАДУНЕЦ

Каля крыжавых дарог пад узгоркам разрасліся кусцікі: пад'ядловец, сухадрэўка і лаза. Кусцікі былі дробныя. Гулялі ветры лютыя і абрывалі лісточкі з іх; пралятаді навальніцы страшэнныя і крышылі галінкі іх; каціліся паводкі глыбокія і падмывалі карэньчыкі ім. Дрэнна, зусім дрэнна стала жыць кусцікам...

Вось у цёмныя ночкі сталі шаптацца паміж сабой кусцікі, каб як долю сваю паправіць. Раіліся, раіліся і ўрэшце прыдумалі ўзгадаваць паміж сябе такое велізарнае дрэва, каторае бы густымі лістамі сваімі ад ліхіх ветраў закрывала іх, вялікімі галінамі сваімі ад страшэнных навальніц сцерагло, тоўстымі карэннямі сваімі ад глыбокіх паводак бараніла.



Траплялася не раз — памяталі кусцікі, — як паміж іх залятаді зярняты з вялікіх дрэў, але яны і ўвагі на іх не звярталі: паляжыць гэтакае насенне, паваляецца, і то вецер далей яго гоне, то яно засохне і згіне. Але цяпер — пасля нарады — на першае зерне, якое да іх трапіла, сыпнулі кусцікі сваімі лісточкамі і іголачкамі і, гэтак прыкрыўшы, сталі шанаваць і сцерагчы яго. З пестуна на другі год — на вясну — паказаўся расток, і пагнала яго ўгару. Цешыліся кусцікі і, каб даць выгоду свайму гадунцу, не жалеючы, падсыпалі і падсыпалі яму то лісточкаў сваіх, то іголачак.

Шмат год прайшло з таго часу, але ўсё ж ткі прыждалі кусцікі, калі іх гадунец — дрэва разраслося на здзіў высокае, на здзіў шырокае, на здзіў густое. Надзея кусцікаў, што вось-вось цяпер настане для іх новае, спакойнае, лепшае жыццё, цешыла іх бязмерна.

І праўда. Таўстое карэнне, вялікія галіны, густыя лісты баранілі іх ад ворагаў: паводак, навальніц, ветраў, — але гадунец гэты закрыў ім і... сонца.

І — пагінулі кусцікі!

*Міхась Скрыпка*

## ВАВЁРКА

Знаюць гэта ўсе на свеце —
Вельмі ж любяць мяне дзеці.
Як убачаць на суку
У агністым кажушку,
То бягуць ка мне са смехам,
Ажно ходзіць лесам рэха.
Мне так весела з малымі,
Я люблю дражніцца з імі.
Скок з сасонкі на ялінку,
Ды з бярозкі на асінку,
Нібы тая акрабатка.
А стамлюся — шмыг у хатку,
Што збудована ў цяпле
У асінавым дупле.
Там вавёрачкі зіркатыя
Сваёй справаю занятыя:
Хто пасцельку папраўляе,
Хто ў схованкі гуляе.
А як трошкі падужэюць
І, як маці, парыжэюць,
Будуць зранку да начы
Рыхтаваць сабе харчы.
Для зімы, не для пацехі,
Назбіраюць шмат арэхаў,
Шышак, сушаных грыбкоў —
Маслячкоў, баравічкоў:



Падбярэ усё зіма —
Гультаёў між нас няма.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

### ВОСЕНЬ

Гром у верасні — цёплая восень.

Гром у кастрычніку — будзе зіма без снегу.

На рабіне многа ягад — дажджлівая восень будзе, мала ягад — сухая.

Калі ў верасні лісце на дрэвах трымаецца моцна — зіма будзе позняя.

Калі лісце з дуба ападае дружна — зіма будзе мяккая, не ўсё адразу, а паступова — зіма халодная.

Верасвёўскія перуны абяцаюць цёплую восень.

Сухі і цёплы верасень — позняя зіма. Марозны іней на траве — на дождж.

Іней спрыяе наліву капусты: качан становіцца тугім і салодкім.

Воблакі нізка сцелюцца — чакай халадоў.

Туманы на зямлю прылягаюць — пацяплее хутка.

Нізкія, пахмурныя, суцэльныя воблакі — непагадзь усталюецца на доўгі час.

Плятуць свае красёнцы павукі ў паўднёвым напрамку — пацяплее, а ў паўночным — пахаладае.

Восень — на дзень пагод восем.

Восенню скаціна тлусцее, а чалавек дабрэе.

Калі грыбна, то і хлебна.

Ластаўка вясну пачынае, а восень наклікае.

Добра летам працаваў — шмат восенню сабраў.

Калі рабіна не паспела на першы Спас, будзе халодная восень у вас.

Кастрычнік зямлю балоціць, а лес залоціць.

Лістапад снегу надзьме — хлеба прыбудзе, а вадою разальецца — летам сена набярэцца.

У лістападзе гола ў садзе.

З лістападаўскай Матроны зіма ўстае на ногі.



## КАЛЯДЫ, КАЛЯДКІ

(З народнага)

Каляды, калядкі
Везлі бліны, аладкі
У маляваным вазочку,
На вараненькім канёчку.

*Максім Багдановіч*

## ЗАВІРУХА

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
І спеў ліецца ўсё мацней, —
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Ўскіпела снежнае віно,
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.



У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.

## ЗІМОВАЯ ДАРОГА

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць пад дугой,
Запяваюць аб долі і волі,
Напяваюць у сэрцы спакой.

Ўюцца змейкай срабрыстай дарожкі,
Брызгі золата ў небе блішчаць,
І маркотныя месяца рожкі
Праз марозную мглу зіхацяць.

Поле нікне у срэбным тумане,
Снег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкія сані,
Унашуся я ў сінюю даль.

## ЗІМОЙ

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

*Ларыса Геніюш*

## ЗІМА

Зіма сярдзітая з марозам,
З завеяй белаю прыйшла,
Дыван прыгожанькі, сняжысты
Да нас з паўночы прынясла.

З-за хмарак выпаўз ціха месяц,
Збірае зоркі ў карагод,
І заблішчэлі, як брыльянты,
На дрэвах іней, снег і лёд.



Ці то ад іх, ці то ад зорак,
Ды відна стала, як удзень,
А шэранькія хаткі вёскі
На белым снезе, нібы цень.

## ПТУШКІ І МІХАСЬКА

На дварэ суровы студзень
Снег мяце.
Птушкі ранкам вас
разбудзяць
Ў цемнаце.

— Мы не маем сваіх хатак,
Ціў-ціў-ціў.
Мы шукаем тут зярнятак,
Ціў-ціў-ціў.

Дык ляціце да Міхаські
На балкон,
Канапелек і зярнятак
Дасць вам ён.

*Зоська Верас*

## ЧАРАЎНІЦА

З далёкай Поўначы, з краю вечнага снегу і лёду, парай белых касматых мядзведзяў,

спавітая ў белыя пуховыя тканіны, прыехала да нас Чараўніца. Зачаравала воды нашай мілай Зямелькі, і зрабіліся яны камянямі празрыстымі. Зачаравала лясы нашы, і заснулі яны сном глыбокім. Патрэсла шырокімі рукавамі сваёй пуховай вопраткі, і пакрыліся палі нашы снежнай беллю. І лёг наш край пад нагамі Чараўніцы белы... ціхі... задуманы. Рада яна са свае моцы, усміхнулася смехам ясным, хоць халодным, і ад гэтага ўсмеху заіскрылася ўсё кругом цэлым морам брыльянтаў шматкалёрных. І стаіць сярод гэтага мора белі і бляску магутная, грозная, хоць прыгожая, ды бязлітасная. Госця наша штогодняя з далёкай Поўначы — Чараўніца-Зіма.

## КАЛЯДАМІ

У белы кажух апрануты, у белыя боты абуты, у белай шапцы, з вялізарнай барадой, таксама белай, ходзіць сабе Мароз па нашай зямлі і здалёк свеціць сваім вялізным чырвоным носам. Дзеля гэтага і назвалі яго: Мароз — чырвоны нос. Ходзіць сабе па палях і лясах, па вёсках і гарадах і ўсюды па-свойму забаўляецца. Ідзе праз поле, як дзьмухне — снег пылам падымаецца. Ідзе



праз лес, як пачне дубцом па дрэвах біць — дрэвы трашчаць, калыхаюцца...

Не скончыла бабулька казкі.

З трэскам расчыніліся дзверы, насамперад уляцеў у хату клубок белага марознага паветра, а за ім, тупаючы нагамі, укаціўся ў кажух акручаны хлопчык.

Шум і крык падняліся ў хаце.

— Марозі Мароз — чырвоны нос! — крычалі дзеці, смеючыся.

— Гляньце, які ў яго нос, аж пасінеў!

— Хавайцеся, бо нас замарозіць!

Хаваліся дзе хто змог: пад ложак, пад услончыкі, за скрыню... Вясёлы, зычны смех, тупат ног і крыкі не ўнімаліся.

Увайшоўшы, Пранук сам смяяўся, але стаяў спакойна пасярод хаты, трымаючы штосьці ў руках.

— Хлопцы, сціхніце! — крыкнуў урэшце ён. — Пагляньце, што я маю!

Не так лёгка было супакоіць разгуляўшуюся грамадку. Урэшце ўдалося Прануку ўхапіць за рукаў і прытрымаць хатняга хлапца Сальвука. Пацягнуўшы яго да стала, раскрыў асцярожна прыгаршчы і паказаў пекненькага, рабенькага шчыгліка.

— Шчыглік, шчыглік! — усцешыўся Сальвук. — Хлопцы, пакіньце дурэць, хадзіце сюды. Пранук шчыгліка прынёс!

Зацікаўленыя хлопчыкі абступілі цесна Пранука і пачалі перакідаць птушку з рук у рукі, не думаючы аб тым, што бедны шчыглік, страшэнна перапалоханы і змучаны, ледзь ужо дыхаў.

Невядома, як доўга прыйшлося б цярпець птушачцы гэтыя агледзіны, каб у той час не ўвайшоў з бакоўкі старшы брат Сальвука Ёзік, гімназіст шостага класа, які прыехаў да бацькоў на каляды.

— Што вы там маеце, хлопцы, звяра нейкага злавілі? — смяяўся Ёзік.

— Бачыш, — падскочыў да яго Сальвук, — шчыгліка маем!

— То ж ён ледзь дыхае! — сказаў Ёзік, беручы птушку. — Гэй, хлопцы, як вы маглі так яго замучыць?

— А што ж мы яму рабілі? — з крыўдаю ў голасе пачаў Пранук. — Толькі паглядзелі...

— Ці ж мала вам глядзець, як яны, вясёленькія жэўжыкі, на дварэ лётаюць, канешне ў руках мець трэба? Бедная птушачка, амаль ёй сэрцайка не выскачыць!

Шчыглік, быццам разумеючы спагадныя словы Ёзіка, ціханька сядзеў у яго руцэ, круцячы галоўкай і паглядаючы чорнымі, як пацеркі, вочкамі.



— Бачыце, які ён прыгожанькі, — казаў далей Ёзік, — і такі маленькі, а колькі шкодных для раслін вусеняў, колькі рабакоў ён са свету звядзе! Гэта адзін з самых лепшых нашых прыяцеляў, бо асабліва любіць жыць у садах і віць гнёзды на грушах.

— А што ён зімою есць, калі няма ні вусеняў, ні рабакоў? — запытаўся маленькі Казюк.

— Зімою цяжка яму жывецца. Часам знойдзе ў полі або на мяжы колькі каліваў асоту, насенне якога вельмі любіць, то чартапалоху кусцік здарыцца, а то разам з верабейчыкамі пад адрынамі і хлявамі зярнят шукае. А ведаеце, дзеці, у другіх краях, дзе людзі святлейшыя, там і птушкам лепей жывецца. Там кожны гаспадар дбае аб сваёй прыяцельніцы-птушцы і памагае пракарміцца ў цяжкую для яе зімовую пару. А дзеці лучацца паміж сабою ў гурткі прыяцеляў жывёліны, даюць сабе слова ніколі не мучыць ні звярыны, ні птушкі, не выбіраць яечак, не раскідаць гнёздаў, а ўзімку апякуюць птушак і кормяць іх.

— Гэй, хлопчыкі, — аказаўся Сальвук, які да гэтай пары слухаў уважна словы брата, — а каб мы зрабілі гэтакі гурток? Ёсць

нас на нашых хутарах няшмат, з дзесяцёх будзе, давайце карміць птушак, сцерагчы і прынаджваць у нашыя садочкі. Вось весела будзе, як вясною зробяць яны гнёзды каля хатаў і пачнуць шчабятаць свае песні.

У чорных вочках Сальвука свяціліся агеньчыкі.

— Добры з цябе хлапчук, — сказаў Ёзік, гладзячы галоўку брата.

— Што ж, згода? — звярнуўся зноў Сальвук да таварышаў.

— Згода, згода! — весела зазвінелі дзіцячыя галасы.

— А калі маем бараніць птушак ад іх ворагаў, то насамперад трэба выпусціць на волю нашага маленькага нявольніка, — сказаў разважна Казюк.

— А гэта праўда; толькі ж дайце яму ўперад есці, каб добра ўспамінаў нашу гасціну, — параіў Ёзік.

*Іван Муравейка*

## АДМАРОЗІЎ ЛАПКІ

Коцік басаногі
Па сняжку гуляў.
Адмарозіў лапы
І заплакаў: — Мяў...



Што за дзіва гэта?
Трэба бегчы ў дом:
Снег такі халодны,
А пячэ агнём...

## ЯК ЛІСТАПАД ЗРАБІЎСЯ СНЕЖНЕМ

Праступдзіўся Лістапад,
Апрануць кажух ён рад.

І аднойчы уначы,
Шумам далі поўнячы,
Знакамітыя краўцы
Прыляцелі з поўначы.

Да світання працавалі,
Сіл сваіх не шкадавалі.

І калі заняўся дзень
У палях бязмежных,
Лістапад кажух надзеў
І зрабіўся Снежнем.

*Вольга Іпатава*

## ВАВЁРКА

Скок вавёрка па сасне —
Паляцеў з галінак снег.
Пад сасною Зайка спаў —
Ён адразу белы стаў.

## СНЯГУРКА

Я, дзеці, Снягурка.
У лесе расла я.
З вас кожны мяне,
Пэўна,
ў госці чакае.

Нясу падарункі,
Нясу віншаванні
Наташы і Валі,
Руслану і Мані.

Гірлянд электрычных
Заззялі вясёлкі...
Мы з Дзедам Марозам
Прынеслі вам ёлку.

Калі ж сакавік
Поіць сокам бярозы,



Пакінуць вас мусім
Мы з Дзедам Марозам.

Памчаць нас далёка
На поўнач алені,
Туды,
дзе маржы,
Туды,
дзе цюлені.

Па белых ільдзінах
Да Новага года
З звярамі вадзіць
Будзем там карагоды.

І ўсё ж, хоць і весела
Там я зімую,
А, дзеці, па вас
Часта, часта сумую!

*Аляксей Пысін*

## ЯКІЯ БЫВАЮЦЬ ДАЖДЖЫ

З неба льецца дождж зялёны —
Зеляненюць вербы, клёны.

Ходзіць дожджык залаты —
Спеюць жоўтыя жыты.

Шэры дожджык сыпле, сыпле —
Ні лісточка ўжо на ліпе.

Бела ўсё, дажджоў няма —
Гэта ж к нам прыйшла зіма.

*Якуб Колас*

## ЗІМА

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.

Замялі дарогі
Ветрыкі снягамі.
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі,

Апусціў галіны
I стаіць журботна,
Зрэдку верхавіны
Зашумяць маркотна.

Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна —
Ні канца, ні краю.



Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.

Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць,
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць.

## ДЗЕД-ГОСЦЬ

Ходзіць дзед белабароды
Полем, лесам, пералескам,
Засцілае рэчкі лёдам,
Брыльянцістым снежным блескам.

Сыпле іней на бярозы,
Туліць дрэвы лёгкім пухам,
Крые руні, травы, лозы
Белай воўнаю — кажухам.

Дзеда ўсюды носяць ногі,
I к нам прыйдзе на хвілінку
Адпачыць крыху з дарогі,
Важна сеўшы на ялінку.

А ялінка!.. Чаго толькі
На яе няма галінках!

Свецяць зоркі і вясёлкі
У бліскучых павуцінках.

Тут лісічка, зайчык, мышкі,
Рыбкі, буслік даўгавязы.
А як зззяюць на ёй шышкі,
Нібы ў іх гараць алмазы!

Каля ёлкі карагоды,
Песні, гутарка жывая,
А той дзед белабароды
Толькі ў вусы смех пускае.

Дык рассунем кола шырай,
Патанцуем на памосце,
Песняй звонкай, песняй шчырай
Прывітаем дзеда-госця.

*Янка Купала*

## МАРОЗ

Іду я, сняжысты, ўсясільны,
Па сцежках-пуцінах пустых,
І ночкай і днём безупынна
Пільную абшараў сваіх.

Бязмежна, ўладарна паную
Пад схованю пушчавых вех,



Каронаю бор мне зялёны,
А тронам-пасадам бел снег.

Палац мой — лес буйны, вяцвісты —
Ірдзіцца брыльянтамі скрозь,
Мне воўк і мядзведзь у паслугах,
Мне служаць вавёрка і лось.

Як пухам, сняжком пасыпаю
І хвою, і елку, і клён;
Хто ў госці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.

І казкі шапчу ім аб шчасці,
І цемру зганяю з вачэй...
Хадзіце, хадзіце к Марозу!
Хадзіце ў госці хутчэй!

*Максім Танк*

## СНЯЖЫНКІ

— Мая сняжынка!
— Мая сняжынка! —
Крычаць-спрачаюцца дзве Ірынкі,
Сняжынкі ловячы, якія
Лятуць, як матылькі жывыя.
Пайшлі да зайчыка дзве Ірынкі,
Каб рассудзіў ён: чые сняжынкі?

А зайчык кажа: — Ну, пакажыце,
Хутчэй далонькі свае раскрыйце!
Раскрылі. Дзівяцца дзве Ірынкі:
Куды падзеліся іх сняжынкі?

*Станіслаў Шушкевіч*

## ПАЙШОЎ КОЎЗАЦЦА КАТОК

Пайшоў коўзацца каток
На рачулку, на лядок.
Як імчаўся, на хаду
Праваліўся ў ваду.
Замачыў ён чаравічкі,
І касцюм, і рукавічкі.
Нетрывалы быў лядок,
Непаслушны быў каток.
А яму ж казала маці,
Каб лавіў мышэй у хаце,
Каб маленькіх калыхаў
І на печы цёплай спаў.

## ХУТКА ЗІМАЧКА

Мілы Дзімачка,
Хутка зімачка!
А дзе ж лыжы і канькі?
Будуць шчасныя дзянькі.



Маеш толькі самакат,
Ты яму зусім не рад.
На сцяжынках мокра, гразь,
Хоць ты з хаты не вылазь.
Паглядзі ты лыжы ў сенцах,
Каля самага акенца,
І канькі там іржавеюць,
А вастрыць ты іх умееш?
Мілы Дзімачка,
Хутка зімачка.

## СНЕЖНЫ ДЗЕД

Скачуць дзеці. Шум і смех.
У камы качаюць снег.
Толькі снегу быў камяк,
А ўжо вырас дзед-дзівак:
Галава нібы падушка,
Шапка з’ехала на вушка,
Губы — порхаўка,
Нос як моркаўка.
Пояс — рэмень наўскасяк,
З боку венічак-галяк.

Крочаць дзеці на абед,
І адзін застаўся дзед.
Верабейчык на плячы
Чыркнуў дзеду: — чык-чык-чык!

Пасля пырхнуў — і няма,
Сыпле белы пух зіма.

Паглядзеў яму услед,
Зажурыўся снежны дзед.

*Пятрусь Броўка*

## ЛЯЦЯЦЬ І ЛЯЦЯЦЬ СНЯЖЫНКІ

Ляцяць і ляцяць сняжынкі,
Спадаюць
На ціхі дол.
Чысцюткай-чысцюткай беллю
Заслалі палі вакол.

Пялёсткамі буйнага цвету
Яны закружылі скрозь,
Як быццам
Вялізную вішню
Хто ўзяў угары патрос.

Хусцінкамі пухавымі
Захуталі
Плечы хвой...
Мая дарагая Радзіма,
Прыгожая ты і зімой!



*Васіль Жуковіч*

## КАЛЯДНАЯ ВЯЧЭРА

Гэткай смачнае куцці
вы не елі у жыцці.
І блінцы калядныя
дужа-дужа ладныя.
А кісель ды аўсяны
яшчэ лепшы за бліны.
А згатуеце гароху —
з'ясце многа й яшчэ троху.
Селядцы ёсць і грыбкі —
пах ідзе ва ўсе бакі.
Пернікі ды булкі з макам
будуць, пэўна, ўсім да смаку.
Журавінавы напітак
будзе піцца з апетытам.
Усе стравы сытныя,
надта апетытныя!

*Паўлюк Трус*

* * *

Падаюць сняжынкі —
дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім акном...

Расчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
снегавы вянок.

Дзесьці у прасторах
празвінелі бомы.
Дацвілі пялёсткі
нейчае тугі...

Адхінае вечар
тонкія мярэжы,
На акне альвасы
дагарэлі ў сне,

А ў душы квяцістасць,
і такая свежасць,
І з вачэй усмешкі
сыплюцца на снег.

Зноў зіма паслала
снежныя кілімы,
Зажурыла беллю
паплавы, лугі,

І прыходзіць радасць
у красе маўклівай.
Адплываюць хвілі
смутку і тугі...



А сняжынкі сеюць
кволую імглістасць,
Падаюць бялюткі
за маім акном,

І цвіце на вішнях
снежная ўрачыстасць,
Сцелецца на скронях
перад раннім сном.

Хочацца навеяць
казкі-таямніцы
Гукамі мелодый,
радасцю без слоў.

І застылі сцені
у маёй святліцы,
Засынаю... Сніцца
роднае сяло.

*Еўдакія Лось*

## ЗІМА

Сінічка-сястрычка,
ля вокнаў звіні,
сінімі будуць
марозныя дні.
Сіняе неба,

сіні лясок,
сіняй рачулкі
даўгі паясок.
Сінічка,
ты крыламі
сінь расхіні
і сонцу чырвонаму
ў вочы зірні!
Паружавее
ракі паясок,
павесялее
сіні лясок.

*Мікола Чарняўскі*

## НОВЫ ГОД

Пасінеў на рэках лёд,
Неба ў ясных зорках.
Зноў прыйшоў к нам Новы год
З песнямі і ёлкай.
Водзіць з намі карагод
Сам Мароз-Дзядуля.
Многа казак у яго
І вясёлых гульняў.



*Сяржук Сокалаў-Воюш*

## ЁЛКА

Елка ў ельніку жыла,
Елка ў ельніку расла.
Елку везлі нам на свята
Белы зайка і жаўна.
Як прывезлі елку ў хату —
Стала ёлачкай яна.

*Мікола Хведаровіч*

## КРЫЖАДЗЮБ

Зіма. Такі мароз стаіць,
Аж крэкча волат-дуб.
Спявае ў ельніку, звініць
Маленькі крыжадзюб.

Зялёны лес — ягоны дом,
Чаго тут сумаваць?
Шукай харчы пагодным днём,
Дзяцей вучы лятаць.

Бадзёры у яго настрой.
Забыўшыся пра сон,
Як шылцам, дзюбачкай сваёй
Цярэбіць шышку ён.
У старадрэвінах бяроз —
Калыска для дзяцей.

Яго не страшаць ні мароз,
Ні злосны гуд завей.

Іду, лыжня бяжыць за мной
Услед, не адстае.
Замоўкла ў лесе ўсё зімой,
А крыжадзюб — пяе.

*Марк Смагаровіч*

## КАЗАЧНЫ ЛЕС

Лес апрануўся ізноў у абноўку,
Дрэў барадатых застылі рады,
Быццам сюды кожны год на зімоўку
З казак народных прыходзяць дзяды.

Ціш непарушная. Толькі з галіны
Часам абваліцца снегу камяк.
Нібы шматкроп'е, след свежы лісіны.
Побач прабег палахлівы бяляк.

Ён паскакаў — і падаўся на лёжку.
Дзік вунь мурашнік разрыў пад сасной...
Так і хаджу, і чытаю патрошку
Кнігу — аповесць прыроды лясной.

Ветла к сабе запрашае паляна,
Каб адпачыў я, прысеў на пянёк.



Я не адмовіўся б, ды нечакана
Гасне зімовы кароткі дзянёк.

Хоць неахвота, прызнацца, самому,
А пакідаю лясную красу.
Крочу наўпрост цераз поле дадому,
З лесу зімовую казку нясу.

## ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

Дзед Мароз рабіў абход
Перад Новым годам,
Воды рэчак і балот
Замуроўваў лёдам.
Кожны ў горадзе куток
Абышоўшы рана,
Заглянуў ён на каток
Неяк нечакана.
У дзяцей звіняць канькі
Каля самай ёлкі,
На якой, як аганькі,
Зззяюць ярка зоркі.
І рашыў тут Дзед Мароз:
— Што ж хадзіць без толку...
Барадой сівой патрос,
Стаў з кійком пад ёлку.

*Таццяна Бушко*

## СНЯЖЫНКА

Выбегла Таццянка з дому. Снег мяккі сыпле, усцілае зямлю. Выцягнула ручкі ў сініх рукавічках. На іх зоркі-сняжынкі — мама вышывала. Але вось жа і яшчэ сняжынка прыбавілася. Сняжынка сапраўдная. Яна маленькая, куды меншая за вышываную. Толькі што гэта? Яна яшчэ меншая робіцца. Глядзіць на рукавічку Таццянка, а сняжынка ўсё меншае і меншае. Раптам зусім прапала. Дзе ж яна падзелася? Таццянка перавярнула руку — і тут няма!

Тым часам на далоньку апусцілася яшчэ адна сняжынка. Вялікая, пушыстая.

«Ну, цяпер я разумнейшая буду», — падумала Таццянка. Сціснула яна сняжынку ў рукавічцы і дадому хутчэй пабегла — маме паказаць. Вельмі ўжо гэта сняжынка да мамінай вышыванай падобная.

— Мама, зірні, што я прынесла! — і выпрастала руку. А на далоні зноў нічога няма! Заплакала Таццянка ад крыўды.

— І куды яна падзелася? — плача Таццянка.

— Хто? — пытаецца мама.

— Сняжынка! Я табе яе ў рукавічцы прынесці хацела. Несла, несла і згубіла па дарозе!



— Не плач! Не згубіла ты яе... — і мама расказала Таццянцы, што здарылася са сняжынкай.

А вы здагадаліся, дзе падзелася сняжынка?

*Анатоль Астрэйка*

## ПРЫЗІМКАМ

Пафарбаваныя марозам,
Абмытыя дажджом,
Заснулі ціхія бярозы
Уночы пад акном.

Адна не сцішыцца асіна,
Палае, як касцёр,
Дрыжыць, шапоча на галінах
Апошняе лісцё.

І на палянцы дуб магутны
Цяпер не ў той красе,
Сваё лісцё і ён пакутна
Скідае пакрысе.

Адно прызімкам без трывогі
Сасне ў бары стаяць.
На час зімовае дарогі
Ёй шапкі не мяняць.

*Янка Журба*

## ДЗЕД-МАРОЗ

У вопратцы белай
Шырокай, даўгой,
З вялікай пушыстай
Мятлой-барадой

Прышоў к нам здалёку
Дзядуля-Мароз,
Завеі і холад
З сабою прынёс.

У бель апранае
І дрэвы й кусты,
На рэчках, азёрах
Будуе масты.

Па вуліцы ходзіць
Ды снегам хрушчыць,
Вятры з сабой водзіць,
У дрэвах трашчыць.

Ён гукае ў сцены
І хат і сяней
Ды голасам гулкім
Склікае дзяцей:

«Выходзьце, рэбяты:
Час ладзіць каток.



Дык жыва ж за працу,
Шумлівы гурток!»

*Алесь Ставер*

## ЗІМА

Сыплецца мяккі,
пушысты сняжок,
Белаю коўдрай накрыўся
лужок,
Лес нерухома стаіць за сялом.
Рэчка замоўкла
пад тоўстым ільдом.
Птушкам
знайсці зараз ежу цяжэй.
— Дзеці!
Змайструем кармушкі хутчэй!
Зерне насыплем —
хай птушкі дзяўбуць,
Песню ўдзячную нам
прапяюць.

## НА ГОРЦЫ

Мне купілі санкі,
Санкі-самакаты.

І пабеглі шпарка
Мы на горку з братам.

Снежныя падушкі
Беллю вабяць вока...
Мы ляцім, бы птушкі,
Мы ляцім далёка.

Як у небе зоркі,
Снег вакол іскрыцца.
Эх, на санках з горкі
Хораша пусціцца!

Прыбягайце ўранку
Вы да нас, да хаты.
Мы дадзім вам санкі,
Санкі-самакаты.

*Кастусь Кірэенка*

## СНЕГІРЫ

Сёння ў сад наш
На зары
Прыляцелі снегіры.

На ўсіх яблынях
яны,
Дзе ні глянь, гайдаюцца.



Як чырвоныя званы,
Ветру адгукаюцца.

— Ты пытаеш, вольны вецер, —
Чутна ў садзе гамана, —
Ці мы хочам,
Каб на свеце
Зноў была вясна-красна?

Ты пытаеш, дзьмеш нястомна,
Дык жа ведай,
Дык жа знай,
Мы так хочам
зноў дадому —
У паўночны родны край!
А ў свой край
Ляцець
Лясны —
Мы не можам без вясны!..

Я пачуў гамонку тую
Ды бягу да снегіроў.
Радасць сэрца ім дарую
І вітаю, як сяброў.

Хай вам сад наш, снегіры,
Будзе ласкі поўны!
Дзе чакацьмеце пары,
Каб ляцець на поўнач.

А каб менш цягнуўся час вам,
Каб было ўсё менш чакаць —
Буду з вамі я тут разам
Кожны дзень
вясну гукаць!

*Ядвігін Ш.*

## СІЛО

Ціснуў мароз; круціла мяцеліца. Паміж гумна і адрыны, дзе на гурбе стаяла сіло, абсыпанае ўвакол мякінай з канаплямі, было крыху зацішней. Забраліся сюды снягір, верабейчык і сініца.

Снягір, важна насупырыўшы чырвоны свой валяк дый пасвістваючы, як і ўвесь свой век рабіў, стаў падбірацца да канапель.

Дзюбануў раз, другі асцярожна, але, разласаваўшыся, апанавала яго такая прагавітасць, што узлез на самую сярэдзіну сіла ды давай малаціць, ажно пакуль пятля не заціснула яму шыі.

— Чык-чы-рык! — усцешыўшыся, пачала здзекавацца над ім сініца, бо за снегіром сама баялася даступіцца да канапель.

— Чык-чы-рык! — крычала яна, увіхаючыся каля зярнят, дый не агледзелася, як сама абедзве нагі ўплутала ў валасянку.



— Жыў-жыў-жыў! — адазваўся верабейчык, скачучы здалёку сіла і набіваючы мякінай свой валяк. «Жыў-жыў-жыў».

*Змітро Бяспалы*

## ВЫЙШЛІ ПАГУЛЯЦЬ

Ужо сем гадоў раслі пасаджаныя стройнымі радамі хвойкі. Штогод на іх вырастае паясок новых галінак. Лёгка палічыць па гэтых галінках, які ўзрост маладых хвоек.

Прыгожыя яны. Толькі калючыя.

Самая-самая верхавінка маладой хвойкі падобна на вожыка. Вострыя шыпулькі тырчаць угору, у бакі.

Пайшоў снег. Сняжынкі кладуцца і кладуцца паміж шыпулек. Вось ужо шыпулькі зусім схаваліся ў снезе. З'явіліся на верхавінках белыя шапачкі. Сонца свеціць. На шапачках нібы брыльянты іскрацца.

Глядзіш на хвойкі, любуешся імі. Здаецца, быццам многа-многа дзяўчынак у зялёных світках, у белых шапачках выйшлі пагуляць.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

### ЗІМА

Дым з коміна ідзе слупом — будзе мароз.

Калі ноччу быў іней, днём снегу не будзе.

Кошка — на печ, сцюжа на двор.

Вароны садзяцца на верхавіны дрэў — будзе вецер.

Гусі лапы хаваюць — будзе сцюжа.

Вераб'і дружна расчырыкаліся — пацяплее.






*Якуб Колас*

## РАНІЦА Ў НЯДЗЕЛЬКУ

Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне,
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці... Пад рукою
Таўкліся дзеці, зміналі,
Або смяяліся, спявалі.
Услон заняў сваё ўжо места,
На ім стаяла дзежка цеста,
І апалонік то і дзела
Па дзежцы боўтаў жвава, смела
І кідаў цеста ў скавародкі.
Давала піск яно кароткі,
Льючыся з шумам на патэльні,
І ў жар стаўлялася пякельны;
І там з яго ўжо ўвачавідкі
Пякліся гладзенькія пліткі
Блінцоў, спаднізу наздраватых,
Угору пышна, пухла ўзнятых,
І ўжо адтуль рукою маткі
На ўслон шпурляліся аладкі,
А дзеці іх даўно сачылі



І на ляту блінцы лавілі,
Заядла мазалі іх здорам.
Стаяў асобна ў місцы скорам
Сяго-таго для верашчакі.
Хоць невялікія прысмакі —
Цыбуля, перчык, ліст бабкоў
Ды сальца некалькі брускоў,
Мука і квас — і ўся прыправа,
Але ўсё ж снеданне цікава;
А для дзяцей найбольша свята
Абы наесціся багата.
І звон аб прыпек скавародны,
Так блізкі сэрцу, так ім родны,
У нейкім радасным настрою
Спяваў ім песняю святою
І лашчыў сэрцы ім і вушы
І поўніў радасцю ім душы,
Такі прыемны мілагучны,
У той прыемнасці выключны,
Ён разліваўся па ўсім целе
І ў момант іх знімаў з пасцелі.
Недарма ж дзядзька іх, бывала,
Каб пабудзіць каго з іх жвава
Пагнаць каровак ранічкою,
У прыпек біў скаварадою.
Цяпер, здаволіўшысь ядою,
Дзяцінай цешыліся гульнёю.
Хто бегаў з кіем каля хаты —
Ганяў курэй. Як парасяты,

Ў пяску капаліся сястрычкі.
Алесь хадзіў каля крынічкі,
Што з лесу тут жа выцякала
І дужкай хату агібала,
Хадзіў, свістаў пад голас птушак,
Збіраў ён ягадкі ў гарнушак.
Ўсе парасходзіліся з хаты,
І кожны дзелам быў заняты...

## САВОСЬ-РАСПУСНІК

(Урывак)

У Савосева суседа
Быў пярэсценькі каток,
Выхаванец Паўла-дзеда,
Такі слаўны пестунок!
Нос чарнявы,
Хвост бялявы,
Задзірасценькі;
Кіпцік-шчыпчык
Заграбасценькі;
Лапкі-драпкі
Машастовыя,
А шарсцiначкі
Шаўковыя;
Губкі, зубкі
Адмысловыя;
Вусы-русы



Патырчастыя;
Тая спінка,
Як націнка,
Выгінастая.
Вушкі-слушкі
Не мыляюцца,
Вочкі ў ночку
Запаляюцца.
Ну, такі каток харошы,
Як драпянка за тры грошы!
Хадзіў коцік пад масток,
Лавіў рыбку за хвасток,
Потым дзеду ён на печы
Казкі-байкі варкаваў,
Белым хвосцікам дарэчы
Тахты спевам адбіваў.
Коцік з дзедам жыў у згодзе,
Не сварыліся за печ.
Быў раз коцік на паходзе —
На мышэй падняў ён меч!
Шоў каток з паходу,
Разагнаўшы мышак,
І сеў на калоду
Пад стрэшку ў зацішак.
Грэе сабе спінку,
Мордачку і лапкі.
Зірк — Савось з будынку
Выскачыў без шапкі!
За Савосем — Рудзька.

— Кусі ката, цюцька!
Коцік бедны ўвесь жахнуўся,
Ды на шчасце быў тут плот,
А пры плоце дуб, — і кот
Толькі фыркнуў, мільгануўся
І на дубе апынуўся.
Сеў каток
На дубок,
Кажа забіякам:
— Эх, Савось, шалапай!
Ты мяне не чапай
І не цкуй сабакам!
Не ўдалося Савосю
Катка падкусіць
І прышлося Антося
На помач прасіць.

Вось Савось
І Антось
Сталіся дружакі,
Каля клуні стаяць,
На ліхое таяць —
Закідаюць знакі,
Як злавіць ім катка
І аддаць з малатка
Рудзьку на расправу.
Падшывальцы ж яны,
І іх розум дурны
Выдумаў забаву!



А па тэй нарадзе
Саўка торбу крадзе,
Анцік — хлеб сабаку.
А каток на печы
Сеў, як той старэчы, —
Яму і не ў знаку.
Эх, пярэсценькі каток!
Сцеражыся ты, браток!
Не хадзі ты па падворку,
Не хадзі гуляць на горку —
Там бяда цябе чакае,
Сам не ведаеш, якая.
Асцярожненька хадзі,
За Савосем ты глядзі,
Бо Савось замысліў штось,
Нездарма з ім і Антось.
Затаіўся у кутку
Наш Савось і катку
Замаўляе зубы
Для кацінай згубы:
— Ах ты, коцічак мой!
Які файны ты, ой!
Што за спіначка!
Ну, карціначка!
Ідзі, коцік, да мяне,
Не пакрыўджу цябе, не!
А якія вочкі!
Бачаць сярод ночкі.
А якія лапкі!

Ды як яны цапкі!
Ах, ты, мой каточак,
Чорненькі насочак!
Ідзі ж, коцік, да мяне:
Не пакрыўджу цябе, не.
Яўкнуў коцік, выгнуў спінку,
Хвост падняў, як корбу,
Але ў тую ж хвіліну —
Шусь каток у торбу.
І катка панеслі ў поле.
А там чыста — ні кусточка,
Ні хваінкі, ні дубочка,
Адны межачкі ды ролі.
Няма дзе катку схавацца:
Чуць сінее лес далёкі,
І сяло за тры валокі, —
Як катку там ратавацца?
Плача ў торбе коцік, плача:
— Мяў, мне душна! Мяў, мне
цесна!
Б'ецца сэрцайка балесна,
Бо мне грозіць смерць, няйнача!
Кот бурчыць і гурчыць,
Лапамі дзярэцца,
А Савось хоць бы што —
Цешыцца, смяецца.
— Ну, спыніся, Антось,
Падзяржы сабаку:
Толькі выпушчу ката,



Цкуй тады ў атаку.
Адышоўся Савось,
Анцік прытаіўся,
І тут коціку астрог
Раптам адчыніўся.
З торбы выскачыў,
прысеў —
Трэба ж разглядзецца.
Зірк — там Рудзька! Што
рабіць!
Дзе яму падзецца?
— Цкуй! Пускай! — крычыць
Савось.
— Кусі ката, Рудзька!..
Ша! чаго ж так закрычаў
Наш Савось нялюдска?
Глянуў Анцік — вось дзівота!
Вось дзе ліха, вось бяда!
Што зрабіла ім дурота
І што сталася з ката!
Вось папаліся дзе змоўцы —
Проста шкода малышоў:
На Савосевай галоўцы
Коцік схованку знайшоў!
Лемантуе бедны Саўка,
Ашалелы, чуць жывы,
Кот упіўся, ну, як п'яўка,
І не знімеш з галавы!
Запусціў кіпцюр у скуру

Аж да самае касці.
Скача Саўка з таго дуру
Ды крычыць: «Пусці! Пусці!»
Рудзька круціцца навокал,
Брэша, цапае катка.
Ай, Савоська, ты мой сокал!
Справа дрэнна і брыдка!
Ой, нагараваліся,
Ой, бяды набраліся
Хлопчы з тым катом!
З поля як вярталіся,
Людзі з іх смяяліся,
Ды дружна, гуртом.
Шоў Антось уперадзе,
Рудзьку вёў на прывязі,
Пазіраў уніз,
А Савоська наводшыбе,
На галоўцы з коцікам,
Шэпчучы: «кіс-кіс!»
І хоць ён не піянер,
А чырвоны меў каўнер.

*Леў Парэмскі*

## ПАПРАШАЙКА

Кот Мурлыка справу знае:
Ён заўсёды рыбакоў
Каля возера стракае,



Каб займець і свой «улоў».
Ці цудоўная пагода,
Ці ўсчанецца бушаваць —
У Мурлыкі ёсць нагода
Колькі рыбак атрымаць.
Ці зіма стаіць, ці лета —
Ды заўжды бывае клёў...
Кот Мурлыка помніць гэта
І страчае рыбакоў.
Паднімае хвост трубою
І давай, давай прасіць:
— Падзяліцеся са мною,
Я не ўмею сам лавіць.
І такі Мурлыка ўмора,
Голас ласкавы такі,
Што каціным ўгаворам
Паддаюцца рыбакі.
Здатны ўсе на пачастункі,
Толькі ўсмешкі на губах...
І хрумсцяць, хрумсцяць ласункі
На мурлыкавых зубах.

*Ядвігін Ш.*

## ХЛЕБ

### (З народнага апавядання)

Стаў ганяць староста Пранука ажно ў павятовы горад адбываць там нейкія павіннасці. «Ах, каб з вас духі павыганяла!» — за-

мармытаў пад нос Пранук, але ткі, хоцькі-няхоцькі, закінуўшы на плечы торбу з хлебам, пацягнуўся.

Раніцай — халадком — ісці было нішто, але пад паўдня стала прыпякаць, ногі пачалі млець, а тут яшчэ вяровачка ад торбы з хлебам муляе плечы Пранука. А ў дарозе, вядомая рэч, зразу зусім не чутно цяжару, а прайдзі толькі далей, дык і хунт пудам здаецца!

Перакідваў Пранук торбачку з аднаго пляча на другое, перакідваў, дый так нічога: рэжа!

— Вось каб цябе ліха! — стаў наракаць Пранук. — Сам чуць цягнуся, а тут яшчэ і хлеб нясі...

— Не ты мяне нясеш, а я цябе нясу, — адзываецца хлеб з торбы.

Забыўся Пранук і на дзіва, што хлеб загаварыў, толькі яшчэ горш узлаваўся:

— Дык ты гэтак?! Мала таго, што на плячах маіх ляжыш, — яшчэ агрызацца ўздумаў? Вось жа паглядзім, хто каго нясе! — дый бразь торбу з хлебам аб зямлю, а сам ажно ходу са злосці падбавіў.

Ішоў Пранук, ішоў доўга; але штораз часцей садзіўся спачываць, штораз часцей уздыхаў, штораз часцей сплёвываў, і не прыждаўшы яшчэ вечара, вельмі ўсцешыўся, угледзеўшы здалёку на дарозе карчму.



Зайшоў, дастаў капшук, вытрас з яго апошнюю залатоўку, што з дому ўзяў, каб было чым хлеб свой падкрасіць у дарозе, ды аддаў яе цяпер на хлеб і, ласа сухі яго грызучы, дагадаўся ўрэшце, хто каго нёс: ці ён — хлеб, ці хлеб — яго.

*Змітрок Бядуля*

## ГАСПАДАРКА

У куце сядзіць мядзведзь,
Хустку вышывае,
А лісічка-невялічка
Хатку прыбірае.

А каток пячэ аладкі,
Маслам залівае,
На тапчане мышанятка
Есці памагае.

А сабачка ўе вяроўкі —
Пугу для хлапчыны,
Дзяцел-бондар на начоўкі
Длубае асіну.
Казёл лапці папраўляе,
Скуратом мацуе,
На акенцы павучочак
Кросенкі рыхтуе.

# МУЗЫКА

Пастушок Васілька з самых малых дзён любіў іграць на жалейцы. Іграючы, яму ніколі не было нудна са статкам сваім у самым дзікім гушчары, на самых глухіх палянах сярод балота.

Ён іграў і іграў. Так шчыра іграў, ад усёй душы, ажно сам цешыўся, і ўсё навокал яго цешылася. Васілька любіў усім сэрцам сваю жалейку. Моцна любіў. Ён мог забывацца палуднаваць, але іграць ён ніколі не забываўся. І таму ён навучыўся іграць вельмі прыгожа.

Гэта ўцяміла ўся ваколіца. Гэта ведаў яго статак. У гэтым пераканаліся лес, поле, рэчка, рыбкі, птушкі, звяры, казюлькі і ўсе самыя драбнюткія стварэнні на паляне.

Бывала, як зайграе Васілька вясёлую песеньку, дык неба весялілася, сонца смяялася, дрэўцы ківаліся ў такт. Зляталіся розныя птушкі, збягаліся розныя звяры, спаўзаліся розныя гадзіны слухаць ігру пастушка. Рэхі каціліся ад дрэва да дрэва, ад горкі да горкі, ад лугу да лугу і склікалі ўсіх. Усім істотам было весела і добра ад яго песняў.

А калі пастушок іграў жаласлівую песню, дык сумна рабілася на полі. Краскі слязамі расістымі пакрываліся. Дрэўцы і кусты



нямелі, а высока над полем хмаркі затулялі яснае неба. Усе жывыя істоты апускалі галовы і глыбока задумваліся. Але і смутак-жаль ад трэляў жалейкі быў усім прыемны, як свежы ранішні туман, і салодкі, як ліпавы мёд. Усім нечага надзвычайнага жадалася пры яго ігры. Усіх Васілька зачароўваў. Над усімі ён панаваў са сваёй жалейкай, якая мела ў сабе вялікую сілу.

Прыходзілі на адукацыю да настаўніка ўсе, хто толькі меў сэрца жывое. Ён іх вучыў старанна, бо чым болей музыкаў было вакол, тым болей ён радаваўся. А вучыў ён не проста, але па нотах. Нотамі ў яго былі не такія нямыя і мёртвыя значкі і круцёлачкі на паперы, а ўся жывая зямелька са сваімі рознакаляровымі краскамі, траўкамі, дрэвамі і серабрыстымі крынічкамі. Блакітнае неба са сваімі свечкамі-зоркамі, размаітымі хмаркамі, пераліўнымі зарніцамі і фарбамі. Гэта ўсё было нотамі для пастушка, гутарлівымі, спяваючымі і рухлівымі. Па іх вельмі лёгка было вучыцца.

Першага навучыў пастушок сваёй музыцы салоўку. Салоўка быў яго найлепшым вучнем. Калі адукаваны салоўка спяваў апоўначы ў бярэзніку, дык не то што блізкія істоты, але і далёкія зоркі ў небе слухалі з прыемнасцю і пераміргваліся ад дзіва паміж сабой, ка-

жучы: «Глядзіце, сястрычкі, такі малы шэры жэўжык, а якія слаўныя трэлі выводзіць».

Пасля салоўкі вучыўся ў пастушка жаваранак. Гэта была не такая здольная птушка, як салоўка, але з грахом папалам і жаваранак патрапіў бы іграць вяселле лёгкім хмаркам пад вясновым небам над свежым, пуховым чарназёмам.

Пасля салоўкі і жаваранка вучыліся і іншыя птушкі. «Усе пяюць, усе іграюць,— падумаў хлопчык.— Увесь свет пад сонейкам мае сваю музыку». Вялікая пашана з'явілася ў хлопчыка да ўсяго свету.

«Давай,— падумаў хлопчык,— зайграю для сонейка, якое пануе над усім светам!».

І вось у адну пекную раніцу хлопчык яшчэ цямнютка выгнаў статак у поле. На прасторы ён зайграў на сваёй жалейцы. Зайграў прыгажэй, чым заўсёды. Уся пекната летняй зямлі адбілася ў яго песні.

Гэткай прыгожай музыкі яшчэ ніхто на свеце не чуў. Гэта была песня без слоў, бо хлопчык іграў для сонейка, а сонейка без слоў добра разумела. Дзівіўся статак. Дзівіліся дрэвы, птушкі, рэчка, неба. Дзіву далася ўся зямля.

— Калі для сонейка, дык і мы да кампаніі! — сказалі ўсе істоты.

І вось на ўсходзе сонейка на лузе пачалася вялікая музыка: усе стварэнні на зямлі і сама зямля ігралі і спявалі, кожны на свой лад, на тысячы-тысячы галасоў.

Увесь свет выглядаў велізарнай скрыпкай з незлічона многімі струнамі. Гэта было так хораша, так цудоўна прыгожа, ажно само сонейка вельмі ўзрадавалася. Спусцілася сонейка з неба на сваіх лёгкіх прамяністых скрыдлах і пацалавала маленькага хлопчыка ў самыя вусны. Пацалунак быў такі лёгкі, што пастушку здалося, нібы кволы ветрык толькі кранууўся яго твару. Пацалунак быў такі шчыры, што хлопчык да самай магілы аб ім не забудзе.

А сонейка было такое радае і добрае, што задумала апрануць зямлю ў багатыя вопраткі, у шаўковыя і залатыя колеры. І ззяць, ззяць і радаваць усіх.

З-пад аксамітнай і парпуровай хмаркі ўзышло яно гарачае і бліскучае. Узышло ды ўсміхнулася. Усміхнулася ды яшчэ вышэй паднялося і абсыпала сваімі праменнямі зялёны ўзгорак, дзе стаяў пастушок. Пастушок выглядаў не то сярэбраным, не то залатым. Праменні красавалі, як агнёвыя васількі, на яго галаве. Праменні пырскалі яму ў твар дыяментавымі снапамі. Праменні сыпаліся бліскучымі іскрамі, каляровым макам з яго вачэй. Здавалася, што ў пастушковых вачах

драбнюткія хохлікі крэсяць агонь бесперастанку.

Хлопчыку так добра зрабілася на душы, што яму захацелася глянуць на сябе. Ён падышоў да рэчкі, каб зірнуць у яе, як у люстэрка.

— Глядзі, глядзі ў мяне, — сказала рэчка, — бо твая душа чыстая і празрыстая, як мая вада!

Зірнуў хлопчык у ваду і сам сябе не пазнаў. Такі ён стаў прыгожы! Гэты цуд утварылі над ім летняе сонейка і надзвычайнае шчасце, якое азарыла яго ўсяго...

*Алесь Бачыла*

## МАМА

Свет вялікі... Словы, словы...
Колькі іх — і не злічыць!
Толькі «мама» на ўсіх мовах
Скрозь аднолькава гучыць.

І хоць розных моў таксама
Ў цэлым свеце о-ё-ёй!..
Толькі мамы, нашы мамы,
Размаўляюць на сваёй.

Той, што змалку сэрцу блізка,
На якой зімой і ў май



Пела маці над калыскай:
«Спі, мой сынку, засынай...»

Адганяла цень трывожны,
Атуляла дабратой
І спявала... Хіба ж можна
Адрачыся песні той?

Хай табе не засціць памяць
Аніякая імгла...
Калі крыўдзіў хто, ты ж маму
Клікаў... Мама ўсё магла:

Адагнаць бяду, нягоды,
Холад, немарач, адчай...
Добрым сынам будзь заўсёды
І яе не засмучай.

*Васіль Вітка*

## НАТАШЫНА СЯМЕЙКА

Сям'я ў Наташы невялікая — Каця і Мішка. Вы скажаце: якая ж гэта сям'я? Гэта ж цацкі. Няхай сабе цацкі, але яны як жывыя.

Каця ўмее плакаць. Толькі яе зачэпіш, яна адразу ж: а-а-а! А пачне Наташа супакойваць, на руках калыхаць, дык яна аж за-

ходзіцца. Вочы ў Каці сінія, вялікія; самі расплюшчваюцца і заплюшчваюцца. А валасы чорныя-чорныя. Шмат клопату Наташы з Кацяй — і накармі яе, і прычашы, і памый, і спаць палажы, ды яшчэ і спявай ёй:

Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Усе даўно паснулі.
Не спіць адна ў хаце
Толькі мая Каця.

Затое калі ўжо Каця засынала, дык спала доўга. А Наташа тым часам бралася за другую работу. Шыла Каці новую сукенку. А Мішка сядзеў сабе каля Кацінага ложка і круглымі, быццам гузікі, вачыма ўважліва цікаваў, як бегае ў Наташыных пальчыках іголка.

Мішка быў паслухмяны і добры. Праўда, часта кволіўся жыватом. Калі хто знянацку, бывае, ткне яму пальцам у жывоцік, дык ён аж прысядзе ад болю: ой, ой!

Наташа шкадавала Мішку. Яна ведала, чаму ён крычыць. «Яму рабілі аперацыю,— расказвала Наташа.— Была ў яго на жывоціку болька. Дактары яе выразалі, а ў ямачку ўставілі кнопку».

Моцна спіць Каця. Наташа шые сукенку. І тут зусім неспадзявана хтосьці — торк Наташу пад локаць: ай! Аж кропелька крыві выскачыла на пальчыку?



Усхапілася Наташа, замахала рукою ад болю. А вусаты Кузьма трэцца аб ногі, як ні ў чым не вінаваты.

Кузьма — гэта кот. І Наташа добра ведае, што гэта ён штурхнуў яе пад локаць. Ён заўсёды ляжыць-ляжыць у запечку, а сумна стане,— падыдзе, выгне спіну і трэцца аб цябе. Хоча, каб з ім гулялі.

— Ты будзеш татам! — строга загадала яму Наташа.

Кузьму гэты абавязак прыйшоўся не па душы. Ён пакрыўджана паглядзеў на Наташу, сонна пазяхнуў і адышоў у куток. Але доўга ўседзець не мог.

Як толькі Наташа ўзялася за шытво, ён, крадучыся, падпоўз да Мішкі і драпнуў яго лапай па жываце. Мішка як войкне, як заенчыць ад болю, як кінецца пад Кацін ложак, каб схавацца. Але ж каму не вядома, якія ўсе Мішкі непаваротныя. Ложак перакуліўся. Каця выпала з пасцелі. Нічога не цямячы спрасонку, яна то расплюшчвала, то заплюшчвала вочы. І так заплакала, што Кузьма, ведаючы сваю віну, кінуўся з-пад самых ног Наташы, адным махам ускочыў на палічку, прыбітую над мыцельнікам, і схаваўся там за гладышом.

— Хіба так робяць таты? — сказала з дакорам Наташа і сярдзіта паківала яму пальцам.

Хто ведае, колькі б ён там прасядзеў, але з гладыша так пахла смятанай, што Кузьма не вытрываў – падняўся на лапах і зазірнуў у гладыш. Ён добра памятаў, што раніцай, калі снедала Наташа, дык і яго частавала. Смачная смятана. Але засталося мала, толькі на самым дне. Як яе адтуль дастаць? Кузьма лапамі нагнуў гладыш, асцярожна паклаў яго і залез з галавой усярэдзіну. З гладыша тырчаў толькі хвост.

– Кузьма! – крыкнула Наташа.

– Мала, м-м-а-ла! – пачуўся гулкі водгалас.

– Вось я табе дам мала! – прыгразіла Наташа.

Кузьма хацеў уцячы і разам з гладышом бразнуўся з паліцы.

Калі Наташа глянула на падлогу, там ляжалі толькі дробныя чарапкі. А Кузьма... Убачыўшы Кузьму, Наташа так і зайшлася ад смеху.

Кузьма бачыў, што рагочуць з яго, але не цяміў, чаго рагочуць!

– Ды зірні ты на сябе! – крыкнула Наташа і яшчэ званчэй залілася смехам.

Кузьма павярнуўся разы тры вакол сябе, агледзеў хвост, вінавата патаптаўся паміж бітых чарапкоў і ўскочыў на падаконнік. А там стаяла люстэрка. Як глянуў ён у люстэрка, дык не пазнаў самога сябе. Уся яго галава да вушэй і пушыстыя вусы былі белыя, нібы мылам намыленыя.



Кузьма нездаволена паморшчыўся, потым, нasлініўшы лапу, пачаў старанна скрэбці ёю каля вусоў...

На той час у хату зайшла Наташына мама. Яшчэ з парога яна заўважыла непарадак.

– Што тут робіцца ў вас? – спытала яна.

– Наш тата брыецца! – ледзь вымавіла ад смеху Наташа.

*Васіль Вітка*

## КОЦЯ І КАЦЯ

Плача коця на кухні,
Ад слёз вочкі папухлі.

– Што з табою, мой каток,
Забалеў мо жыватоk?

– М-мяў, – сказаў варкоцік, –
Не баліць жывоцік.

У мяне душа баліць –
Як цяпер на свеце жыць.

Як мне жыць у хаце,
Калі хлусіць Каця,

Смятану злізала —
На мяне сказала.

## КОЛЬКІ ПАЛЬЦАЎ?

Колькі пальцаў на руцэ?
Кожны знае — пяць.
Добра, што адразу ў цэль
Можаш ты цаляць.

Добра, толькі не спяшы,
Хай другія рэшаць.
А на двух руках, скажы,
Колькі будзе? — Дзесяць.

Не зрабіць бы нам прамах
У задачцы трэцяй:
А на дзесяці руках
Колькі пальцаў, дзеці?



*Уладзімір Паўлаў*

## ПАКЛАНІСЯ ДОБРЫМ ЛЮДЗЯМ

Век дзяліся тым, што маеш, —
Хлебам-соллю, казкай-краскай.
Ну а ў госці запрашаеш,
Гавары ўсім:
— Калі ласка!

А з табой як тое будзе,
То за шчодры знак усякі
Пакланіся добрым людзям
І скажы ім шчыра:
— Дзякуй!

## НЕХАЦЬ

Пабудую з коўдры буду,
З цыганамі пакачу.
— Есці будзеш?
— Не, не буду.
— Малако піць?
— Не хачу.

Коні мчаць, як з перапуду,
Даль стракаціцца ўваччу.
— Сыр, смятану?

— Не, не буду.
— Булку з маслам?
— Не хачу.
Хоць цукерак,
Хоць арэхаў
Сыпце мне, а ўсё дарма:
З цыганамі я паехаў
І мяне, кажу, няма.

— А шкада, — гаворыць тата, —
Думаў я, з табой удвох
Скалясім шляхоў багата —
І сцяжынак і дарог.
Так і быць, адзін паеду
На метро,
На электрычцы,
На аўтобусе пасля...
Гэта к дзеду,
Гэта к дзеду! —
Вылятаю з буды я.

— Ну, а там пасля абеду
На кані і —
ў бор ступой...
— Гэта к дзеду,
Гэта к дзеду!
Я гатовы,
Я з табой!



— І заўсёды ў лесе нашым
Шмат бярозавае кашы...

— Хай сабе там кашы поўна,
А паеду я ўсё роўна!
Галавой ківае мама:
— Ну і нехаць!
Яму, бач, усё — нішто,
Толькі б ехаць!..

*Максім Танк*

## ЛЕМАНТАР

Добры дзень, мой браце юны!
Я прынёс табе як дар
Ад Скарыны-бацькі кнігу —
Беларускі лемантар.

Гэта — ключ ад скарбаў нашай
Мовы матчынай, з якой
Ты не станешся самотнай,
Безыменнай сіратой.

Дык раскрый яго з любоўю —
Літар стройныя рады
Прачытай і паўтары іх
І запомні назаўжды.

А — Айчына. Арабіна.
Б — Бабёр. Буслянка. Брод.
В — Вавёрка. Верабейка.
Г — Гумнішча. Гарызонт.
Д — Дуброва. Дом. Дарога.
Е — Еўропа. Ездавы.
Ё — Ёўня. Ёршык. Ёлка.
Ж — Жніво. Жур. Журавы.
З — Зямля. Зіма. Завея.
І — Іголка. Іпадром.
К — Купала. Колас. Кніга.
Л — Лямеш. Лапата. Лом.
М — Мятліца. Медуніца.
Н — Настольнік. Нож. Навой.
О — Ордэн. Оптык. Ода.
П — Падлесак. Пень. Падвой.
Р — Рака. Разлог. Ракіта.
С — Сланечнік. Самалёт.
Т — Тапчан. Тачыла. Трактар.
У — Убор. Уток. Удот.
Ф — Флагшток. Фуганак. Флейта.
Х — Хлеб. Халадзец. Хадок.
Ц — Цвіркун. Цясляр. Цабэрак.
Ч — Чарот. Чырок. Чаўнок.
Ш — Шахцёр. Шпакоўня. Школа.
Э — Эстрада. Эшалон.
Ю — Юнак. Юргіня. Юрта.
Я — Апошні пераразвон.



І таму, хто вымаўляе
Гэту літару ў жыцці,
Трэба быць сумленным, смелым,
Супраць злыбяды ісці.

Каб свабода і братэрства
Ззялі сполахам зары.
Вось якія скарбы, дружа,
Знойдзеш ты ў лемантары.

## ГАЛІНКА І ВЕРАБЕЙ

— Галінка-вярбінка, —
Прасіў верабей, —
Мо пакалыхала б
Маіх ты дзяцей?

Галінка не хоча
Дзяцей калыхаць.
— Ідзіце, казулі,
Галінку ламаць!

Казулі не хочуць.
— Ідзіце, ваўкі,
Лавіці, караці
Казуляў такіх,
Якія не хочуць
Галінку ламаць,

Якая не хоча
Дзяцей калыхаць.

Ваўкі не схацелі.
— Прыходзьце, стральцы,
Каб непаслухмяных
Ваўкоў правучыць,
Якія не хочуць
Казуляў караць,
Якія ляняцца
Галінку ламаць,
Якая не хоча
Дзяцей калыхаць...

Пайшлі паляўнічыя
Ў лес на ваўкоў:
Спалохана зверы
Пабеглі з дуброў,
Пабеглі казуляў
Лавіць і караць;
Казулі пабеглі
Галінку ламаць,
Галінка ж вярбінка
Са страху хутчэй
Давай калыхаць
Вераб'іных дзяцей.

З тых дзён без спачынку,
Каб кожны быў рад,



Калыша галінка
Малых птушанят.

*Еўдакія Лось*

## СМАЧНЫЯ ЛІТАРЫ

«О» нібы фасолька.
«Т» нібы грыбок.
«І» нібы гарошына,
А пад ёй стручок.

Літары запомню
Я без гаманы.
Як жа не запомніць:
Смачныя яны!

## ПРА КАТА І ПРА МЫШКУ

Дзімку сумна зрабілася крышку.
— Раскажы пра ката
і пра мышку!
— Што ж пра шэрага?
Жыў на печы,
еў ён раніцаю яечню,
піў удзень вадзіцу
з крыніцы,
а начамі любіў весяліцца.

Навастрыўшы усе кіпцюры,
да таемнай спяшаўся нары.
Там жыла,
сумавала крышку —
хто, ці скажаш матулі?
— Мышка!
— Мышка сала з'ела б скрылёк,
ды не мела яго, сынок.
Галадала яно,
халадала,
для ката — для ката спявала:
— Ах, як цёпла, каток, на печы,
ах, як смачна пахне яечня!
Ах, якая вада ў крыніцы, —
каб у ёй табе утапіцца,
каток!

## ЗАЙЧЫК-ВЫХВАЛЯЙЧЫК

Зайчык бегаў па сцяне,
выхваляўся:
— Слаўна мне!
Я з люстэрка
бягу,
жыць без сонца
магу!
Сонца села за акном,
пацямнеў утульны дом.



Дзе ж падзеўся зайчык,
дзе?
Не відаць яго нідзе,
хоць люстэрка,
як і днём,
на сцяне
над дыванам!

## УЦЯКАЧ

Жэня
ў жмені
з агарода
ў дом прынесла
быстрахода.
Быстраход
надзвычай колкі,
не звярок — адны іголкі!
Жэня —
ў сенцы,
да збанка:
трэба ж госцю малака!
А калі вярнулася,
проста-ткі жахнулася:
дзе падзеўся быстраход?
Шуснуў ён у агарод!

*Змітрок Бядуля*

## МАЕ ЗАБАВЫ

Па даліне, па лужочку
Ездзіць я люблю.
Я з дубовага кіёчка
Коніка зраблю.

Гайда, гайда, буланенькі,
Аж у цёмны бор!
І ляціць кіёк мой ценькі
Проста, як віхор.

Аж дрыжыць, шуміць зямліца,
А я скок ды скок!
А са мною весяліцца
Жучка — мой дружок.

Я на коніку ўсё далей
Еду без канца.
Гэй хутэй нясі, удалы,
Мяне, малайца!

*Паўлюк Пранузa*

## МЯККІ ЗНАК

Тата азбуку купіў —
Літары з пластмасы.



Словы розныя складаць
Натка прынялася.
Першакласніца-сястра

Хутка навучыла
Складваць: «рама», «піянер»,
«Тата», «мама», «мыла».

Самастойна пачала:
«Дзен», «ален» складае,
Толькі хмурыцца яна —
Мяккі знак шукае.

Літару бярэ адну,
Потым і другую.
А ці мяккія яны?
Зубкамі спрабуе.

Ж — падобна на жука,
Ф — надзьмула шчочкі,
Нібы хто ў адно злучыў
Роўныя кружочкі.

Трапілася ў рукі О,
Круглае, як кола.
— Не падыдзе да тых слоў, —
Разважае ўголас.

Т — як быццам малаток,
А — нібыта хатка.
С — маленечкі сярпок.
Засмучона Натка.
Разважае пра сябе.
Не адну хвіліну:

— Ведаю, што мяккі знак
Мяккім быць павінен.

*Сяргей Грахоўскі*

## ЛАСЯНЯ

Захварэла ласяня.
З лесу збеглася радня:
Тата, мама, бабка, дзед,
Брат, сястрычка і сусед.

Плача, енчыць ласяня:
— Мне не вытрываць да дня:

Паліць, торгае, скубе,
За вушамі і на лбе,
З боку ў бок мяне вядзе,
Галава, як звон, гудзе,
Жар абсыпаў галаву.
Не, да дня не дажыву.

Плача мама, плача татка,
Што загіне ласянятка,
Плачуць брат, сястра, сусед,
Але ўсіх суцешыў дзед:
— Пацярпі, дзіцятка, трошкі —
Бо прарэзваюцца рожкі.



## ВАРОНА БЕЗ ТРОНА

Горка каркала варона:
«І ў мяне была карона,
Я царыцаю была,
Смачна ела і піла,
Заняла высокі трон,
Мне служыла сто ва-рр-он,
Трр-ыста трр-ыццаць варр-анят
Дастаўлялі курр-анят
На р-рулет і на жарр-кое,
І віно цякло рр-акою,
А марр-ожанага горр-ы
Замярр-залі ў калідорр-ы,
Я жыла ў сваім палацы
І не думала аб працы.
Ды прр-айшло з тае парр-ы
РР-оўна трр-ыста трр-ыццаць трр-ы
Неспакойныя гады,
Як прр-ыбілася сюды,
Бо паслухалася галку
І лятаю вось на звалку.
Тут суседзі і суседкі
Усе ваююць за аб'едкі,
А прр-ажэрр-лівы крр-умкач
Не дае дыхнуць, хоць плач.
Ён ад прр-агі і ад злосці
Выдзірр-ае з горр-ла косці,

І малыя крумкачы
Так дзяўбуць, хоць гвалт крр-ычы...»

Перабіў шчыгол варону:
«Дзе ж ты страціла карону?»

«Доўгая была марр-ока:
Падвяла мяне сарр-ока.
Часта я яе карр-ала,
Дык яна карр-ону ўкрр-ала,
А царр-ыцу без карр-оны
Не шануюць больш варр-оны.
Прра-ва-рр-оніла ка-рро-ну,
І прр-агналі служкі с трр-ону,
Занялі мае палацы
І са мной не хочуць знацца.
Поўна ў іх свае р-р-аботы:
Ва-рр-анятам шыюць боты,
А галоўны Во-рр-ан муд-рр-ы
Вы-рр-абляе доб-рр-а фут-рр-ы,
І зімою сам для жонкі
Шые цёплые дублёнкі.
Усе ца-рр-ыцы і ца-рр-ы
Пазляталі да па-рр-ы.
Вось і я цяпе-рр без т-рр-она,
П-рр-оста чо-рр-ная ва-рр-она».



## БУДАЎНІКІ

Юрка выехаў са сваім самазвалам і пачаў вазіць пясок на будаўнічую пляцоўку. Каля яе была вялікая лужына, налітая за ноч дажджом. У вадзе плавала некалькі пажоўклых лістоў з таполі, а Юрку яны здаваліся караблямі на хвалях яшчэ нікому не вядомага мора.

Хлопчык вазіў пясок і пазіраў на вокны і балконы суседняга дома. Там жылі Сашка і Жэня. У Жэні ёсць пад'ёмны кран, а ў Сашкі экскаватар. З імі работа пойдзе весялей. Яны ўбачаць, што Юрка ўжо выехаў, і адразу прыбягуць.

Але чаму так доўга няма Галі? Яна ж заўсёды прыходзіла першая, чыркала трэсачкаю па зямлі, паказвала, дзе трэба капаць катлаван, дзе ставіць комін электрастанцыі, дзе пракладаць дарогі. Галя ўсё ведала. І Юрка, і Сашка, і Жэня слухаліся яе, бо ў Галі мама — інжынер і начальнік участка.

Хутка выбег Жэня з кранам на вяровачцы. На хлопчыку былі бліскучыя гумавыя боцікі, і ён не абыходзіў ніводнае лужыны, толькі пырскі ляцелі на ўсе бакі.

— Што будзем рабіць, Юрка? — запытаў Жэня і паставіў на зямлю дзве высокія вузкія бляшанкі. — Давай ставіць калоны. Вось тут.



17 Залатыя каласкі, кн. 1

— Пачакаем Галю, яна скажа, што рабіць, ды і Сашкі няма. Жэня прысеў на зямлю і пачаў круціць ручку свайго крана. Гэта ён правяраў, ці добра працуе машына.

Юрка прывёз яшчэ два разы пяску, высыпаў яго, а Галі ўсё не было.

З Дзвіны дзьмуў вецер, плылі нізкія хмары, кружыліся пажоўклыя лісты, падалі ў лужыну і пад ногі хлопчыкам. За пасёлкам паміж высокіх белых дамоў гулі маторы гружаных самазвалаў, адтуль далятаў сігналы вежавых кранаў, там адзін за адным ішлі аўтобусы на будаўніцтва завода. А Жэню і Юрку было сумна — удвух не гулялася.

— Юрка, Жэня! Пусцілі! Зараз прыбягу! — пачуўся Сашкаў голас. Яго кірпаты носік тырчаў у адкрытай фортачцы вялікіх балконных дзвярэй.

— Хадзі хутчэй! — узрадаваўся Юрка...

Сашка цягнуў па шурпатай асфальтаванай дарожцы перавернуты дагары экскаватар і адразу пачаў апраўдвацца:

— Мама не пускала — кажа, холадна. А я ўбачыў вас і выпрасіўся... Галя сягоння не прыйдзе. У яе баліць горла. Давайце гуляць адны.

Яны пракапалі неглыбокія круглыя ямкі, Жэня падчапіў пад'ёмным кранам бляшанку, а Сашка памахваў рукою і паказваў, куды



яе ставіць. Потым Юрка прывёз самазвал пяску, і яны з усіх бакоў абсыпалі «калону», каб не перакуліў вецер.

Але без Галі работа не ладзілася: Юрка гаварыў адно, Жэня — другое, а Сашка мыў свой экскаватар у лужыне.

— Давайце сходзім да Галі. Разам будзе весялей, — сказаў Сашка.

— Хадзем, — адразу згадзіліся Юрка і Жэня.

Па ўсходцах, забразгалі колцы самазвала, крана і экскаватара. Сашка пазваніў у Галіну кватэру.

Дзверы адчыніла бабуля і гукнула ўнучцы:

— Галя, глядзі, хто да нас прыйшоў!

З пакоя выбегла дзяўчынка і запрасіла:

— Праходзьце сюды, праходзьце... Ой, як добра, што вы прыйшлі. У мяне ёсць кубікі. Будзем з іх ставіць дамы.

— І мы сходзім па свае, — сказалі хлопчыкі і выбеглі ў калідор.

Праз некалькі хвілін яны ўжо сядзелі на паркетнай падлозе і з кубікаў, з пустых карабкоў ад запалак ставілі дамы, а з папяровых палосак пракладвалі вуліцы і тратуары.

Новы горад рос на вачах. Абапал дарогі стаялі дамы і школы, слупы з электрычнымі

правадамі. Галя разаслала блакітную хусцінку:

— Гэта ў нас будзе рака.

— А каля ракі — завод, — дадаў Юрка. — Давайце зробім, каб ён быў прыгажэйшы за той, сапраўдны.

— Каля завода пракладзём чыгунку і мост, — азваўся Жэня.

Хутка па чыгунцы ўжо імчаліся і гулі цягнікі.

Усім было весела, і Галя нават забылася, што хворая.

*Васіль Жуковіч*

## ПРА АБАВЯЗКІ

Ёсць такое слова: «Трэба!»
Людзі з ім раслі заўжды.
Без яго — ну як без хлеба,
без паветра, без вады.

Як дыханне — слова гэта,
без яго як жыў бы свет?
Трэба — гэта крок да мэты,
трэба — гэта запавет.

Трэба сеяць і ахоўваць,
здабываць і будаваць,



шанаваць, расціць, выхоўваць,
пра сваю краіну дбаць.

Мой таварыш! Час імчыцца!
Ад яго не адставай:
змалку ты любі вучыцца,
змалку веды здабывай!

Кім захочаш быць — тым будзеш
і, не знаючы тугі,
будзеш ты карысны людзям
і Радзіме дарагі.

*Авяр'ян Дзеружынскі*

## ХЛЕБНАЯ СКАРЫНКА

Пахне
Хлебная скарынка
Цёплым ветрыкам,
Хваінкай,
Летнім дожджыкам
Грыбным,
Лугам,
Полем аржаным,
І асенняй пазалотай,
Ды натхнёнаю
Работай.

## БАБУЛІ

— Бабкі лепшае няма,
Як мая, у цэлым свеце.
Не крычыць яна дарма,
Ласкаю прывеціць.
Звяжа цёплыя пальчаткі
Мне пад Новы год,
А калі спячэ аладкі —
Скачуць самі ў рот!

— А мая бабуля казкі
Любіць
Баіць-гаварыць,
Цэлы вечар
Будзеш слухаць,
Сон не здолее змарыць:
То ў дрымучы бор
Заглянеш,
Дзе жыве
Стары мядзведзь,
То ваўчыху напаткаеш —
Уцячэш ледзь-ледзь...
Безліч казак бабка знае,
Іх заўжды ахвотна бае.

І таму
Шануюць дзеці
Сваіх бабак нездарма,



Бо для іх
Нікога ў свеце
Ласкавейшага няма.

## МЫШКА-ГАСПАДЫНЬКА

Палявая мышка
Ў норку
Нацягала
Ежы горку:
Каранькоў, лісткоў,
Зярнятак
Для маленькіх
Мышанятак.

Норку мохам
Ацяпліла,
Уваходы ўсе
Закрыла,
Каб у зімні дзень
Мароз
Дзеткам холад
Не занёс.

Гаспадынька-мышка
Рада:
Цеплыня тут
І парадак.
Дзеткі сытыя
Паснулі
Разам
З мышкаю-матуляй.

*Ніл Гілевіч*

## КАЛІ РАНА ЎСТАНЕШ...

Калі рана ўстанеш —
Разам з сонцам зыркім,
Што ўсплыве над зыбкім
Вогнішчам зары, —

Колькі ты пабачыш
З'яў жыцця дзівосных,
Колькі цудаў розных
Згледзіш на двары!

Калі рана ўстанеш —
Разам з ветрам буйным,
Што абудзіць струны
Неба, дрэў, травы, —
Колькі ты пачуеш
Гукаў-зыкаў дзіўных,
Звонаў пераліўных,
Спеваў харавых!

Калі рана ўстанеш —
Разам з першай птушкай,
Што шукае тут жа
Для дзяцей яды, —
Колькі ты паспееш
Памагчы слабейшым,
Падтрымаць, суцешыць,
Выручыць з бяды!

Калі рана ўстанеш —
Разам з мамай, татам
Ды за справу-працу
Возьмешся хутчэй, —
Колькі ты пазнаеш
Радасці нясцерпнай —



Аж да песні з сэрца,
Аж да слёз з вачэй!

Калі рана ўстанеш —
Разам з сонцам яркім,
Разам з ветрам шпаркім,
Разам з белым днём, —
Сам тады, мой дружа,
Разумець ты будзеш,
Для чаго мы, людзі,
На зямлі жывём.

## КОНІК У ПАЛОНЕ

Хлопчык коніка злавіў
У траве на ўзлессі.
Дома ў шклянку пасадзіў:
— Ну, спявай мне песні!

На лужку я чуў цябе —
Хараша стракочаш!
Што ж маўчыш? Чаму цяпер
Стракатаць не хочаш?

Бедны конік, бы ў турме,
Цеснай і закрытай,
Ціха шкрабае па дне —
Нібы кажа з крыўдай:

— Сумна мне тут без сяброў
Аднаму ў палоне.
Адпусці мяне дамоў —
У прастор зялёны.

І прыходзь тады гуляць
На лужок мурожны:
Буду я табе спяваць
Дзень і вечар кожны.

*Леў Парэмскі*

## КУЗНЯ ДЗЯТЛА

Крывабокая сасна
Добра бачна мне з акна.
Добра бачна мне, як б'е
Дзюбай дзяцел у яе.
Але дзіва, што з сасны
Гукі ўдараў не чутны,
Хоць калоціць галавой
Дзяцел з хуткай частатой.
Хлопчык Ваня, мой сусед,
Разгадаў уміг сакрэт.
— Дзяцел, — кажа Ваня мне, —
Лушчыць шышку на сасне.
Толькі з вашага акна
Тая шышка не відна.
Дзяцел схову ёй знайшоў



У развілцы між сукоў.
Свой ласунак дарагі
Ён заклаў, бы ў апцугі.
Асалода, цуд і смак!
Не наесціся ніяк!
Кузня дзятла на сасне...
Так сакрэт адкрыўся мне.

## КАЛІ РАНЕЦ ЛЁГКІ І КАЛІ ЦЯЖКІ

Школьны ранец
Можа быць
І цяжкі і лёгкі.
А чаму і як, сябры, —
Запытайце ў Лёўкі.

Ён са школы ўчора бег
Праз усю дарогу —
Толькі ранца
На сабе
Не адчуў ні троху.

Хоць было
У ранцы тым
Кніг біткам набіта,
А здаваўся ён пустым,
Без вагі нібыта.

Ветру хуткага хутчэй
Лёўка ўбег у хату
І адразу ад дзвярэй
Гучна крыкнуў тату:

— Паглядзі,
Што я прынёс:
«Пяць» у кожным сшытку!..
І глядзеў угору нос —
Ад пачуццяў збытку.

А сягоння —
Проста жах:
Лёўка наш са школы
Крочыў ледзьве не ў слязах —
Гэткі невясёлы.

Ранец новенькі такім
Непрыгожым здаўся,
А цяжэрны — хоць ты кінь! —
Лёўка аж згінаўся.
І глядзеў не ўгору нос,
А ў зямлю, дадолу...

Што ж такое Лёўка нёс?
Што валок дадому?



*Ядвіга Бяганская*

## МІКОЛКАВА ЯЛІНКА

Кожнае лета Міколка гасцяваў на леснічоўцы ў дзеда Міхася. Утульная сядзіба лесніка прытулілася воддаль ад вёскі, на ўзлессі. Невялікі дамок на высокім падмурку, гарод, у якім гаспадарыла бабуля, садок з вуллямі, вакол якіх з ранку да вечара гудуць працавітыя пчолкі, вялікі будан, у якім жыве сабака Тагрaй — усё тут змалку знаёма і люба Міколку. Але больш за ўсё хлопчык любіць вялікі дзедаў лес. Ён ведаў усе яго запаветныя куточкі, усе сцяжынкі. Тут ён збіраў суніцы, маліны, грыбы, назіраў цікавае жыццё лясных жыхароў, слухаў вясёлыя галасы птушак.

Кожную раніцу, закінуўшы за плечы дубальтоўку, дзед Міхась ішоў у абход. Праўда, амаль ніколі ён не прыносіў з лесу дзічыны. Дубальтоўка служыла дзеду хіба толькі тады, калі зімой наладжвалася аблава на ваўкоў.

— А навошта лес крыўдзіць, красу яго нішчыць,— казаў ён унуку.— Без звера ды без птушкі лес сумаваць будзе.

Пра лес дзед Міхась заўсёды гаварыў з павагай, як пра свайго лепшага сябра. І Міколка верыў у тое, што лес, як і чалавек,

можа сумаваць, радавацца, злаваць, смяяцца. Дзед навучыў унука бачыць і адчуваць харастволесу, чытаць яго зялёную кнігу.

Бывала, ідуць яны лесам, слухаюць яго ціхі пошум, а дзед раптам спыніцца, кране хлопчыка за плячо, пакажа на бярозку, усміхнецца і скажа:

— Бач, Міколка, якая яна сёння вясёлая, няйнакш у скокі зараз пусціцца.

Міколка глядзіць на маладую танклявую бярозку, і здаецца яму, што бярозка і сапраўды сёння вельмі вясёлая. Ён чуе нават, як яна смяецца сваімі ўмытымі расой лісцейкамі.

Былі ў іх у лесе і свае запаветныя мясціны, дзе яны прыпыняліся адпачыць з дарогі, падсілкавацца, пагутарыць. І Міколка ніколі не пытаў у дзядулі, дзе і калі яны будуць адпачываць. Ён ведаў, што першы прыпынак яны зробяць пад старымі разложыстымі дубамі, якія дружна абступілі сонечную лясную палянку.

— А чаму, дзеду, дубы гэтыя вакол палянкі пасталі, а далей у лес ісці не хочуць? — запытаў аднойчы Міколка.

— А таму, што спакон веку моладзь на гэтай палянцы на Купалле вогнішчы кладзе, карагоды водзіць. Вось яны і сабраліся вакол, каб песні паслухаць.

Пасядзеўшы пад дубамі і папыхкаўшы



сваёй люлькай, дзед Міхась уставаў, і яны ішлі далей звілістымі ляснымі сцяжынкамі, прыслухоўваючыся да птушыных песень, да мяккага шапацення лесу.

Другі прыпынак дзядуля звычайна рабіў ля крынічкі, што паціху бруіла сярод зялёных густалістых алешын. Сонца ў гэты час стаяла ўжо высока над галавой, была самая пара падсілкавацца і даць адпачынак нагам. Падышоўшы да крынічкі, дзед Міхась здымаў з пляча дубальтоўку, развязваў торбачку, у якой ляжаў іх няхітры полудзень, раскладваў яго на шматку чыстага кужалю. Пасля ён даставаў з-пад алешын гліняны гладышак, напаўняў яго сцюдзёнай крынічнай вадой і доўга з асалодай піў. Напіўшыся, ён задаволена прыгладжваў сівую бараду, на валасках якой зіхацелі празрыстыя пацеркі-кроплі, і перадаваў гладышак Міколку.

— Пі, хлопча, ды ведай, што смачнейшай за гэту вадзіцу не знойдзеш ва ўсім белым свеце.

І Міколка піў сцюдзёную крынічную ваду, піў усмак, аж пакуль не заходзіліся ад холаду зубы.

Падсілкаваўшыся і адпачыўшы, яны вярталіся ў леснічоўку ўжо іншай дарогай, праз малады бярозавы гай.

Ой, і любіць Міколка ўлетку гэты вясёлы

зялёны гай! Ён гатоў гадзінамі блукаць сярод тонкіх беластволых бяроз.

Увесну, калі бярозкі расплятаюць свае доўгія зялёныя косы, яны здаюцца хлопчыку русалкамі з дзядулевай казкі, якія пакінулі рачное дно і выбеглі пагрэцца на сонейку.

А колькі грыбоў расце ўвосень у гэтым маладым бярозавым гаі! Толькі паспявай іх збіраць ды парадкаваць. На ўсю зіму, бывала, і насушаць, і насоляць іх дзед з бабуляй Аленай. А Міколка не забывае наўтыкаць іх на галінкі елак, што растуць навокал леснічоўкі, каб было чым вавёркам зімой карміцца.

Нездарма ж іх тут водзіцца процьма, і Міколку яны не баяцца, есці з рук бяруць, у сенцы частавацца прыбягаюць.

Цікавы ў Міколкі дзядуля, няма ў лесе такой таямніцы, якой бы ён не адгадаў. Ён і пра дрэвы, і пра звяроў, і пра птушак усё ведае, і пра кожную раслінку лясную ўсё чыста раскажа.

— І адкуль, дзядуля, ты ўсё гэта ведаеш? — дзівіцца Міколка.

— А як жа мне, унучак, не ведаць. Я чалавек лясны, — усміхаецца дзед Міхась.

Яно і праўда. Усё сваё жыццё дзядуля пражыў у лесе. І дзед яго, і бацька, таксама як і ён, былі леснікамі. А ў вайну дзед



Міхась партызаніў у гэтым лесе, і Міколка вельмі любіў слухаць яго расказы пра той далёкі суровы час.

Так, неўпрыкметку дзень за днём, адыходзіла лета, а разам з ім і Міколкавы вясёлыя канікулы.

— Ой, дзеду, як хутка пракацілася лета! — жаліўся Міколка, пакідаючы леснічоўку. — Здаецца, учора толькі прыехаў, а заўтра ўжо трэба ехаць дадому.

— Не бядуй, унучак. За вучобай ды за новымі клопатамі не агледзішся, як і зіма міне, — суцяшаў яго дзед Міхась.

Дзядуля казаў праўду. Вярнуўшыся дадому, Міколка сур'ёзна ўзяўся за навуку. У школе кожны дзень прыносіў яму нешта новае, раскрываў свае цікавыя таямніцы. Міколка і не заўважыў, як мінула першая чвэрць навучальнага года, а следам за ёю і другая.

Да зімовых канікулаў заставаўся ўсяго адзін дзень, калі з леснічоўкі раптам прыехаў дзед Міхась.

— Дзядуля! — узрадаваўся Міколка, угледзеўшы дзеда.

— А я, унучак, прыехаў, каб узяць цябе на леснічоўку, — прывітаўшыся сказаў дзед Міхась. — З бацькамі я ўжо дамовіўся, дазвол атрымаў, — усміхнуўся ён унуку.

— Дзеду, дык цяпер жа зіма, што я буду рабіць у гэтую пару ў лесе? — здзівіўся Міколка.

— А лыжы ў цябе ў парадку? — замест адказу запытаў дзядуля.

— У парадку, — адказаў Міколка.

— Ну то і добра, — заўтра ранічкай мы і паедзем.

Раніцай пасля снедання дзядуля запрог свайго Буланага, і яны, добра ўладкаваўшыся ў санях на мяккім сене, ахінуўшыся вялікім дзедавым кажухом, рушылі ў дарогу.

Міколка ўпершыню ў сваім жыцці ехаў зімой на санях у такую далёкую дарогу. Выехалі яны як толькі пачало світаць, а толькі ўвечары меркавалі быць на лясніцоўцы. Але Міколку гэта доўгае зімовае падарожжа вельмі падабалася. Яны міналі мястэчкі, вёскі, ехалі паўз заснежаныя маўклівыя палі. Часамі дарога збочвала ў лес, і Міколка не мог наглядзецца на зімовую яго прыгажосць. Лес у яго белым зімовым убранні здаваўся дзівосным казачным волатам, ад якога нельга было адарваць вачэй.

Пад палазамі саняў звонка парыпваў снег, і Міколка на нейкі момант заплюшчваў вочы і драмаў пад яго рыпенне.

Дарогай яны некалькі разоў спыняліся, адпачывалі, сілкаваліся, кармілі Буланага.



— Ну, як, унучак, не стаміўся? — час ад часу пытаў дзядуля.

— Ды не, дзеду, не стаміўся, — весела адказваў Міколка.

Зімовы дзень кароткі. Міколка і не заўважыў, як на зямлю пачаў апускацца вечар. У вёсцы па хатах пачалі ўжо запальвацца агеньчыкі, калі яны пад'ехалі да леснічоўкі.

Першым сустрэў іх вясёлым брэхам Таграй. Угледзеўшы Міколку, ён радасна кінуўся да яго, перакуліў у снег, лізнуў яго проста ў твар сваім гарачым языком.

Пачуўшы брэх Таграя, на ганак выйшла бабуля. Яна абняла Міколку і павяла ў хату. Тут, як заўсёды, было ўтульна. На стале, накрытым белым чысцюткім абрусам, падарожнікаў чакала смачная вячэра.

Назаўтра раніцай дзядуля агледзеў свае і ўнукавы лыжы і сказаў:

— Ну, хлопча, апранайся, ды пойдзем у лес па ялінку. Заўтра ж Новы год, і без ялінкі нам ніяк нельга.

— Ну, вядома, нельга, — згадзіўся Міколка. — Які ж гэта Новы год без ялінкі? Толькі дзе ж мы возьмем цацкі, каб упрыгожыць яе?

— А цацкі, вунь яны, у скрынцы стаяць. А калі іх не хопіць, зробім свае, лясныя.

Апрануўшыся, Міколка з дзядулем выйшлі з хаты, усталі на лыжы і пашыбавалі ў лес па ялінку.

Далёка ім ісці не давялося. Хутка дзядуля збочыў на ўзлессе, і неўзабаве яны апынуліся на ўзгорку, пасярод якога расла маладзенькая прыгожая ялінка. Яна нібы выбегла з лесу насустрач Міколку і цяпер стаяла перад ім у сваім бялюткім кажушку, на якім успыхвалі пад ранішнім сонцам вясёлыя агеньчыкі. Міколка мімаволі ўсміхнуўся дрэўцу.

— Ну, як, падабаецца? — запытаў дзядуля.

— Вельмі, — зачаравана пазіраючы на ялінку, прамовіў Міколка.

— Ну, тады яна твая, — сказаў дзядуля, дастаючы з-за пояса сякеру і набліжаючыся да дрэўца.

— Ой, дзядуля, не трэба! — спалохана ўсклікнуў Міколка, схапіўшы за руку дзеда. — Яна такая прыгожая, такая зялёная, такая вясёлая, хай сабе расце на здароўе на гэтым узгорку.

Дзядуля засунуў за пояс сякеру, паглядзеў замілавана на ўнука.

— Малайчына, што пашкадаваў дрэўца. Чулае, спагадлівае ў цябе сэрца.

Нейкую хвіліну яны моўчкі пастаялі каля ялінкі, любуючыся яе хараством, а пасля Міколка сказаў:

— Ведаеш, дзядуля, што я прыдумаў. Не будзем мы секчы ніякай ялінкі, а прыбяром тую, што стаіць ля брамы на леснічоўцы. Яна таксама маладзенькая ды прыгожая.

Так і вярнуліся яны з лесу без ялінкі і расказалі бабулі аб сваёй прыгодзе.

А ўвечары пад Новы год ля брамы леснічоўкі стаяла прыгажуня яліна. На ёй віселі рознакаляровыя шарыкі, цацкі, кармушкі для вавёрак і птушак, а на вершаліне гарэла электрычная лямпачка, якую прыладзіў дзядуля.

Вярнуўшыся пасля зімовых канікулаў дадому, Міколка расказаў аб сваёй ялінцы сябрам. А калі яны пачалі выхваляцца сваімі навагоднімі ялінамі, заўважыў:

— Усе вашы ёлкі хутка будуць ляжаць на сметніку, а мая ялінка расце сабе на ўзгорку і чакае мяне ў госці.

*Максім Багдановіч*

* * *

Сеў хлопчык з шкляначкай
ля вулічнага ганку
І выдувае з мыла пузыры.

Вясёлкаю гараць яны ў зіянні ранку,
Ўзлятаючы ў паветра да гары.

І, заварожны шматфарбнаю красою,
Са спрытнасцю і хцівасцю ката
Хапае хлопчык іх няжорсткаю рукою,
А застаецца ў ёй — адна слата.

*Кандрат Лейка*

## МАЦІ І ДЗЕЦІ

*Прысвячаю*
*на добрую памяць*
*роднай маці*
*Таклюсі Лейка.*

АЎТАР.

Кожны дзень яна горко плача і цяжка ўздыхае. Аб чом? Аб сваёй нядолі. Галодныя дзеці, гнілые і абдзёртые будынкі, благі ўраджай, з усіх бакоў здзірство, сціск і ў дадатак нікчэмны гаспадар,— як жэ тут ня плакаць...

Просіць Бога, просіць людзей, кленчыць перад панамі, каб памаглі, каб далі які-небудзь спосаб да жыцця, але ніхто — ні небо, ні людзі не звяртаюць увагі на яе бяздолле. Бягуць дні за днямі, ідзе рок за рокам, а яна ўсё мучыцца, усё бядуе...



Адзінокая, усімі забытая, яна якбчолка ў вулейку б'ецца, хлапочэ над сваею гаспадаркаю, каб паддзержаць яе, каб выгадаваць і давесці да розуму сваіх дзетак.

Згушчаюцца над ёю хмары, ідуць цёмныя хвілі з бліскавіцамі, з грымотамі, сякуць у вочы дажджы, размываюць і ўносяць дабро навальніцы, а яна, не звяртаючы ўвагі на ўсе гэтыя няўзгоды, усё працуе і дзень і ноч...

Растуць дзеці сярод убожаства, сярод бруду, у голадзе і холадзе праходзіць іх жыццё, і хоць целам яны благія, але — дзякуй Богу — духам дужыя і моцныя. Сваею кроўю, сваімі сокамі корміць іх маці, корміць і вучыць, як трэ працаваці, як трэ жыць, уважаючы сябе і шануючы добрых людзей. Растуць дзеці, пераносяць усе тыя няўзгоды, што пераносіць і іх маці. Растуць — і пад цяжарам свайго горкаго жыцця гартуюцца, як сталь у агні...

Усё аддала ім маці,— і сілы, і чуццё, і жыццё... Аддала ўсё — і сама абнядужала, старая. От выраслі дзеці, убраўшыся ў сілу, кажуць мацеры: — Саколка ты наша. Ты давяла нас да розуму, ты аддала нам свае сілы, сваё сэрца, ты ўжэ ўтамілася,— пара табе аддыхнуць, цяпер мы будзем працаваць, цяпер наша чарга зарабляці хлеб пад тваім кірункам...

І выйшлі дзеці гуртам рана на шыроку ніву, каб абрабляць яе, як навучыла іх родная маці... З-за лесу цёмнага выступіла на чыстым небе яснае сонечка і сваімі залатымі праменнямі асвяціло і ніву, і маладых працаўнікоў, засяваўшых сваю зямельку...

— Бог вам на помач, дзеткі. Працуйце на радасць і шчасце свае змучанае мацеры...

*Канстанцыя Буйло*

## ГРАДКА

Градка у Ганулі.
Там расце цыбуля,
Кожная ў кароне
Пёрышкаў зялёных.
А на схілах градкі
Светлая салатка
Туліцца к зямліцы,
Каб не прастудзіцца.
Рэпкі шмат салодкай
З хвосцікам кароткім,
Ды яна малая,
Толькі падрастае.
Ёсць там і маркоўкі,
Маку ёсць галоўкі.
На зыбучых ножках
Там стаіць гарошак.



Ад гарошку блізка
Белая радыска —
Дасць сягоння Ганя
Тату на сняданне.
Выпалата градка
І штодзень паліта,
Ураджай на градцы
Будзе знакаміты,
Бо яе штоpанку
Даглядае Ганка.

*Станіслаў Шушкевіч*

## ТЫ НЕ ПЛАЧ, НЕ ПЛАЧ, БАБЁР

Пэўна, льюцца не з дабра
Ў прыазёрнага бабра
Слёзы, быццам бы з вядра.
Як цягнуў паленца,
Абадраў каленца
І ад болю гнецца.

— Лепш бы слёзы ты абцёр,
Не бубні, не плач, бабёр,
Не салі слязьмі азёр.
Ліст да раны прылажы
І каленца абвяжы,
Больш не плач і не дрыжы.

## ЦЯЦЕРЫНА ВЯЧЭРА

— Цяцера, цяцера,
Ці гатова вячэра? —
Дзеткі плачуць, ледзь жывыя,
Шэры воўк галодны вые.
— Хай не шчэрыцца клыкаты,
А ідзе хутчэй дахаты,
Я не дам яму ні трошкі,
Я не дам яму ні крошкі.
— Цяцера, цяцера,
Кліч вавёрку вячэраць,
Яна спрытна скакала,
Тваіх дзетак склікала.
— Пазаву я вавёрку,
Пазаву я салоўку,
Берасцянку і пліску,
Дам заціркі ім міску.

Наеліся ў цяцеры
Ўсе птушкі вячэры,
Як у роднай матулі,
На галінках паснулі.

*Цётка*

## СЫНОК МАЛЕНЬКІ

Татульку, я хачу чытаць;
Татульку, хачу свет пазнаць;



Татульку, ехаць хачу праз моры;
Татульку, пабачыць хачу горы.
Як я буду вучоным, татульку,
Куплю табе тытуну у люльку,
Куплю яшчэ кажух белы
Дый армяк суконны цэлы;
Куплю сарочку нову
Дый сашонку клянову.
Пачнеш, татульку, араць
Дый сынку спамінаць.
Матульку тож люблю,
Чырвоную хусту куплю,
Хвартушок рабенькі,
Андарак палавенькі;
Пацерак на адзін шнурок
Купіць для цябе твой сынок.
Толькі чытаць навучыце
Дый у свет сынка пусціце.
Тагды, татулёчку,
Сівы галубочку,
Тагды і, матулька —
Рабенька зязюлька,
Куплю абяцанкі.

*Алесь Пальчэўскі*

## ДОБРАЕ СЛОВА

У трамвай праз пярэднія дзверы ўваходзіў старэнькі дзядок. Хлопчык убачыў, як

цяжка падымацца старому чалавеку з нізкай прыступкі. Ён усхапіўся з лаўкі і падаў руку.

Дзядуля падзякаваў.

— Сядайце, калі ласка, на маё месца, — паказаў хлопчык на лаўку.

— Сядзі-сядзі. Мне недалёка ехаць.

Хлопчык быў настойлівы:

— Ну я вас прашу, дзядуля, сядайце.

Прыйшлося паслухацца. Дзядуля сеў, прыхіліў хлопчыка да сябе і спытаў:

— Як жа цябе зваць?

— Юра.

— Харошае імя, — пахваліў дзядуля.

— Я ў той дзень нарадзіўся, як Гагарын паляцеў у космас.

— Вунь што. Тады яно двойчы харошае... У якім жа ты класе, Юра, вучышся? — зірнуў дзядуля на Юраў партфель.

— У трэцім.

— Малайчына. Я ў твае гады і аднаго класа не скончыў. Толькі і ўмею распісвацца. Ды і то навучыўся, калі мне было дваццаць гадоў.

— Дык вы і казак гэтых не чыталі? — Юра дастаў кніжку з партфеля.

— Не. Казкі расказвала мне маці.

— Ой, дзядуля, колькі цікавага вы не ведаеце! — пашкадаваў хлопчык. — Каб жылі



блізка ад нас, я і вам чытаў бы... Тату і маме я кожны вечар чытаю.

Дзядуля ўздыхнуў: у яго свае такія ўнукі ёсць, могуць пачытаць, ды не вельмі дружаць яны з кнігай. Ён паглядзеў у акно і сказаў:

— Ну, мне скора выходзіць. Ты куды — у школу ці са школы едзеш?

— У школу, на другую змену. Мы пераехалі ў новы раён, а трэці клас я канчаю там, дзе жылі раней.

— Настаўнік ці настаўніца вучыць цябе?

— Настаўніца.

— Сядай на маё месца, — устаў дзядуля, — і перадай настаўніцы дзякуй. Скажы — ад дзядулі Сцяпана Міхайлавіча.

— Вы ведаеце нашу Вольгу Пятроўну?! — здзівіўся Юра і сеў на лаўку.

— Не. Але ты перадай ад мяне дзякуй, прашу цябе! — ужо з прыступкі гукнуў дзядуля.

«А за што перадаць дзякуй незнаёмай настаўніцы? — паціснуў плячамі Юра. — Прывітанне і тое знаёмым толькі перадаюць, а тут — дзякуй...»

Настаўніца ўвайшла ў клас, і Юра перадаў ёй дзядулеву падзяку. Вольга Пятроўна распытала, дзе і калі гэта было, трошкі за-

хвалявалася і падзякавала вучню за прынесенае добрае слова.

А за што ўсё ж дзякаваў дзядуля настаўніцы?

*Янка Купала*

## ХЛОПЧЫК І ЛЁТЧЫК

— Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!
Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык
І ўмею ўжо лётаць у сне.

Мне мама сягоння казала,
Што стукнула мне ўжо сем год.
Табе гэта, можа, і мала,
А мне ляцець толькі ў палёт.

Мне ўжо надакучыла дома —
Ў дзіцячы хадзі адно сад.
А так паглядзеў бы, вядома,
На іншы парадак і лад.

Вазьмі ж мяне, лётчык, хачу я
Пабыць у людзях, паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае ў лесе мядзведзь,



Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не відаць іх чаму,
Як рэчкі ў далёкія моры
Улетку плывуць і ўзіму.

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі,
Ляцеці далёка, высока
Ды так пабываць і ў Крамлі...

Вось гэтак у добрым здароўі
Мы будзем ляцець і ляцець.
Вазьмі ж мяне, лётчык, з сабою,
Не будзеш ты клопату мець!

*Васіль Зуёнак*

## ПАЧАКАЙ, ДЗЯДУЛЯ МАРС

Нас пяцёра ў нашым доме —
Дружбакоў усім вядомых.

Толькі дом не знае наш:
Мы — касмічны экіпаж!

Компас ёсць. І ёсць ракета —
Змайстравалі пад сакрэтам.

І цяпер бы самы раз
Нам адправіцца на Марс.

Ды шкада, што ён далёка —
Пэўна спознімся на ўрокі.

І, глядзі, яшчэ ў прыдачу
Тройкі ў дзённіках заскачуць...

А таму з прычыны гэтай
Пераносім старт на лета.

Пачакай, дзядуля Марс, —
Дай закончыць першы клас!

*Іван Муравейка*

## НАШ ДОМ

Як наш дом я маляваў,
Дык алоўкі ўсе спісаў,
Паглядзіце, вокнаў колькі,
Іх, напэўна, болей ста...
Ён у нас такі высокі —
Не хапіла мне ліста.

## НЯХАЙ СОНЦА НЕ ЗАХОДЗІЦЬ

Кажуць, што у сонейка,
І ў цяплынь, і ў холад,



Шмат праменняў тоненькіх —
Нітачак шаўковых.

Я схаплю прамень за хвосцік
Прывяжу за колік.
Няхай сонца не заходзіць
Аніколі!

## НЕ ЗАТРЫМАЛАСЯ

Раніцой сказала мама:
— Збегай, Танечка, ты ў краму.
Купіш мыла і вяртайся,
Ды нідзе не затрымайся.

І яна ішла, спяшалася,
Анідзе не затрымалася.
Толькі трошкі пасядзела
Са сваёй сяброўкай Нэлай.

І не больш адной хвіліны
Ела з Дашаю маліны.

Па дарозе стрэла Галю,
Раз у хованкі згулялі.

А купацца — дык Ганулля
Проста сілай зацягнула.

А калі дамоў вярталася,
Дык на вуліцы змяркалася.

## КОТ І ВЕРАБЕЙ

Паставіў я на ганку міску.
Над міскай кот схіліўся нізка.
А верабей сядзіць на плоце —
І ён таксама кашы хоча.

Набраўся смеласці, зляцеў
І ля ката на міску сеў.
Здзівіўся кот: — Не ведаў я
Яшчэ такога вераб'я.

А смелых паважаў мой кот
І птушкі не прагнаў на плот.

*Даір Слаўковіч*

## НАВОШТА РУЖЫ КАЛЮЧКІ?

Садзіла вясною мама куст ружы. Васілёк побач стаяў. Пакратаў пальчыкам калючыя галінкі, пытаецца:

— Мама, навошта ружы калючкі?

— Чаму гэта цябе зацікавіла, сынок?

— Я ведаю, што карэнні, каб сокі з зямлі



піць, галінкі, каб на іх лісты і кветкі раслі. А навошта калючкі? Не разумею.

— Пачакай. Вось пасадзім ружу. Прымецца яна. Можа сама нам і адкажа.

Ружу пасадзілі:

Кожны дзень Васілёк да куста падбягаў. Прыглядаўся, думаў. Але адказу на пытанне так і не знаходзіў.

Тым часам ветрык хмарку прыгнаў. А тая — кап-кап! — паліла кусцік спорным цёплым дажджом.

Васілёк сядзеў дома і пазіраў праз шыбу, па якой сцякалі буйныя кроплі.

Праз дзень на ружы лісточкі з'явіліся. Маленькія, кволыя, зялёненькія. Яны песціліся пад сонейкам, падрасталі. А з імі разам падрасталі і пупышкі.

Глядзеў на іх Васілёк і думаў: «Навошта ружы калючкі?»

А сонейка яшчэ гарачэй свяціла на зямлю.

Пад яго промнямі пупышкі на кусце ператварыліся ў прыгожыя бутоны.

— Здагадаўся! — узрадаваўся Васілёк. — З бутонаў будуць кветкі. Толькі калючкі пры чым?

А бутоны ці то ад ветру, ці то ад нейкага радаснага чакання хваляваліся, хваляваліся...

І як толькі новы дзень павітаўся з зям-

лёю, куст здзівіў вельмі прыгожымі духмянымі кветкамі, якія з'явіліся на месцы нядаўніх бутонаў.

Промні сонца заблішчэлі на кропельках расы. Устаў і Васілёк. Выйшаў на двор, пабег да куста.

— Мамачка, ружы расцвілі! Як хораша!

Маці выйшла на ганак. Таксама залюбавалася пунцовымі ружамі:

— Якая прыгажосць!

— Зараз я падарую табе кветачку.— Васілёк працягнуў руку. І адразу ж адхапіў яе назад.

— Вой!.. Колецца...

— Бароніцца кветка, жыць хоча.

Васілёк злізаў з пальца кропельку крыві і сказаў:

— Цяпер я ведаю, навошта ружы калючкі.

## РАЗУМНЫ АЛОВАК

Тата купіў тры алоўкі. Прыгожыя. Усе тры аднолькавыя.

— Яны — тры браты,— сказаў тата.— Але ніводзін пакуль маляваць не ўмее. Мы іх завострым і паспрабуем навучыць.

Завастрыў тата алоўкі і раздаў: адзін



Ірынцы, другі Веранічцы, а трэці сабе паклаў.

Узялі паперу, селі за стол.

Ірынчын аловак дом намаляваў і дым з коміна. Татаў — зайчыка і лес. А Веранічкін — нічога. Так, рысачкі і крамаулькі розныя.

— Што гэта твой аловак не хоча старацца? — пытаецца тата ў меншай дачкі.

— І сама не ведаю,— адказвае тая.

— Не здольны, відаць, трапіўся,— сказала Ірынка.

— Трэба выкінуць і купіць новы,— парашыла малая.

— Э, не. Так нельга. Ён жа невінаваты. Яго проста яшчэ не навучылі.

І пачалі тата з Веранічкай удваіх алоўку паказваць. Веранічка трымае аловак, а тата яе руку. І разам выводзяць.

Аловак урэшце зразумеў, чаго ад яго хочуць, і старацца пачаў. Цяпер вучыла ўжо толькі адна дзяўчынка, без таты.

З гэтага дня кожны вечар яны займаліся вучобай. І з кожным днём атрымоўвалася лепш і лепш.

А неяк Веранічка сказала:

— Паглядзі, тата, які разумны мой аловак: ужо ўмее мячык і грыбок маляваць. А хутка і елачку намалюе.

*Леаніла Чарняўская*

# КОТ ЗНАЙДЗЁН

На зялёным лужочку тры плямы: дзве — сінія, як васількі, адна — чырвоная, як мак махрысты.

Паселі на травіцы з краю лужочка дзеці. Аўдолька ў чырвонай сукенцы, Надзя і Лявонка — у сінім.

У высокім жыце па баразёнках назбіралі яны сноп васількоў — вянкі плесці.

Дзяўчаткі вянкі плятуць, стараюцца, каб найпрыгажэй выйшла.

Лявонка не пляце. Збіраць краскі ён памагаў, а плесці не ўмее. Няхай сёстры і яму сплятуць вяночак.

Як выходзілі ўсе з двара, матка дала Лявонку блін. Яна ўсім дзецям давала, але дзяўчаткі не ўзялі. «Хіба мы ў лес ідзём»,— кажуць. А ён узяў.

Цяпер адшчыквае пальчыкамі кавалачкі ад бліна і кладзе сабе ў рот. Есць павольна, не прагавіта.

Сёстры спачатку паглядалі на яго скоса, нібы ўжо надта работай заняліся — некалі ім, а потым папрасілі:

— Дай нам, Лявонка, па кавалачку!

— А чаму вы не бралі? Мама і вам давала,— не згаджаўся малы Лявонка.



— Дай, Лявонка! — у два галасы застагналі сёстры.

Хлопчык паглядзеў на блін. Гадзіну раней блін той быў тоўсты, мяккі, як падушачка. Цяпер, абшчыпаны з усіх бакоў, зменшыўся, сціснуўся.

Падзяліўся Лявонка з сёстрамі рэшткамі бліна. Сядзелі моўчкі. Нават гаваркая Надзя, на якую заўсёды сварыліся за гамонку, калі садзіліся есці, і то цяпер ела моўчкі.

І вось сярод цішы ў летні поўдзень пачулі яны слабы піск.

Пішчаў нехта ў траве, ды так тоненька, жаласна.

Пакуль дзеці аглядаліся, выпаўзла з травы малое кацяня, і, задраўшы ўгару тонкі, як шыльца, хвосцік, што было сілы пнулася да дзяцей.

Здзіўленыя дзеці глядзелі спачатку моўчкі, а калі кацяня само прыпаўзло да Надзі на прыпол, усе загаманілі разам.

— Гэта ж коцік! — крычаў Лявонка і з замілаваннем цягнуўся пагладзіць яго.

— Пэўна, не конь! — адгукнулася Надзя.

— Дайце яму есці. Ён плача, бо есці хоча,— шкадавала коціка Аўдолька.— У каго блін застаўся?

— У мяне ёсць,— адказаў Лявонка і сунуў куціку пад нос кавалачак бліна.

Коцік торкаўся носам у мякіш, а патрапіць яго з'есці не ўмеў.

— Чакай! — хапіла ў брата з рук кавалачак бліна аўдолька. — Не ўмееш даваць.

Яна пакрышыла блін на маленькія кавалачкі, рассыпала іх сабе на прыпол і ўзяла коціка на калені.

Коцік схапіў кавалачак, есць, аж трасецца.

Ізноў моўчкі глядзяць дзеці, баяцца паварушыцца, каб катка не спалохаць. Няхай есць — сілкуецца.

А коцік, паеўшы ўсе крошкі, зноў перайшоў да Надзі, скруціўся на яе каленях, заплюшчыў вочы, свае маленькія малочнасінія вочкі; рыхтаваўся спаць і курныкаў, як умеў, няроўна, нячыстым голасам: кур-ну, кур-ну...

— Панясём яго дадому! — закамандавала Аўдолька. — Надзя, паднімайся, ды глядзі, коціка не абудзі.

— Я не панясу яго ў прыполе, — запярэчыла Надзя. — Самі нясіце, не бачыла я, яшчэ рукі падрапае.

— Дык вунь ты якая, хітранькая! — заўважыў дакорлівым голасам Лявонка. — Вунь ты якая!..

— У шапцы панясём яго, у шапцы! — прыдумала Аўдолька. — Лявонка, здымай шапачку, кладзі туды коціка. Адно не турбуй, ціхенька нясі яго.

Павольнай хадой панеслі дзеці сваю знаходку дамоў.

— Ката прынеслі! — абвясціў Лявонка, як пераступіў парог хаты.

І выставіў наперад шапку.

Маці глянула і засмяялася.

— Добры кот!.. Гэта ж пацук, а не кот. Навошта яго бралі?

Дзеці спалохаліся, што маці загадае выкінуць кацяня, і папрасілі разам:

— Мы, матуленька, яго на полі знайшлі. Сам прыйшоў... Да Надзі на калені прыпоўз. Няхай у нас жыве. Мы яго самі гадаваць будзем. Няхай ён у нас жыве, матуся? А? Ты глянь, які ён прыгожанькі.

Коцік жвава бегаў па падлозе, хоць быў сапраўды не большы за пацука. Ён пачаў ужо крыху сваволіць: круціўся ля ног, выгінаў спінку.

Дзеці вачамі, поўнымі просьбы, глядзелі на маці, чакаючы адказу. Нарэшце яна сказала:

— Гадуйце ўжо. Толькі самі гадуйце, мне не дакучайце. Ды не абкарміце яго толькі. Ён яшчэ такі маленькі...

Вялікі белы кот з чорнай плямай на спіне і чорным хвастом ляжаў на падлозе, раскі-

нуўшы ногі, як сабака. Яму было душна, дакучалі мухі.

На звон дзіцячых галасоў ён спачатку няўважна расплюшчыў адно, а потым адразу глянуў абодвума вачамі.

Шэранькі коцік-малеча шустра падбег да яго, і не справіўся стары кот схамянуцца, як малы торкнуўся мордай у яго бок... Можа, падумаў, што гэта яго матка.

Кот засыкаў, завурчаў, закаўкаў не сваім голасам, кінуўся на акно, стукнуўся аб шкло, аж шыбы зазвінелі. Акно зачынена — няма як выскачыць, — ён зірк туды-сюды, прыйшоў да памяці і порскнуў праз дзверы на двор.

— Ай кот, ай кот! — скакаў, тупаў ножкамі, пляскаў у ладкі Лявонка. — Нашага малечы спалохаўся.

Смяяліся ўсе.

— Ну, а як жа вы, дзеткі, коціка свайго зваць будзеце? — пацікавілася матка.

Нарабіла маці клопату дзецям.

Змоўклі яны, губкі сціснулі, лобікі зморшчылі, думаюць, як назваць свайго коціка.

— Ён маленькі, няхай Малечай завецца, — першы адгукнуўся Лявонка.

— Дык ён жа вырасце, — не згадзілася



Надзя. — Будзе вялікі кот, а ты яго ўсё будзеш Малечай зваць?

— Як вырасце, мы новую мянушку прыдумаем, — падтрымала малога брата Аўдолька.

Але тым часам Лявонка закрычаў радасным голасам:

— Прыдумаў, вось дык прыдумаў! Усе слухайце! Я прыдумаў! Мы яго знайшлі? Дык няхай будзе кот Знайдзён.

— Добра, Лявонка, добра! — сцвердзіла матка.

І пачаў гадавацца кот Знайдзён.

*Ганна Іванова*

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Вы ляціце,
птушкі,
да нашае дачушкі,
да новае калыскі,
да любае Аліскі —
бабінай
калыханкі,
мамінай
спадзяванкі,
таткавай запытанкі,
браткавай гадаванкі!

Спявайце ад ранку,
пасеўшы на ганку!
Я
вам
дам:
жменю ячменю,
жыта карыта,
мерку пшаніцы,
вады з крыніцы!
Птушкам — пачастунак!
Дачушцы — падарунак!
Сынкам — пацешка!
— А нам?
— А вам — усмешка!
Насіце-хваліцеся,
з усімі дзяліцеся!

*Алесь Гарун*

## ДОБРЫЯ ДЗЕЦІ

Паставілі дзеці сіло. Вераб'я
Хацелі злавіць на пацеху,
Злавілі сініцу, крычаць: — Вой-я-я!
А радасці колькі, а смеху!
Імчацца да маткі: — Сінічка, глядзі!
— А дзе ж вы ўзялі? — Злавілі,
Дастань ты ёй клетку, хутчэй пасадзі.
— Нядобра вы, дзеткі, зрабілі!



— Мы будзем яе і паіць і карміць,
Спявала б нам птушка прыгожа,
— Ах, дзеткі! ў няволі яна замаўчыць,
Спяваць у няволі не можа...
Успомніце толькі, як нудна сядзець,
Як з хаты мароз не пушчае.
То ж дзень, вам здаецца,
як тыдзень ідзець,
Хоць я і усяк разважаю.
А птушку вы хочаце з хаткі яе
Узяць, пасадзіць у чужую...
Не мучце, пусціце, рыбулькі мае,
На волю яе залатую.
І матчыны словы ў сэрцах дзяцей
Ласкавыя струны кранулі,
І добрыя дзеці — прыклад для
людзей! —
Сініцы свабоду вярнулі.

*Барыс Сачанка*

## ЖАНІХ І НЯВЕСТА

Таццянчынага Паўліка ўкусіла гадзюка. Укусіла знячэўку, калі хлопчык хацеў сарваць спелую гронку парэчак. Скокнуў ён у куст і адразу ж адчуў, як штосьці апякло пятку. Падняў нагу: выгінастая, пабітая на чорныя шашачкі спіна гадзюкі віхлянулася ў траве...

У бальніцы Паўліку далі аж два ўколы. Маці здалося гэтага мала, і надвячоркам, на захадзе сонца, яна прывяла яшчэ знахарку. Тая доўга і часта дзьмула на нагу і шэптам усё адсылала хваробу «на дрымучыя лясы, на голыя лозы, на быстрыя воды».

Але хвароба не паслухалася яе — не захацела нікуды ісці. Ад гэтага нага распухла, зрабілася тоўстая і цяжкая, як бервяно.

І здарылася ўсё гэта якраз у тыя дні, калі ў лесе на дзялянках паспелі маліны. Хто б раней утрымаў у гэты час непаседу Паўліка дома! Прывяжы — і то ўцячэ. А так сядзіць ён ціха пад разгалістай яблыняй у садзе і думае-варожыць: насунецца вось той беласнежны сухмарак на сонца ці праплыве бокам. І такая маркота, такі сум, што хоць плач.

Яно каб былі кніжкі, дык час, можа б, і не так доўжыўся. Але ж за дні хваробы Паўлік прачытаў усё, нідзе ні староначкі непрачытанай няма.

Збегаць у бібліятэку ён не можа, а ў маці і без таго работы па самае горла: і свае грады трэба ад травы ратаваць, і ў калгас дзень пры дні хадзіць...

У садзе — гарачыня, асабліва ў абед. Пахне кропам, гуркамі. Гудуць, як на пасецы, пчолы.



Час ад часу Паўлік мочыць у місе з сыроваткай ручнічок і прыкладвае да апухлай нагі.

Дзеля чаго гэта — хлопчык не ведае, але сказала маці, што так трэба, — і ён слухаецца...

Раптам з вуліцы чуецца голас:

— Паўлік, Паўлік, дзе ты?

Хаця ад вуліцы пляцень густа абвіты хмелем і з саду не відаць, хто крычыць, але Паўлік па голасу пазнае: гукае Анютка — дзяўчынка, да якой пасадзіла яго зімою настаўніца, каб ён меней сваволіў.

У іншы час Паўлік, магчыма, і не адгукнуўся б на гэты голас. Але цяпер, калі ў яго баліць нага, а ніхто з аднакласнікаў яшчэ не прыйшоў праведаць, гэты голас узрадаваў яго.

— Я тут! — крычыць ён. — У мяне нага баліць, і я не магу адчыніць. Ты давай проста цераз пляцень!

— Добра, я зараз... — чуецца з вуліцы, і праз якую хвіліну белая ў чырвоныя бубачкі сукенка мільгае ў гародзе. Хаваючы адну руку за спіну, белагаловая дзяўчынка бяжыць па разоры ў сад.

— Ты чаму ж гэта сёння на луг не пайшла? — пытае Паўлік, як толькі дзяўчынка садзіцца побач.

— А мы па маліны хадзілі, — кажа яна і ўсміхаецца. Густыя, белыя зубы на момант бянтэжаць хлапчука; у яго зубы мяняюцца, таму яны няроўныя і рэдкія. — Бач якія, — і Анюта з-за спіны ставіць перад хворым гранёную шклянку спелых малін.

Паўлік доўга прыглядаецца да ягад, і яго востранькі, пасыпаны ля кірпатага носа рабаціннем, тварык прыкметна ажывае.

— Відаць, у Дзедавых выгарах брала, — кажа ён. — Такія толькі там растуць!..

— Умгу, — прызнаецца Анютка. — Еш, я табе прынесла. Успомніла пра цябе і прынесла. Ты ж такі хворы цяпер, слабенькі, кволенькі...

— Хворы, нага баліць.

— І моцна?

— Не, не вельмі каб, але ж у лес усё роўна няможна ісці, — крывячыся, быццам ад болю, адказвае Паўлік.

Дзяўчынка змаўкае і ўжо не на хвіліну не зводзіць вачэй з балючай нагі, калашына на якой закасана па калена, а лытка абкладзена мокрым ручніком. Потым кажа:

— Паўлік, а што, калі ты раптам памрэш?

— Ну-у, выдумала, — смяецца Паўлік, забыўшыся, што ў яго шчарбаты рот. — Доктар казаў, што праз які тыдзень буду бегаць яшчэ



лепей, чым бегаў... Вось толькі вельмі сумна аднаму...

— І мне сумна, — памаўчаўшы, прызнаецца дзяўчынка. — Як толькі цябе ўкусіла гадзюка, дык мне і сумна стала. І на луг хадзіла, і ў лес, а ўсё роўна сумна. Паўлік, хочаш, я буду толькі з табою таварышкаваць, як ты ачуняеш... Далібог, ні з кім, толькі з табою. Хочаш?..

Але Паўлік не адказвае. Ён раптам успамінае: з іх кпілі аднакласнікі, калі яго перасадзіла настаўніца да Анюткі. Нават прыпеўку склалі:

Жаніх і нявеста
Паелі ўсё цеста.
Жанішок, жанішок
Згубіў шапку й кажушок...

«А калі даведаюцца, што Анютка прыносіла маліны?..»

Хлопчык хмурнее і палахліва азіраецца: ці не сочыць за імі хто-небудзь? І кажа:

— Ага, быццам без цябе ў мяне няма з кім таварышкавацы?.. Быццам без малін я не абыдуся... — і Паўлік адсоўвае ад сябе шклянку з ягадамі.

— Ну і не еш... — ледзь чутна шэпча Анютка. — Ну і не еш... — паўтарае яна, і вусны яе крывяцца — дзяўчынка вось-вось за-

плача. Яна ўстае і, не азіраючыся, павольна ідзе па разоры на падворак, а адтуль, гэтак жа павольна, на вуліцу. Вострыя плечкі яе калоцяцца — Анютка плача...

Паўлік застаецца ў садзе зноў адзін. Ён сядзіць, маўклівы і пануры, глядзіць на шклянку малін, і яму неяк не па сабе. З Анюткі ж таксама смяяліся, калі спявалі гэтую крыўдную прыпеўку. А яна, бач, прыйшла. Прыйшла сама, быццам так і трэба. І ён, замест таго, каб забыцца на ўсё, парадавацца, узяў ды так ні за што ні пра што пакрыўдзіў Анютку — лічы, прагнаў...

*Павел Кавалёў*

## ЖЫВІ САБЕ, ЗАЙЧЫК!

Мінулым летам мы з татам ездзілі да дзеда ў вёску. Дзедава хата стаіць пры самай вуліцы. Хто ні праходзіць — нам відаць.

Неяк самымі прыцемкамі вуліцаю прайшла з пашы калгасная жывёла, а следам за ёю павольна ішоў пастух, камлюкаваты дзядзька Ігналь. Ідзе ды нешта шэранькае трымае на руцэ, да грудзей прыхінае.

Углядаемся мы з дзедам праз акно і нічога не можам разабраць.

— Ці не зайчыка пастух злавіў? — падаў думку дзед.



Тут я бягом кінуўся да Ігналя, а следам за мною Надзейка, мая меншая сястрычка. А Ігналь спыніўся так паважна сярод вуліцы, шарачка да грудзей туліць ды пяшчотна так гладзіць яго.

— Ой, які прыгожанькі... Маленькі... Глядзі, Алесь! — радасна кажа мне сястра.

— Магу падарыць, — усміхаецца Ігналь.

— Дзякуй вам! — Надзейка кінулася да шэранькага, ды пастух не адразу аддаў зайчыка.

— Падару, але з адною ўмоваю, каб вы яго вылечылі. У зайчыка хворыя заднія лапкі... Нейкі злачынца падбіў яго... Летам на зайца паляваць забаронена, а той страляў, мабыць. Зайчыку цяпер асаблівы догляд патрэбен. А мне самому часу няма... Бярыце...

І дае мне ў рукі шэранькі камячок. Я асцярожна ўзяў яго, прыціснуў да грудзей, як рабіў пастух, і панёс на двор.

Зайчык утуліў галаву, палажыў на спіну доўгія вушы і толькі вусікамі паводзіць ды вочкамі міргае, а сэрца яго так калоціцца, што, здаецца, вось-вось выскачыць.

Дзед выйшаў нам насустрач, усміхаецца. Таксама, відаць, рады, што мы зайчыка нясём.

— А дзе мы яго будзем трымаць, дзядуля? — спытала Надзейка.

— Пачакайце, зараз што-нібудзь прыдумаем.

Ён пайшоў пад паветку і прынёс адтуль вялікую скрынку з дзірачкамі па баках. Туды мы і пусцілі нашага зайчыка. Потым пабеглі, нарвалі канюшыны, маркоўніку, адламалі некалькі капусных лістоў. Зайцы ж вельмі любяць капусту. Палажылі ўсе гэта у скрынку, а заяц і ўвагі не звяртае.

— Ён хворы, яму малачка трэба,— сказала Надзейка і пабегла ў хату, прынесла адтуль сподак. Тата, які дагэтуль толькі наглядаў за намі, прынёс паўшклянкі свежага малака.

Налілі малако ў сподак, паставілі ў скрынку. Зайчык ані блізка да яды. Адварочваецца ды шчыльней у куточак туліцца, вусамі толькі паводзіць. Адыдзем мы крыху, дык ён спрабуе ўзняцца на пярэднія лапкі, а заднія толькі валакуцца.

Тады тата ўзяў шарачка за вушы ды пыскаю — у малако. Выходзіць, гэтага толькі і неставала. Зайчык аблізнуўся раз, другі, нахіліўся сам да малака і языком «клёк-клёк...».

Узрадаваліся мы:

— Калі п'е — будзе і есці...

— Ну, не трэба яго турбаваць. Няхай адпачывае,— сказаў дзед і занёс скрынку з зайчыкам у клець.— Там яму зацішней будзе.



Цяпер у нас з Надзейкай з'явіліся свае клопаты: як прачнёмся, дык адразу да зайчыка ў клець. То малака занясём, то капусных лістоў. Зайчык перастаў нас баяцца: есць папоўніцы, але чамусьці дрыжыць пры гэтым, быццам баіцца ці куды спяшаецца.

Мінула больш за тыдзень, і я заўважыў, што зайчык наш пачаў ачуньваць. Як няма нікога, стане асцярожна на заднія лапкі і барабаніць пярэднімі па сценцы. Падыдзе хто — ён зноў у камячок згорнецца і хаваецца адразу ў куточак.

...Учора вечарам мы сустрэліся з дзедам у клеці.

— Ну, папраўляецца шарачок. Што ж вы далей будзеце рабіць з ім?

Я і сам не ведаў, што рабіць. І раптам вырашыў:

— Выпушчу, як зусім паправіцца.

— Правільна зробіш,— падумаўшы, згадзіўся дзед,— няхай гуляе на волі...

Зайчыка збіраліся глядзець штодзень усе суседскія хлопчыкі і дзяўчынкі. Але вельмі блізка да яго мы з Надзейкай нікога не падпускалі.

Я да таго звыкся з шарачком, што аднойчы пачаў прасіць тату ўзяць яго з сабою ў горад. Хацеў сябрам паказаць... А Надзейка дык

і слухаць не хацела, што з зайчыкам давядзецца развітацца.

І вось неяк раніцою прыйшоў я да зайчыка. З харчамі. Зірнуў у скрынку — няма шэрага. Няма паблізу і дзеда. А калі я ўваходзіў у клець, яна была ўжо адамкнёна. Значыць, нехта тут ўжо быў. А ключы ж толькі ў дзеда. Убачыўшы яго пад паветкай, я кінуўся да дзядулі са слязьмі:

— Няўжо наш зайчык уцёк?

— Не, ён гойсае там у клеці па засеку, — адказаў дзядуля. Потым падышоў бліжэй да мяне, ласкава крануў за плячо і спытаў:

— Можа, выпусцім?

— Давайце, пакуль Надзейка спіць, менш слёз будзе, — згадзіўся я.

І выпусцілі мы зайчыка ў агарод... З якой радасцю пабег ён, толькі — кульгецькульгецьульгецць...

Жыві сабе, зайчык!

*Яўген Крупенька*

## ЛЕЎ

Цар звяроў,
Грывасты леў,
Перш паспаў,
Пасля пад'еў.



Нават дзякуй не сказаў —
Толькі пысу аблізаў.
Пастаяў,
Хвастом махнуў
І салодка
Пазяхнуў.
Ходзіць ціха,
Як не цар,
І не вельмі
Грозны твар.
Ён, напэўна,
Зразумеў,
Што не страшны
Ў клетцы леў.

## У МАГАЗІНЕ ЗАЙКА БЫЎ

(Па народных матывах)

У магазіне зайка быў
І падушку там купіў.
А прынёс дадому,
Дык лёг спаць, вядома.
На падушцы — галава,
А пасцелька — трава.
Ляжыць зайка пад кустом,
Куст — яго цудоўны дом,
Мяккая падушка,
Ды звісае вушка.

Што рабіць? Што рабіць?
Трэба новую купіць!
Зайка новую купляе,
Зноў няўдача спасцігае:
З новае падушкі
Зноў звісаюць вушкі.
Зай пакупцы
Сам не рады —
Хто у гэтым
Вінаваты:
Зай ці падушкі?
Не, — доўгія вушкі!

*Уладзімір Карызна*

## САМАЯ ЛЕПШАЯ

Весняй заранаачкай свеціць,
Лашчыць,
Як звон ручая,
Самая, самая лепшая ў свеце
Мама мая.

Сонца парой залатою
Будзіць
У росных гаях,
Жаўранкаў просіць співаць
Над зямлёю
Мама мая.



З ёй весялейшыя песні,
Радасць мілей
Удвая!
Самая, самая лепшая ў свеце
Мама мая.

*Мікола Чарняўскі*

## КАРАВАЙ

Мы спяклі на імяніны
Каравай для нашай Ніны.
Каравай цяжкі, багаты,
Каравай, як стог, бухматы!

— Каравай, каравай,
Каго хочаш, выбірай!

— Быў бы рады Януку —
Не схадзіў ён па муку.

І да Каці не пайду —
Не схадзіла па ваду.

Не хачу, каб Ясь чапаў, —
Ён не пёк мяне, а спаў.

Петруку хай будзе ўрок —
Хлебам кідаўся Пятрок.

І да Мірыка ні-ні —
Ён баіцца чысціні.
Да Анюткі не хачу —
Ні смяшыначкі ўваччу...

— Каравай, каравай,
Каго выбраў, называй!

— Выбраў Ніну: Ніна ў нас —
Імянінніца якраз.

Выбраў Насцю, бо яна —
Шчыравала ад цямна.

Выбраў Олю: з Насцяй Оля
Увіхалася найболей.

Выбраў тых я, хто стараўся:
Памагаў мне, не ўпіраўся,
Хто сачыў, каб я не ўцёк,
У гарачай печы пёк.

Выбраў Дашу, Нату, Дзіну,
Выбраў Лану, Свету, Дзіму,
Выбраў тых я, хто вясёлы,
Прыйдзе — песню прынясе.
А такіх найбольш наўкола,
А такія вы — усе!

— Каравай, каравай,
Дзякуй!



Дзякуй!
І — бывай!

## ГАЛЯ ГУСКАЙ СТАЦЬ ХАЦЕЛА

Галя тупала, крычала,
Галя маме дакучала.
Не суняць ніяк
малую:
— Гускай стаць даўно хачу я!
Гусі нашы дзень пры дні
Каля рэчкі, вунь зірні,
Ходзяць, крыламі лапочуць,
Там гуляюць
Колькі хочуць.
Мне ж ты ўсё не дазваляеш
Бегаць, гэтулькі гуляць.
Мыць пасуду прымушаеш,
Лебяду ў гародзе рваць...

— Ты, дачушка, жартаўніца.
Хочаш гускаю зрабіцца?
Добра,
Ёю будзь тады, —
Падавайся
Да вады.
Будзеш есці, балаўніца,

Не з талеркі,
А з карытца.

Буду зерня падсыпаць,
Пад паветкай
Класці спаць.
Баба шапачкі
Не звяжа,
Казкі нанач
Не раскажа.
І на двор гуляць, дачушка,
Будуць гнаць
Дубец ці пужка...

Пасур'ёзнела капрызка,
Да матулі села блізка:
— Гускай быць я не хачу,
Лепш з табой пашчабячу...

## КАЧАН КУПАЕЦЦА

(З народнага)

Як пайшоў качан купацца
Ды пачаў ён распранацца.
Ён усе свае кашулі
Ў адзін момант скінуць рад,
Але вы, напэўна, чулі,
Што ў яго іх вельмі шмат.



І таму ніяк не скіне
Ён за раз кашулі ўсе —
Па адной здымаць павінен,
Па парадку,
Па чарзе.
Сонца ж паліць,
Млосна,
Спёка.
Ля ракі качан стаіць,
Распранаецца,
А вокал,
Можа, з воз кашуль ляжыць.
І апошняя, нарэшце,
Паляцела на пясок —
Анікога ўжо на рэчцы,
Сонца села за лясок.
Качану дамоў збірацца
Неахвота,
Але час,
Не прыйшлося пакупацца,
Даць нырца ў ваду хоць раз.
Уздыхнуў ён:
— Вечар сіні
Рана крылы распусціў.
Мусіць, заўтра да ракі мне
Давядзецца зноў прыйсці.

*Ніна Галіноўская*

## МАСТАК

Кніжку ты бярэш у рукі —
Падабаюцца малюнкі,
Хто ж яе аздобіў так?
Кніжку афармляў мастак.
Лес, мядзведзі... Калі ласка,
Ажыла ў малюнках казка.
Недарэмна ў мастака
Цудадзейная рука.
Для яго малюнкі, фарбы —
Найкаштоўнейшыя скарбы:
З імі верна ён сябруе,
Што захоча, намалюе.
Кніжку зараз мы чытаем
І малюнкі разглядаем.
Кніжка гэтая сагрэта
Сэрцам мастака, паэта.
Цеплынёю многіх рук —
Доўгі кніжчын шлях у друк.

*Уладзімір Юрэвіч*

## ЛЯСНОЕ СЛОВА

У лес уваходзілі ўсе разам — Андрэйка, Міколка і Тараска.

Спыніліся, прайшоўшы трохі лясной дарогай.



— Я сюды, налева,— сказаў Андрэйка, пазнаўшы вузкую сцяжынку між дзвюх старАватых бяроз.

Мінуў, можа, тыдзень, як яны з татам былі тут у грыбах і па гэтай сцежцы натрапілі якраз на неруш.

— Дык, можа, і мы сюды? — запытаўся Міколка ў Тараскі.

— А чаго гэта след у след хадзіць? — буркнуў Андрэйка і адвярнуўся ад сябрукоў.

— Тады мы направа,— паважна, як старэйшы, сказаў Міколка.— Толькі ўгавор — не забываць лясное слова: будзем перагуквацца, каб не заблудзіцца.

Андрэйкавай згоды хлопцы не пачулі, бо яго адразу нібы праглынуў густы арэшнік.

— А-у! — першы падаў голас Міколка.

— А-у-у! — гукнуў у адказ Тараска, які трымаўся ад сябра не надта далёка.— А я ўжо знайшоў баравік...

— Пакажы,— і Міколка падбег да сябра, каб падзяліць першую радасць.

Андрэйка ж маўчаў. Ён зноў, як і тады з татам, натрапіў на ладную сям'ю баравікоў. Ціхенька, нібы каго баючыся, зразаў грыб за грыбам і забыўся пра ўсё на свеце. Нават пра сяброў сваіх.

А грыбоў — працьма! Зрэзаў пяць прыгажуноў-чорнагаловікаў і толькі падняўся, каб

гукнуць сябрам, як пад нагамі ўбачыў яшчэ два. Прысеў зноў, зрэзаў. А вунь пад елачкай яшчэ вялізны, як парасон, уваткнуты ў зямлю. Праўда, шапка крыху паедзена смаўжом, але нічога. І Андрэйка падразае сцізорыкам крамяную ножку. Ажно рыпіць. «Значыць, здаровы»,— разважае хлопчык і азіраецца па баках.

— Ау-у! — чуецца зводдаль.

Андрэйка маўчыць, бо перад самым носам з-пад моху пазірае белагаловы баравічок. Яшчэ і пажоўклы арэхавы лісток не паспеў скінуць з шапкі.

— Ау!.. Ау!..— гукаюць сябры.

Поўзае Андрэйка на каленях па імшанай пярыне і ледзьве спраўляецца класці баравікі ў кошык.

— Ау! У-у-у! — ужо далёка крычаць хлопцы.

— У-у-у!..— паўтарае лес.

Андрэйка набраў поўныя грудзі паветра, каб адказаць сябрам... Але каля яловага пеньчука згледзеў новы грыб. Прысеў, расхінуў мох і вачам сваім не верыць: дзве галавы, а нага адна.

«Спарыш!» — ледзьве не выгукнуў хлопчык уголас і ўспомніў бацькавы словы: «Гэта — на шчасце!» Акуратна падрэзаў Андрэйка таўставатую нагу, пакруціў грыб у руках,



любуючыся, і асцярожна паклаў у кошык.

Хацелася падзяліцца сваёй радасцю, але не было з кім. Успомніў, адкуль яшчэ нядаўна гукалі сябры, і падаўся ў той бок.

Выйшаў на паляну. Тут толькі сцяміў, што і вечар ужо блізка. Сонца залаціла вяршаліны самых высокіх ялін. Страшнавата стала аднаму.

«І чаму я хлопцаў сюды не павёў? — шкадуе Андрэйка.— Хіба не хапіла б на ўсіх тых грыбоў?»

Стаіць Андрэйка якую хвіліну, думае, азіраецца па баках: куды ж падацца? Нямая, страшная цішыня не на жарт спалохала хлопчыка. Глянуў угару — вяршаліна елкі асветлена справа, значыць, там захад. А вёска ж іхняя на ўсход ад лесу. Трэба паварочваць назад.

Пастаяў, сабраўся з духам, прыставіў далонь да вуснаў і выгукнуў нарэшце:

— А-у-у!..

Лес адгукнуўся стомлена, невыразна, сярдзітым рэхам:

— ...у-у-у!..

І яшчэ страшней стала Андрэйку ад гэтага ляснога слова.

Павярнуўся, каб ісці назад, як яму здавалася, дамоў. Зноў у вачах баравікі. Як бы павыскаквалі хлопцу напярэймы ды дражняц-

ца: «Бяры! Не лянуйся!» Андрэйку ж не да грыбоў, ды і класці ўжо няма куды: кошык повен, у руках — спарыш.

Галінкі сцёбаюць па твары, павуцінне чапляецца за нос, лезе ў вочы. Андрэйка ўжо не ідзе, а бяжыць ад страху, прадзіраецца да дарогі.

Толькі дарогі няма і няма. У лесе цямнее і цямнее. І скрозь такая цішыня, хоць бы птушачкая якая азвалася.

Спыніўся Андрэйка, гукнуў сваё запозненае «Ау!». Лес паўтарыў адно толькі «у» і змоўк.

У галаве — адно: «Дзе ж хлопцы? Заблудзіліся? А мо ўжо дома даўно?» Яшчэ раз гукае:

— А-у-у!

Адказу няма. Толькі што гэта? Андрэйка стаіць на сцежцы. Яму здалося, што гэта тая самая, па якой ён уваходзіў у лес. І хлопчык пачаў ступаць смялей.

Прайшоў трохі, спыніўся і зноў гукнуў, ажно тры разы запар.

Рэха ўлеглося. Зноў стала ціха і страшна. Андрэйка стаяў і думаў: «А можа, вярнуцца назад, каб выйсці на дарогу?» Ён павярнуўся ўжо, як зусім побач, ледзь не ў самае вуха, разлеглося Міколкава «Ау!».



Андрэйка кінуўся насустрач поклічу і адразу апынуўся на дарозе.

— Во ён! — дружна грымнулі галасы. Гэта Міколка з Тараскам зарадаваліся. Андрэйку хочацца ўсміхнуцца, і нешта замінае. Нейкі камячок падступіў да горла, не дае слова вымавіць.

Хлопчык прысаджваецца ля сяброў і, не ўзнімаючы на іх вачэй, раскладвае свае знаходкі. Іх багата. Разы ў два больш, чым у Міколкі з Тараскам. Андрэйка бачыць, як сябры разглядаюць яго баравікі, і кажа:

— Давайце палічым, колькі мы ўсе назбіралі, і падзелім пароўну...

*Эдзі Агняцвет*

## МАМЕ

Калі б магла вясёлку з неба зняць,
Я падарыла б маме.
Каб з хмарак я магла дыван саткаць,
Я падарыла б маме!

Пралескі ўсіх лясоў
                    і стужкі рэк
Я падарыла б маме.
І ласку, і цяпло на доўгі век
Я падарыла б маме!

Святло бяроз
і песеньку малой
Сініцы сінякрылай —
Хачу паднесці ўсё,
што мне самой
Матуля падарыла.

*Васіль Хомчанка*

## ЯБЛЫК

Дзед быў на рынку і купіў сабе яблык. Вялікі, з залацістымі бакамі і празрысты. Нават зярняткі відаць. Пакруціў дзед у руцэ яблык, хацеў з'есці, ды перадумаў:

— Занясу дадому. Дзяцей пачастую.

Дома дзед аддаў яблык унучцы Ніне.

— Ой, які яблык вялікі! — усклікнула Ніна. І толькі яна хацела адкусіць, як прыйшла з работы маці.

— Мамачка, — сказала Ніна, — ты стамілася. Вазьмі, з'еш яблык.

Маці падзякавала Ніне, узяла яблык, палюбавалася ім.

— Я Міхаську пачастую. Ён жа ў нас самы маленькі, — сказала маці. І калі Міхаська вярнуўся з дзіцячага сада, аддала яблык яму.

Міхаська нават ножкамі затупаў ад радасці, такі яблык яму далі — вялікі, залацісты, прыгожы!



Ён дастаў са скрынкі ножык, паглядзеў на дзеда, маму, Ніну і разрэзаў яблык на чатыры часткі.

— Гэта, дзядуля, табе, гэта маме, а гэта мне і Ніне, — падзяліў ён. — Ешце, калі ласка.

Смачны быў яблык. Салодкі, сакавіты. Усе елі і хвалілі Міхаську. А больш за ўсіх хваліў дзядуля.

*Міхась Пянкрат*

## МОЦНАЯ ДРУЖБА

У Міколкі ёсць даўні, выпрабаваны дружбак — Жучок. Жучок — крываногі, кудлаты, як аўчынная шапка, сабачка. Ды і памерам Жучок не большы за шапку.

Дужа моцная дружба ў Міколкі з Жучком. Куды Міколка — туды і Жучок, куды Жучок — туды і Міколка.

Аднойчы Міколка сядзеў у агародчыку за домам і будаваў шматпавярховы дом з драўляных кубікаў. Тут жа сядзеў Жучок і ўважліва наглядаў за Міколкавай работай.

— Ну, як, Жучок, прыгожа атрымліваецца? — пытаўся малы будаўнік.

Жучок схіліў галаву набок, ацэньваючы зробленае, і задаволена павіляў хвосцікам. Гэта, пэўна, азначала: «Дужа добра!»

Міколка пачаў майстраваць дах з кардонных абрэзкаў. Дах атрымаўся цудоўны: высокі, трывалы і ўстойлівы.

— Ну, як дах? — пытаецца Міколка ў Жучка.

А Жучка няма побач!

Міколка нічога не разумее. Куды пайшоў Жучок? Туды паглядзеў, сюды паглядзеў, аж бачыць: Жучок прыпаў на свае крывенькія лапкі і ціхенька крадзецца да сцяны дома, толькі хвосцік у траве матляецца.

Міколка падышоў бліжэй. У гэты момант і здарылася бяда... Не паспеў Міколка падумаць, што да чаго, як Жучок скокнуў наперад і задаволена запішчаў. Пад яго калматымі лапкамі трапяталася кволенькае птушаня...

Міколка выхапіў птушаня з лап Жучка. На пушыстай, мякенькай спінцы рдзелася маленькая кропелька крыві — Жучок абдзёр птушаня кіпцюром...

Міколка падняў галаву і паглядзеў у падстрэшша дома. Там, у куточку, было гняздзечка, і ў ім ціўкалі птушаняты. Хлопчык усё зразумеў...

А Жучок сядзеў на задніх лапах і няўцямнымі вачамі пазіраў на Міколку. Маўляў, друг, а ўзяў і адабраў у мяне такую цікавую здабычу.

Міколка не на жарт пакрыўдзіўся на Жучка:

— Як табе не сорамна птушанятак лавіць? Яны ж маленькія, бездапаможныя. Бачыш, вунь іх мама вучыць з гняздзечка вылазіць і на тую грушу ўзлятаць. Гэтае, мабыць, самае слабенькае, таму і не ўтрымалася на крыльцах. А ты яго, як звер, — у лапы! За гэта я з табою, Жучок, больш дружыць не буду!..

Жучок уважліва слухаў папрокі, і ў яго вачах было позняе раскаянне...

Пакуль тата па просьбе Міколкі ўладкоўваў птушаня ў роднае гняздо, Жучок ляжаў на прызбе з заплюшчанымі вачамі. Ён, мусіць, перажываў.

Назаўтра раніцою Міколка зноў пайшоў гуляць у свой любімы агародчык. Жучок ужо быў там. Сядзеў на задніх лапах у самым куточку агародчыка. Ён, мабыць, не забыўся на сваю ўчарашнюю віну. Міколка таксама не забыўся на сваю крыўду. Быццам і не заўважыўшы Жучка, Міколка пачаў будаваць гараж для свайго самазвала. Самазвал ён прынёс з сабою.

Калі сцены гаража былі ўжо складзены, Міколку па звычцы захацелася запытацца

ў Жучка яго думку наконт будаўніцтва. Паглядзеў на сабачку. Той сядзеў у куточку агародчыка і такімі вінаватымі вачамі пазіраў на Міколку, што Міколку стала шкада свайго сябра.

— Ну, добра, ідзі сюды, Жучок...

Жучок хуценька падхапіўся, падышоў да Міколкі і торкнуўся халоднай пыскай у Міколкаву руку: прабачэння папрасіў.

Абодвум стала весела: памірыліся.

А на грушы шчабяталі і пераскоквалі з галінкі на галінку птушаняткі. Ім таксама было весела, яны ведалі, што іх ніхто не пакрыўдзіць, бо тут жывуць сапраўдныя, добрыя сябры.

## ДВА ВАСЬКІ

У адным доме, у адной кватэры жывуць два неразлучныя сябры. Аднаго завуць Васька. Другога — таксама Васька. Адзін Васька — хлопчык, а другі Васька — кот.

Васька-хлопчык старэйшы за свайго цёзку на шэсць гадоў. Нягледзячы на такую розніцу ў гадах, абодва Ваські так дружаць — вадою не разальеш. Праўда, часам Васька-хлопчык гаворыць Ваську-кату:

— Які ты мне сябар, Васька? Стары



ты. Вунь якія вусы адгадаваў. А ў мяне яшчэ няма вусоў. Вусы толькі ў старых — у цябе і ў майго дзядулі.

Васька-кот жмурыцца, сярдзіта водзіць вусамі — не падабаецца яму такая размова.

— А хочаш, Васька, — працягвае хлопчык, — я цябе пагалю? Мой тата заўсёды голіцца, таму ён малады і завецца татам, а не дзядулем.

Васька-кот нешта прамуркаў. Але не паспеў і вухам павесці, як Васька-хлопчык адрэзаў яму вусы нажніцамі.

Васька-кот нічога — пагадзіўся, а вось тата Ваські-хлопчыка сварыцца пачаў: «Такога «цырульніка» раменьчыкам аперазаць трэба».

Ды гэта што. Аднойчы больш сур’ёзнае здарэнне выйшла.

Звычайна Васька-хлопчык не любіць смятану. Проста гора з ім. Але вось нядаўна маці пайшла ў магазін, а Ваські засталіся ў кватэры адны. Васька-кот хоць і без вусоў, але адразу ж наматаў на вус, што гаспадыні няма дома, і падаўся на кухню. Ускочыў на стол, стаў дыбка каля збанка са смятанаю. Драпае лапкамі, а дастаць смятаны не можа. Васька-хлопчык прыйшоў сябру на дапамогу.

Калі Васька-хлопчык паглядзеў на Ваську-ката, які смачна ўплятаў смятану, яму і самому захацелася смятаны.

Словам, пакуль маці вярнулася з магазіна, смятана была ўпарадкавана. Ваську-хлопчыка павялі ў ванную мыцца, а Васька-кот, агрэты па спіне ручніком, умываўся сам — лапкамі.

Потым Васька-хлопчык скардзіўся свайму сябру, Ваську-кату:

— Завошта мама накрычала на нас — не разумею. То сама просіць, каб я смятану еў, а калі мы і без просьбы ўсю з'елі — злуецца...

*Алесь Рыбак*

## ХІТРАЯ МАТЭМАТЫКА

— Будзем гуляць у школу? — спытала неяк пад вечар Ірынка.

Люда кіўнула галавой:

— Будзем.

— І я хачу гуляць у школу,— запатрабаваў Ірынчын брацік Сяргейка.

Ірынка з Людай дружна запярэчылі:

— Дык ты ж яшчэ не ўмееш ні чытаць, ні пісаць.

Але Сяргейка не здаваўся.

— А я да пяці рашаць магу, ага. Мяне мама навучыла. Хіба ты не ведаеш,— накінуўся ён на Ірынку.



Дзяўчынкі трошкі параіліся і згадзіліся быць настаўніцамі.

У цянёк, пад густую зялёную бярозку, дзе стаяла нешырокая лаўка, Люда прынесла маленькі ўслончык. Сяргейка падрыхтаваў сшытак і аловак.

— Садзіся,— строга, як сапраўдная настаўніца, сказала Ірынка.

Сяргейка сеў на ўслончык, а сшытак паклаў на лаўку.

— Ну, пачнем урок. Рашы, колькі будзе адзін дадаць адзін,— прадыктавала Ірынка задачку.

Сяргейка спачатку напісаў палачку, пасля, як вучыла мама, паставіў крыжык, потым зноў палачку, за палачкай акуратненька правёў дзве рысачкі.

— Малайчына, Сяргейка, правільна запісаў,— пахваліла Люда.

Ірынка таксама падахвоціла:

— Ага, малайчына. А цяпер напішы, колькі ж будзе.

Сяргейкаў тварык стаў заклапочаны. Хлопчык думаў. Моцна думаў. Потым, нахіліўшыся над сшыткам, ён нешта доўга маляваў алоўкам.

— Усё? — нецярпліва спытала Ірынка.

— Усё, рашыў,— з палёгкай уздыхнуў Сяргейка і аддаў дзяўчынкам сшытак.

— А вось і няправільна, а вось і няправільна! — заскакала, нібы чымсьці ўзрадаваная, Люда.

Сяргейка маўчаў, апусціўшы галаву.

— Дык колькі ж будзе, калі скласці адзін і адзін? — спытала Ірынка.

— Два, — хуценька адказаў Сяргейка. — Я гэта ведаю...

— А чаму ж ты напісаў чатыры? — ледзь не ў адзін голас усклікнулі дзяўчынкі.

Сяргейка растлумачыў:

— Два я не ўмею яшчэ пісаць, а чатыры добра магу.

## НАДУМАЛАСЯ

Ад'язджаючы на цэлы тыдзень у горад, тата наказваў Ірынцы:

— Ты павінна быць харошай дзяўчынкай, не капрызіць, не сваволіць. Усё, што ты тут робіш, я дома бачу па тэлевізары.

Ірынка паабяцала ва ўсім слухацца маму.

Неяк перад навальніцай, калі на вёску насунулася чорная хмара, а неба пачалі паласаваць маланкі, Ірынка сказала маме:

— Цяпер я не буду цябе слухацца, от...

— Гэта чаму ж? — здзівілася мама. — А што ты абяцала тату? Ён жа ўсё бачыць па тэлевізары.



— А вось і не, — Ірынка аж заскакала па хаце. — Тата нічагусенькі не бачыць. Ты ж сама казала яму, каб ён не ўключаў тэлевізара, калі навальніца.

*Алесь Ставер*

## ЯК ЗРОБЛЕНЫ ЦАЦКІ

У Дзяніскі сёння свята:
Цацак дзед прынёс багата —
Верталёт, і самаходку,
І пластмасавую лодку,
Матаролер і машыну
З размалёванай кабінай.
Рад Дзяніска, вельмі рад.
І паставіў цацкі ў рад.
Перш узяўся за машыну —
Адвінціў ураз кабіну,
Потым колы паздымаў.
Верталёт той паламаў.
Разабраў на дзіва скора
Да драбніцы матаролер.
Дзед убачыў, забубніў:
— Што ты з цацкамі зрабіў?
Я табе іх нёс гуляць —
Хіба ж можна іх ламаць?
Не купляў бы я, каб ведаў.
А Дзяніска кажа дзеду:

— Мне карцела разабрацца,
Як жа зроблены ўсе цацкі,
А ва ўсім як разбяруся —
Цацкі зноў складу, дзядуся!

## НЕБАРАКА

Наш Андрэйка небарака:
Наш Андрэйка любіць плакаць.
Ён па шмат разоў на дзень
То спаткнецца, то ўпадзе.
Баба кажа:
— Асцярожна,
Шпарка бегаць так няможна.
Зноў паб'ешся —
будзеш плакаць,
Ах ты, мілы небарака!
Пасядзеў бы лепей з дзедам —
Вось удаўся непаседа!
Ды Андрэйка не шманае —
Зноўку бегае, гуляе.
Кажа бабцы:
— Не турбуйся,
Упаду і паднімуся.
А паб'юся, дык паплачу
І забуду — от пабачыш!
А яшчэ скажу, бабуся,
Без ніякага падману:



Калі сілы набяруся,
Бегуном я слаўным стану!

*Пятро Прыходзька*

## СІНЕНЬКІЯ ВОЧЫ

Нібы дзве расінкі
Ціхай цёплай ноччу,
Свецяцца ў Ірынкі
Сіненькія вочы.

Пасвятлее ў хаце,
Як яна ўсміхнецца.
Пакрычыць жа маці —
Ўся слязьмі зальецца.

Ды не доўга плача,
Зноў развесяліцца.
Чуе зноў і бачыць,
Як звініць крыніца,

Як вясна раздоллем
Крочыць маладая,
Як пралеска ў доле
Сінню прарастае.

Красачкі лясныя —
Нібы зоркі ўночы.
У вясны такія ж
Сіненькія вочы.

*Мікола Маляўка*

## ГНЯЗДЗЕЧКА

Я знайшоў за рэчкай
Куст парэчак,
А пад ім гняздзечка —
Пяць яечак.
Днём, як вартавы, я
Там, пры птушках,
Сню яечкі тыя —
У вяснушках.
Не сказаў нікому,
Дзе гняздзечка,
Сам не ўзяў дадому
Ні яечка.
Як разгорнуць крылы
Птушаняты,
Вам сакрэт адкрыю,
Дашкаляты:
Пакажу за рэчкай
Куст парэчак,
А пад ім гняздзечка —
Без яечак.

*Лідзія Арабей*

## МАЁ І ТВАЁ

У Колі быў дзень нараджэння, і яму прынеслі шмат падарункаў — і металічны



канструктар, і гульню «Футбол», а колькі кніжак! Але самы найлепшы быў татаў падарунак — веласіпед! І не дзіва, што Коля радаваўся гэтаму падарунку больш за ўсё. Яго таварышы даўно ўжо мелі веласіпеды — і Міша, і Воўка, і Казік. А ў яго не было. Праўда, сябры давалі яму пакатацца, але ўсё ж гэта не тое, што мець сваю машыну...

Цяпер і ў Колі ёсць веласіпед. І не маленькі, як у хлопцаў на іхнім двары, а куды большы і, што самае галоўнае, з вялікім званком-сігналам. Прымацаваны да руля, званок званіў вельмі звонка і весела, не так, як у машынах ягоных сяброў — ледзьве трэнькаў.

Назаўтра Коля ўсю раніцу катаўся па кватэры, а калі на дарозе траплялася мама, ён моцна званіў і крычаў:

— Сцеражыся! Веласіпе-ед!

Мама спачатку смяялася, а пасля пачала сварыцца:

— Надакучыў ты мне са сваім веласіпедам, носішся як апантаны, звоніш. Ідзі на двор і катайся!

Коля ўзрадаваўся. Як гэта ён і сам дасюль не здагадаўся пахваліцца хлопцам сваёю машынаю?

Ён хуценька схапіў веласіпед і пацягнуў яго ўніз па лесвіцы.

Быў цёплы летні дзень, на двары гуляла шмат дзяцей. Міша, Воўка і Казік таксама каталіся на сваіх веласіпедах. Яны толькі што прыпыніліся ў канцы двара. Казік надумаў зрабіць з веласіпедаў цягнік. І толькі сабраліся хлопцы наладзіць такую гульню, як з'явіўся Коля. Ён глянуў на машыны сваіх сяброў, потым на сваю і ўсміхнуўся. Іх веласіпеды былі ўжо старыя, з аблезлаю фарбаю. У Мішавай машыны руль зусім пагнуты, у Казікавай палавіны спіц няма ў колах. А ў яго, у Колі, машына новенькая, уся блішчыць, асабліва руль і званочак.

Коля шпарка паехаў па двары і моцна-моцна зазваніў. Хлопчыкі як убачылі яго, забыліся адразу пра сваю гульню і пабеглі яму насустрач. А Коля пад'ехаў да сяброў і важна спыніўся перад імі.

— Вось гэта веласіпе-ед! — аж прысеў ад захаплення Міша.

— Здарава, — сказаў Казік, абышоўшы машыну.

— А з якім сігналам! — пахваліўся Коля.

Націснуўшы на педалі, ён павольна зрабіў круг перад сябрамі, увесь час звонячы ў званочак.

— Дай праехаць! — папрасіў Міша.

Коля памкнуўся быў злезці, каб даць пакатацца Мішу, але раптам перадумаў. Ён нахмурыў бровы, зручней усеўся ў сядле і сказаў:

— Не дам... Ты яшчэ зломіш!

— Мы асцярожненька, — папрасіў і Воўка.

Коля зірнуў на таварыша. У таго ажно кропелькі поту выступілі пад носам — так хацелася яму пакатацца на новым веласіпедзе.

Коля ад'ехаў крышку назад і зноў коратка буркнуў:

— Не дам!

— А мы ж табе давалі, калі ў цябе не было, — упікнуў Міша.

— Параўнаў! Вашы былі старыя, а мой новы... І ў мой званок вы званіць не ўмееце!

— Усе няўмекі, толькі ты ўмека, — пакрыўдзіўся Воўка.

— Каб мы табе веласіпеды не давалі, ты і катацца не ўмеў бы, — сказаў Міша.

— І не прасіце ў яго, калі ён такі, — сказаў Казік. — Хадзем лепей у цягнік гуляць!

Тут хлопчыкі ўспомнілі, што збіраліся гуляць у цягнік, і пабеглі да сваіх веласіпедаў.

Коля адзін пачаў кружыць па двары.

Але дзіўна, як толькі хлопчыкі адышлі-

ся і пачалі гуляць без яго, новы веласіпед з такім звонкім сігналам быццам страціў усё сваё хараство. Коля без усякай радасці націскаў на педалі і паварочваў руль, без усякай радасці званіў сваім звонкім званочкам.

А Міша, Казік і Воўка так загуляліся, што зусім забыліся пра Колю. Ім было весела. Коля панура сядзеў на сваім новым веласіпедзе і ўсё званіў, званіў, але на яго ніхто не звяртаў увагі. Нарэшце Коля не вытрываў і, калі «цягнік» зрабіў астаноўку, пад'ехаў да таварышаў.

— Калі вельмі хочаце, то наце, пакатайцеся, — сказаў ён, ахвотна злазячы са свайго веласіпеда.

Хлопчыкі глядзелі на Колю, на яго вінаваты твар. Ім, вядома, хацелася пакатацца на новай машыне, але яшчэ свежаю была і крыўда.

— Што, сумна аднаму? — спытаў Казік. — Сам да нас прыехаў?

Коля нічога не адказаў.

— Ну добра, — згадзіўся Міша. — Ты на маім пакатайся, а я на тваім паспрабую.

— Чакайце, чакайце, — замахаў рукамі Казік. — Няхай Колеў веласіпед будзе нашым паравозам! Міша, садзіся на яго, і калі цягнік рушыць, ты будзеш сігналіць, нібы машыніст на паравозе!



— А пасля мы ўсе па чарзе будзем машыністамі! — дадаў Воўка.

— Правільна, правільна! — закрычалі хлопчыкі.

І вось цягнік пачаў набіраць хуткасць. Казік і Воўка моцна пыхкалі:

— Пых, пых!

Потым Міша званіў, а Коля крычаў:

— Дарогу!

З вясёлым гоманам і смехам хлопчыкі рушылі з месца. На паваротах Міша моцна сігналіў. І хоць званок веласіпеда быў зусім не падобны на гудок паравоза, хлопчыкам усё роўна здавалася, што яны едуць на сапраўдным цягніку, едуць далёка-далёка, можа, нават у краіну райскае птушкі.

*Аляксей Пысін*

## ХІМЧЫСТКА

Наш Мікола не чысцёха,
А зусім наадварот:
У чарніле ўся кашуля,
Рукі, вушы, нос і рот.

І Міколу абыходзяць,
Быццам хлопец камінар,
Нават галубы ўцякаюць,
Калі выйдзе на бульвар.

Мые маці, мыюць сёстры,
Змылі мыла кілаграм;
Працавалі ўсе да поту,
Ды не стала меней плям.

Церлі дзеркачом з пясочкам,
Ажно лужы паплылі.
Не маглі зрабіць нічога
І ў хімчыстку павялі.

## ЖУК І ЖОЛУД

Дуб на лузе сукаваты,
А пад дубам —
Жук рагаты.
Жук рагаты,
Жук лупаты,
На баках —
Стальныя латы.
На нагах-крывульках —
Боты,
Гэта — боты-скараходы.
А на ботах шпоры,
Быццам зоры.
Жук абцасамі — туп-туп.
— Узбяруся я на дуб! —
Хоць кара, нібыта з бронзы,
Ды сёць шчыліны-барозны.



Жук панёсся — не суняць,
Шпоры новыя звіняць.

Вось ступае смелы жук
На круты шурпаты сук.
Глянуў ён туды-сюды:
На галінках — жалуды.
Жолуд
Жук аблюбаваў,
Гоп з разгону —
Асядлаў...
— Жолуд, жолуд,
Жалудок,
Патрымай
Мяне, браток.

Спелы жолуд ледзь
трымаўся,
Ад галінкі адарваўся.
Паляцеў дадолу жук.
Толькі латы грымяць,
Толькі шпоры звіняць, —
Стук і грук.

Прыляцелі матылі
на ратаванне,
Робяць жуку яны
штучнае дыханне.
Аглядаюць на баках
сінякі

Ды кладуць прымочкі
на бакі.
— Не чапаў бы ты, жук,
жалуды,
І не ведаў бы, жук,
ты бяды!

## ЯНКА І САНКІ

Янка санкі зняў з гарышча,
Пацягнуў іх на іржышча.
Ды не хочуць санкі бегчы,
Хоць бяры сабе на плечы.

Янка санкі павалок
На зялёны на лужок.
Не, не хочуць санкі бегчы,
Можа, коніка запрэгчы?

Шустрых конікаў нямала
У траве густой скакала.
— Ты не бойся, скакунок,
Запрагу цябе ў вазок.

Схамянуўся Янка тут:
«Трэба пуга і хамут».
І сказаў ён скакуну:
— Санкі ў рэчку пацягну!



Хто такое бачыў дзе?
Мчацца санкі па вадзе,
А на санках сем стракоз:
Поўны воз, поўны воз!

## ЖУК

Цераз тын, цераз плот
Жук ляціць у агарод
І гудзе, як самалёт.
Ну і гук!
Ну і жук!

*Пятрусь Макаль*

## ХАЧУ ГУЛЯЦЬ

Наш Рыгорка анікому
Не дае спакою дома.
Сто разоў, не менш, бадай,
Ён за дзень паўторыць:
— Дай!..
Ручкай ён ківае хвацка,
Што ні рэч —
Маламу цацка.
— Дай цукерку! Дай паперку!
— Дай аловак і пяро!
— Дай бліскучую талерку!

— Дай грымучае вядро!
Глянуў хлопчык на аконца,
На якім прылегла сонца,
І гукнуў шчасліва:
— Бач!
Вось які прыгожы мяч!
І бяжыць малыш да таткі:
— Дай хутчэй! Гуляць хачу! —
І ад сонейка ў дзіцяткі
Скачуць зайчыкі ўваччу.

Тут, падумаўшы з хвіліну,
Вось што кажа бацька сыну:
— Калі б мы з табою дома
Сонейка ўтрымаць маглі,
Дык ураз тады, вядома,
Стала б цёмна на зямлі.
Хай яно на небе ходзіць,
Каб усім было відно,
Хай на досвітку знаходзіць
Сцежку ў кожнае акно!

*Рыгор Няхай*

## ВЯЛІКІЯ РАБІНЗОНЫ

Гэта адбылося каля самага Мінскага мора.

Два хлапчукі — адзін той самы, што, калі хто чхне, заместа «На здароўе» заўсёды гаворыць «Дзякуй» і сцвярджае, што ў Свіслачы чатыры берагі, другі Воўка, вядомы рыбак на ўсю акругу, — моцна пасябравалі.

Аднойчы спякотным летнім днём у пярэстых кашулях і трусах, з пагнутымі саламянымі капелюшамі яны стаялі на тым самым месцы, дзе ў густым зарасніку чаромхі і алешніку даспявалі сакавітыя ягады дзікай маліны і смародзіны.

— А бацька ведае? — пачуўся з-за кустоў голас Вовы.

— Не. Ён паехаў у горад без капелюша, — адказаў Слаўка, меншы за Вову.

— Ну і правільна, што ты ўзяў, бо якія ж Рабінзоны без капелюшоў? Хоць самаробныя, але павінны быць... А калі дамоў вернемся, пакладзеш пад лаўку. Скажаш, што каты гулялі, дык і пакамечылі так... Затое рыбы ў нас будзе!..

— Зноў яршы?

— Не, будуць і плоткі... Вечарам на беразе юшку зварым. Усіх пачастуем. Ты ўмееш варыць?

— З бацькам варыў, адзін — не.

— Не бяда. Зварым. Гэта — раз плюнуць. Нам, здаецца, пара...

Яны паднялі кашулі і з доўгімі кіямі ў руках смела ўвайшлі ў ваду.

— Ты плаваць умееш? — запытаў Воўка.

— У Мінску ў басейне плаваў.

— Нічога. Я навучу. Не бойся.

Вялікія Рабінзоны, абмацваючы кіямі дно, пашыбавалі да зялёнага, густа зарослага травой і высокім лазняком астраўка. Яны вылезлі на бераг, паскідалі кашулі і адразу нырнулі за кусты. Праз хвіліну выцягнулі адтуль скрынку, збітую з дошак накшталт насілак, праверылі начынне: сякеру, пілу, цвікі, вудачкі і бляшанкі.

— Усё цэлае. Ніхто не лазіў, — заключыў Воўка. — Ну, рушылі!

Свіслач тут была шырокая і неабжытая. Хлапчукі склалі ў скрынку начынне, кашулі, спусцілі яе на ваду і, падтрымліваючы рукамі, паплылі да берага, куды не маглі дабрацца ні дачнікі, ні мясцовыя жыхары.

Той бераг быў балоцісты, зарослы асакой і чаротам. Толькі каля самай вады ўзвышалася сухая лапінка. Вось да яе вялікія Рабінзоны і трымалі кірунак.

Карабель упарта набліжаўся да берага. Загарэлыя целы хлапчукоў адлівалі на сонцы бронзай. Адны толькі пырскі залаціліся над галовамі. Аб чым яны гаварылі ў гэты час, мне не было чуваць. Аднак здаецца, што Воўка сцвярджаў: «Вось дзе рыбы! Гэта табе, брат, не пусты пляж, дзе цэлымі днямі праседжваюць нават дарослыя рыбакі, толькі



чарвей пераводзяць. Мы ім дакажам! Тут нават пераначаваць можна...»

Не марудзячы ні хвіліны, рыбакі ўзяліся за работу. Пайшло ў ход усё начынне, і каля балоцістага беражка пачаў вырастаць масток на палях. А яшчэ праз нейкі час яны ўжо стаялі побач на краі мастка, босыя, у пакамечаных капелюшах, і пільна ўзіраліся туды, куды былі закінуты іх вудачкі.

Рыба клявала, паплаўкі торгаліся, і бліскучая луска адсвечвала на сонцы. Было відаць, як яны нанізваюць рыбу на кавалак лескі і прывязваюць да мастка.

Калі пачало вечарэць, на беразе ўжо не было ні мастка, ні Рабінзонаў. Толькі на астраўку між кустоў мільгалі іх сагнутыя спіны.

Дамоў яны ішлі лугавой сцяжынкай каля рыбакоў і дачнікаў, трымаючы ў руках нізкі рыбы.

— Вось як трэба лавіць! — казалі хлопцы. — Эх вы! Боўтаецеся тут у лужынах!

Калі змерклася, на беразе непадалёку ад пасёлка я заўважыў адзінокі агеньчык. Каля санаторыя чулася песня. Вялікі рагаты месяц пазіраў у ваду. Здавалася, калі ўдала закінуць вудачку, то можна было б і яго злавіць на кручок. Пахла сенам. Слаўся туман. Я пайшоў на адзінокі агеньчык. Надзьмутыя Ра-

бінзоны, абняўшы рукамі калені, моўчкі сядзелі ля кастра.

— З багатым уловам! Як юшка, вялікія Рабінзоны? — жартам запытаў я.

— Спытайце ў Слаўкі, — пакрыўджана адказаў Вова. — Я з ім ніколі больш не пайду.

— А я вінаваты, што кошка з кацянятамі паела? Твая кошка...

— Не трэба было пакідаць тазік на падлозе.

— Тазік! Цяпер і пытай у кошкі, ці добрая была юшка...

Назаўтра яны зноў заўзята капалі чарвей, будавалі масток, змагаліся з рачной плынню, але ж, нарэшце, прыгатавалі адменную юшку: з перцам, бульбай і кропам. Самыя заядлыя рыбаловы з усяго берага хвалілі іх юшку і здзіўляліся, дзе яны налавілі такіх тоўстых яршоў і плотак.

Адзін я ведаў іх сакрэт і для жарту спытаў:

— А колькі ў Свіслачы берагоў?

— Чатыры! — упэўнена адказаў Слаўка. — Вось глядзіце: адзін бераг, дзе мы стаялі. Другі на востраве, дзе ляжыць наш плыт. Трэці зноў жа на востраве, адкуль адплывалі, а чацвёрты на тым баку... Атрымліваецца ўсяго чатыры.



— А як наконт бацькавага капелюша, што, гуляючы, пакамячылі кацяняты?

Слаўка пачырванеў.

— Тата калі паспрабаваў нашай юшкі, то перастаў лаяцца...

— А кацянят, калі хочаце, можаце забраць сабе, бо мы іх у звярынец аддадзім, як толькі прыедзем у Мінск...

*Уладзімір Дубоўка*

## ПРА ДЗЕДА І ЎНУКА

### 1

Недзе далёка
ў вёсцы маленькай
век дажываў свой
дзедка старэнькі.

Старасць — не радасць.
Сядзе абедаць —
ежа ліецца
з лыжкі у дзеда.

Пазалівае
чысты абрус так
ён і заціркай,
ён і капустай.

З гэтай прычыны
дзеда старога
есці саджалі
каля парога.

Там ён і снедаў,
там і абедаў,
там ён з унукам
меў і бяседы...

**2**

Дзедаў унучак,
мамін сыночак,
ножык узяўшы,
сеў у куточак.

Нешта майструе,
нешта складае.
Будзе, напэўна,
цацка якая.

Маці пытае:
— Любы сыночак!
Што ж ты майструеш,
сеўшы ў куточак?

Што ж гэта будзе,
скрыначка быццам?



— Будзе, матуля,
гэта — карытца.

Як пастарэеце
з татам абое,
вас не прыму я
есці з сабою.

Каля карытца
вас пасаджаю,
поснай заціркі
паналіваю...

Тата на маму,
мама на тату
глянулі моўчкі:
«Хто ж вінаваты?»

З гэтага часу
дзеда старога
больш не саджалі
каля парога.

Так, як усюды,
у кожнай сямейцы,
разам з сабою
далі яму месца...

Казачка гэта
вельмі старая,

ходзіць па свеце
з краю да краю.

Хто пра яе
і забудзецца, можа,
ўнучак маленькі
зноў дапаможа:
ён пачытае.
Хоць ведаюць людзі,
але напомніць
лішнім не будзе.

*Анатоль Грачанікаў*

## СОН

Прысніўся
Сон Алесі —
Аж войкнула
Яна, —
Што засталася
Ў лесе
Яна
Зусім адна.

Прачнулася
Раптоўна
Ад яркага
Святла:

— Як, мамачка,
Цудоўна,
Што ты мяне
Знайшла!

Я ў лесе
Не крычала,
Я не баюся,
Не!
Я толькі
Сумавала:
Як ты тут
Без мяне?



## ГУСАК І ПЕВЕНЬ

Певень аднойчы
Сказаў Гусаку:
— Пойдзем, мой дружа,
З табой на раку!
Ты — пехатою,
А я — палячу.
Плаваць і я
Навучыцца хачу.

— Гэта выдатна, —
Прамовіў Гусак, —
Але калі ты
Надзейны дружбак,
На крылах да рэчкі
Мяне данясі,
А там ужо
Добра мяне папрасі...

Узняліся у неба
Высока сябры.
Войкаюць
Куры і гусі ў двары:
— Куды вы?
— Куды вы?
— Куды вы?
— Куды?
О-го-го-го!

Не мінуць вам
Бяды!

Бачылі вы,
Хоць бы раз,
Альбо не:
Гайдаецца ў Пеўня
Гусак на спіне.
Аслупянелі усе.
Нават і дзед,
Разявіўшы рот,
Пазірае
Услед.
Крыламі Певень
Штосілы махае,
Ды і Гусак той
Яму памагае.
Разам яны
Так да рэчкі дапялі.
Разам і ўпалі
Ў халодныя хвалі.
Певень храбрыцца,
Але ўсё адно
Вір яго цягне
На цёмнае дно.
Зубы драпежна
Ашчэрыў Шчупак…
Сябра ў бядзе
Не пакінуў Гусак.



Бачылі вы,
Хоць бы раз,
Альбо не:
Певень плыве
Ў Гусака на спіне.
Гусі і куры
На беразе скачуць:
— Не, малайцоў такіх
Не перайначыць,
Не, не загінуць
Яны анідзе,
Бо дружбакамі яны
І ў бядзе!

## ВЯЧЭРА

Ляцелі
Дзве цяцеры,
Шукаючы
Вячэры,
Глядзелі
Зверху ўніз.
І раптам
Бачаць:
Ліс
Ім лапаю
Махае,
У госці
запрашае.

Адна
Цяцера
Смела
На палянку
Села.
Другая —
Не схацела,
Галоднай

Паляцела.
Галоднай
Начавала,
Сяброўку ўсё
Чакала.

Але няма
З гасцёўкі
І сёння
Той сяброўкі.

## РАЗВІТАННЕ

Бывай,
Бывай,
Дзіцячы сад!
Ужо нас
Кліча школа.
З нас сёння кожны
Вельмі рад
І трошкі —
Невясёлы.

Бо развітацца
Нам пара.
Час
Хутка пралятае.
Няхай
Другая дзетвара
Без нас тут
Падрастае.

А вам —
Пашана і любоў
І дзякуй вам
Таксама,
Усім,
Хто гэтулькі
гадоў
Расцілі нас,
Як мамы!

*Эдуард Валасевіч*

## МЯНЯЛА

— Ну, вось табе веласіпед!
Тлуміў мне галаву ты ім нямала...



Катайся, Фрэд! —
Свайму любімцу мама так сказала.
Але прайшло якіх два тыдні —
Веласіпед у Фрэда знік...
— Ці ж у цябе яго сцягнулі злыдні? —
У роспачы ўзняла матуля крык.
— Ды не! Я вымяняў яго на фотаапарат...
Што за карысць з веласіпеда?
Круці нагамі... Што я — аўтамат?
У нас жа ёсць «Пабеда»!..
А фотаапарат ён на гадзіннік замяніў,
Гадзіннік — на ліхтарык.
А за ліхтарык аўтаручку раздабыў,
А аўтаручку тую дзён праз пару
Махнуў ён на значок,
А за яго — кінаістужкі ўзяў маток,
Запалкай чыркнуў — пшык!
І дым бялюткі знік...
Вось так веласіпеда і не стала!

А ёсць падобныя мянялы.

## АЛЁШКА І КОШКА

Алёшка
Кошку
Дакараў:
— Ну і лянівая істота!

Пайшлі ўжо мама, тата на работу,
І я, здаецца, ўстаў,
А ты ляжыш, не зварухнешся,
На сонейку, паміж вазонаў, дзень пячэшся
Ды хітра жмурышся, цікуеш вераб'ёў…
— Алёшачка! — гукнула бабка. —
Ты ложак не заслаў ізноў?
Гамашы разарваў, шпурнуў за шафу шапку.
Заліў чарнілам свой буквар,
Мурзаты ходзіш, нібы камінар…
Узяў бы мыла ды памыўся трошку,
Пачысціў зубы, чуб свой прычасаў,
Тады б і Кошку
За ляноту дакараў…

Падкрэслім у маралі:
Перш чым на іншага ківаць,
Узорам сам павінен стаць,
Каб прыклад з цябе бралі.

*Казімір Камейша*

## ПЕВЕНЬ

Па двары
У яркім пер'і
Ходзіць важна
Певень-спевень.



Заспявае —
і грабеньчык
Загарыцца,
як агеньчык.

А другі раз
заспявае —
Неба чырванню
зайграе.

Заспявае трэці раз —
Прачынацца нам пара.

*Павел Марціновіч*

## КЛУБОЧАК

Ну і дзіўны
Гэты вожык.
Не відаць
Ягоных ножак.

Не відаць
Ягоных вочак.
Ну не вожык,
А клубочак.

Ды клубочак
Дужа колкі,
Бо тырчаць з яго
Іголкі.

І не выцягнеш
Іголку,
Воўк цягнуў яе
Без толку,

Не пашыў сабе
Абноў,
Толькі лапу
Пакалоў!

## ЧАРАПАШЫНА ХАТКА

— Небарака
Чарапаха,
Што стаілася
Пад дахам?

Нейкі домік твой
Нягеглы,
Не з камення
І не з цэглы.

Ані белы
Ні ружовы,
Ды, здаецца,
І не новы.

Кідай
Гэтую хаціну!

— Родны домік
Я не кіну!

Хай са мной
Вандруе хатка,
Як турысцкая
Палатка!

*Алесь Жаўрук*

## ПРА МАЙГО КАТКА

Ў доміку маленькім
Пад крутой гарой
Я жыву з любімай
Бабкаю сваёй.

У мяне ёсць жвавы
Шэранькі каток,
Жэўжык, непаседа,
Вечна — скок ды скок!



Кожны дзень кацёнку,
Як іду ў дзетсад,
Слухацца бабульку
Я даю загад.

Вечна абяцае
Слухацца каток,
А пасля ў бабулькі
Схопіць з рук клубок...

Ўвечары з дзетсада
Я прыйду сама, —
Знік клубок бабульчын,
Мячыка няма.

Я крычу са злосці,
А каток: «Мяў-мяў,
Я клубка не бачыў,
Мячыка не браў!»

Хвосцікам паводзіць,
Гнецца ў дугу,
Трэцца шэрым бокам
Аб маю нагу.

Я ад цёці ўчора
Ўвечары ішла,
На сцяжынцы ў садзе
Вожыка знайшла.

Як мяне ўбачыў
Хітранькі звярок, —
Ўраз схаваў ён рыльца,
Звіўся ў клубок.

Вострыя іголкі,
Быццам бы штыкі,
Натапырыў спрытна
Ў розныя бакі.

— Ну-ка, хто ахвочы —
Падыходзь, герой, —
Нас, браток, не возьмеш
Голаю рукой!

Я яго хусцінкай
Ціхенька ўзяла,
Ў дом к сабе прынесла,
Спаць сама пайшла.

Раніцой прачнуўся
Мой блазнюк-каток,
Бачыць: што такое —
Мячык ці клубок?

Бачыць і не верыць
Ён сваім вачам:
Як жывы за ложак
Мячык скокнуў сам!



І хутчэй схаваўся
Ад катка ў кутку.
Вось пацеха будзе
Нашаму катку!

Зараз яго лапкай
Ён адкіне ўбок.
Ой-жа, як балюча
Колецца клубок!

— Вось табе за гэта! —
Кінуўся ён зноў
І яшчэ балючай
Лапы накалоў.

Запішчаў, заенчыў
Жаласна: «Мяў-мяў!
Гэткіх я ніколі
Цудаў не страчаў,

Каб клубок ці мячык
Мог калоцца так».
І яго панюхаць
Хоча мой бядак.

Не паспела скочыць
З ложка я далоў,
Як блазнюк цікаўны
Пыску пакалоў.

І цяпер сядзіць ён,
Па сваёй віне,
Ўвесь забінтаваны,
Ціхі на акне.

А на панадворку
Сёння за акном
Весела і шумна,
Хораша кругом.

Там вунь трусяняты
Дражняць індыка,
Ловяць кураняты
Майскага жука.

Вераб'ям прывольна
Па двары гуляць, —
Некаму сягоння
Вераб'ёў ганяць!

Бусел стаў паважна
На адной назе,
Костку Жук ля будкі
Смачную грызе.

Толькі ён пакінут
Па сваёй віне,
Ўвесь забінтаваны,
Ў хаце на акне.



Перад ім лякарствы
Горкія стаяць,
Ў дзень па чайнай лыжцы
Трэба іх прымаць.

Тут каток ад гора
Плакаць захацеў,
Ў гэты час на дровы
Певень узляцеў.

Закрычаў штосілы
Ён: «Ку-ка-рэ-ку!
Так табе і трэба
Блазнюку-катку!»

*Мар'ян Дукса*

## ЦІ ТАК ЧЫТАЛА?

Так чытала, так гартала,
аж пакуль не цёмна стала.
І ў суботу, і ў нядзелю
я на літары глядзела.

З кніжкай ела,
з кніжкай спала,
з кніжкай па двары гуляла,
з ёй карову сцерагла,
з ёй ля рэчкі я была,

з ёй масцілася старанна
ля «блакітнага экрана...»

Нават кнігу не закрыла,
як з сяброўкай гаварыла.
Надвячоркам звонка-звонка
зноўку шастала старонкай.

Так вучыла, так гартала —
толькі тройку атрымала!
Можа, я не так чытала?..

*Алесь Бадак*

## ЗАЙЧАНЯТКІ

— Дзе былі вы,
Зайчаняткі?
— Загаралі
Каля градкі.
— А пасля куды
Прапалі?
— Маме дома
Памагалі.
Мылі міскі,
Мылі лыжкі,
Акуратна склалі
Кніжкі.
— Ну а што пасля
Рабілі?

— Да мядзведзіка
Хадзілі.
Пазаўчора яму
Дзед
Падарыў
Веласіпед.
І цяпер мы
На палянцы
Разам вучымся
Катацца.
Хочаш,
З намі павучыся —
Толькі ты,
Глядзі,
Не бíся!



*Ларыса Геніюш*

## ЗАЙКА

Між кустамі
Між густымі
Скок ды скок,
Бегаў зайка, прытаміўся.
А за дрэвам прытаіўся
Люты воўк.

Зайка скокнуў без аглядкі,
Воўк хацеў хапіць за пяткі
Ды за бок.
У адчыненыя дзверы
Да бабулі зайка шэры
Хутка скок.

Бабка заіньку пусціла,
Прытуліла, накарміла.
А дзядуля злога воўка
Напалохаў дубальтоўкай.

А ты, заінька, глядзі —
У лес без мамы не хадзі.

*Канстанцыя Буйло*

## МОЙ МУРКА

У мяне ёсць коцік белы,
Мяккі, цёплы, як пушынка.
Вось, на сонцы разамлелы,
Грэе лапкі ён і спінку.
Ноччу сёння на падушку
Ўзлез ка мне і спаў да ранку,
Мармытаў ён мне на вушка
Сваю песню-калыханку.
Я ачнуўся. Ён старанна
Падкідаў на ложку мячык
І хацеў, каб я хоць глянуў,
Як ён спрытна, лоўка скача.
Мыцца я іду, ён сядзе
На акне і лапкі ліжа,
Мызу, вушы лапкай гладзіць,
Мне міргае вокам рыжым.
А калі кусок паперы
Начаплю я на вяроўку, —
Мурка стане хіжым зверам,
Дзікім, ярасным і лоўкім.
Снедаць я іду — у вочы
Мне глядзіць, хрыбет узносіць:
Гэта малачка ён хоча
І наліць у сподак просіць.



*Вісарыён Гарбук*

## АСА

І сёння мы палуднавалі ў садзе. Я, тата і мама. Там гэтак хораша! Пад каштанам стаяць стол і ўслоны. Усюды сонца, а ў нас цянёк. Летам мы заўсёды ў садзе палуднуем. Да нас прылятаюць госці. Не верыце? Праўда-праўда! Хіба мухі — госці? Як смешна вы кажаце!..

Першая сёння прыляцела аса. А мы рыбу елі. Села аса на залаты абадок талеркі. З самага краю. Працерла лапкамі свае кругленькія вочкі, вусікі-шчоткачкі. Такая прыгожая, проста дзіва!

Мы з татам нават пра яду забыліся. Назіраем. У асы сківіцы, як два сярпочкі. Падбегла да рыбы. Сківіцы — раз-раз, туды-сюды. Адрэзала кавалачак, мала меншы за сябе, падсунула бліжэй, прыціснула ножкамі і паляцела — сваім дзецям панесла.

Толькі мы папалуднавалі, аса вярнулася.

Шчыра кажучы, мы не чакалі такога ад асы, таму былі здзіўлены убачаным.
Села на абрус з крошкамі хлеба. А побач з ёю муха. Аса — раз! — павярнулася, кінулася на муху і прыціснула яе. Мушка толькі нагамі варушыць, а зрабіць нічога не можа.

— Мама, зірні сюды! — сказала я пошапкам, каб не спудзіць асу. — Паглядзі, якая наша госця! Убачыла, што гэтая брыдкая муха не давала мне спакою, і схапіла яе.

Ашчарэпіла аса муху цапкамі-лапкамі і паляцела.

*Галіна Каржанеўская*

## НАСЦЯ

Кожны дзень
У час абеду
Наша Насця — непаседа.
Круць налева,
Круць направа —
На спаднічку льецца кава.
Ноччу цёмнай,
Ноччу доўгай
Наша Насця — непалёга.
Круць направа,
Круць налева —
На падушку ножка легла.

З самай раніцы затое
Наша Насця — непастоя.
І не мае
Мама з ёю
Ні хвіліначкі спакою.



*Пятро Прыходзька*

## КАЛЯКА-МАЛЯКА

Любіць Ліка маляваць
Сонца, неба, рэчку
І па-свойму называць
Ўсе на свеце рэчы.

Не аловак ёй падай —
Каляку-маляку,
Намалюе Ліка гай,
А ў гаі — кабаку.

А кабака — гэта дзік,
Як звівакі — змеі,
Я да гэтага прывык,
Я ўсё разумею.

Не арэлі — у-та-та
У цянёчку сада.
А ў гародзе барада
Вырасла на градах.

Ліка дзівіцца ўсяму,
Ёй усё цікава:
— Як, навошта і чаму
Зелянеюць травы?

Чым харчуюцца ў бары
Ўсю зіму вавёркі?

Хто запальвае ўгары
Адвячоркам зоркі?

Прынясу табе, павер,
Казак усялякіх...
Вось табе і першы верш:
«Каляка-маляка».

*Данута Бічэль-Загнетава*

## КОТ-ПІРАТ

Коцік сплёў лазовы кошык,
прыхаваў за пояс ножык
і адправіўся
нібы
ў лес па шчырыя грыбы.

Каля дуба:
— Ой, баліць
і сярэдзінка й жывот!
Лёг.
Надумаўся злавіць
попаўзня манюка-кот.

Попаўзень
лячыў той дуб,
з-пад кары выпуджваў мошак.

Не залез манюку ў кошык,
не папаўся і на зуб.



*Міхась Скрыпка*

## КОСЦІК, АДЗІНКА І ХВОСЦІК

У Косціка няўдача —
Ён не рашыў задачы.
І ў дзённіку стала «адзінка»,
Але праз хвілінку
На перапынку
Косцік яе «справіў»:
Хвосцік к адзінцы прыставіў,
І стаў разумнейшым Косцік
На цэлы прычэплены хвосцік.

*Рыгор Барадулін*

## АЙ! НЕ БУДУ! НЕ ХАЧУ!

Ёсць у Даны тры сястрычкі:
Ай!
Не буду!
Не хачу!
За сястрычкамі благімі
Кожнай раніцы сачу.

Будзяць Дану:
— Уставай!

А сястрычка цягне:
— Ай!

— Ланачка, памый пасуду.
А сястрычка зноў:
— Не буду!

Узяла сястрычак Лана
У дзіцячы сад з сабой.
На пацешных хочуць глянуць
Дзеці ўсе наперабой.
Цацкі лепшыя свае
Кожны пагуляць дае.

Просяць:
— Ляльку палюляй,
Ды бурчыць сястрычка:
— Ай!

— Прынясі вады вярблюду.
А сястрычка ім:
— Не буду!

— Мішкам дай па калачу.
А сястрычка:
— Не хачу!

І сказалі дзеці Лане:
— Хто дружыць
З такімі стане?



Хай капрызныя сястрычкі
Кепскія забудуць звычкі
І тады ідуць у сад,
А пакуль —
вядзі назад!

*Віктар Гардзей*

## САРОКА

Слава чысценька памыўся,
Ажно тварык засвяціўся.
На падворак выбег з хаты,
Пасмяяўся з сына тата:
— Вунь сарока недалёка,
Украдзе цябе сарока,
Бо такую звычку мае:
Што блішчыць, усё хапае.

Напужаўся птушкі Слава —
Паляжаў на сонцы ў травах,
Пад сасонкай на грудочку
Пагуляў ён у пясочку,
У канаве папляскаўся
І здаволены застаўся:
Бруд на носе, бруд на шчоках —
Не ўкрадзе цяпер сарока!

*Мікола Хведаровіч*

## КЛАПАТЛІВЫ ВОЖЫК

Няма ва ўсім лесе дарожак,
Якія не ведаў бы вожык.

Усё яму ў лесе вядома,
Бо ён не ў гасцях тут, а дома.

Шархочуць яловыя шышкі,
Грызуць іх рухавыя мышкі.

Клубочкам, нібыта без ножак,
Да іх падкрадаецца вожык.

Ён добра іх хітрыкі знае —
Не вырвецца мышка малая.

А сам не баіцца нікога —
Ні ліскі, ні воўка злога.

Няхай паспрабуюць — укусяць!
Сябе паважаць ён прымусіць.

Хацеў яго цапнуць сабака,
Ды з віскам уцёк, небарака.

Патрапіць, бывае, гадзюку —
Нішто не ўратуе ўжо злюку...



Ён коціцца, шэры клубочак,
Паблісквають зорачкі вочак.

*Раман Тармола*

## ПЕРАПАЛОХ

Бяда ў сараканожкі —
Згубіліся дзве ножкі.
Галосіць: — Ах ды ох!
Як буду жыць без ног!..

Тут неба задрыжэла,
Тут неба парыжэла,
Тут зверху раптам — жух —
Тоўсты жук.

Да хворае падходзіць,
Гудзе над ёй найперш:
— Годзе плакаць, годзе-е-е...
Жывеш жа ты, жывеш?
Давай паказвай рану,
Перавяжу старанна.

А хворая не чуе,
Галосіць: — Ах ды ох!
Жыць болей не хачу я
Без самых лепшых ног!

Выходзіць з лесу вожык
І раптам на хаду:
— Няма ў цябе дзвюх ножак?
Не плач і не бядуй! —
Гаворыць вожык важна: —
Я нават не заўважыў,
Калі на днях пад ёлкай
Згубіў аж тры іголкі!

А хворая ўсё плача,
Слязьмі затопіць лог:
— Ой, свету не пабачу,
Бо як хадзіць без ног?

Раптоўна шум вялікі
Падняўся у цішы,
Збягаюцца на крыкі
Звяры і мурашы.

Пчала звініць пад небам,
Ні хвілі не маўчыць:
— Спачатку хворай трэба
Ногі палічыць.

Лічыць узяўся конік,
Дайшоў да дзесяці,
А як далей — не ўспомніў,
Жука лічыць пусціў.



Жаваў жук словы доўга,
Стараўся жук як мог.
Ды налічыў не многа —
Ўсяго пятнаццаць ног.

— Ідзі адсюль, няўмека, —
Сказаў тут муравей, —
Лячыць умееш, лекар,
Лык і лічыць умей.

І ён падбег да хворай,
Прамовіў скора-скора:
— Дазволь, саракаsuccessfully,
Твае праверыць ножкі.

І муравей са спрытам,
Пад воклічы і смех,
Па лесвіцы нібыта,
Па ножках тых прабег.

Так бегаў муравейка,
І множыў і складаў,
Пасля закрыў павекі
І прашаптаў: — Бяда...

І правых ног, і левых
Я сорак налічыў.
Сараканожка — невук,
Ты лепей памаўчы.

Ой, што тут пачалося!
Затрэслася трава!
Хто злітавацца просіць,
А хто — не даравацъ.

— Пакідалі работу!
Сядзелі б у цішы!
Я б лепей сыну боты
За гэты час пашыў! —
Злаваўся доўга вожык,
Аж не знаходзіў слоў.
Жуку неасцярожна
Спіну ён укалоў.

Нарэшце ўсе замоўклі.
Вучоны муравей
Гукнуў, ад поту мокры,
Прысеўшы на траве:
— Давайце дружна, разам
Ёй вынесем прысуд.
Пачулася адразу:
— Лісу сюды, лісу!
— І зайца — пракурорам!
— Мядзведзя! — хтосьзароў.
І вось гукнулі хорам
Усіх лясных звяроў.
Усіх, што ёсць, казюрак:
З вусамі, без вусоў,
Прысуд чытаў пахмуры



Сам уладар лясоў:
— За тое, што дарэмна
Парушыла спакой.
За тое, што страшэнна
Крычала «ай» ды «ой»,
Што ўсім тлуміла голаў
Аж цэлых пяць гадзін,
Сараканожцы ў школу
Загадваем хадзіць,
Каб добра навучыцца
Лічыць да сарака! —
Зірнуўшы на ваўчыцу,
Зірнуўшы на ваўка,
Закончыў касалапы,
Зароў мядзведзь-ласун
І, як пячатку, лапу
Паставіў на прысуд.

Вось так мінулі беды,
Улёгся крык і шум.
Я толькі напаследак
Усіх малых прашу:
Калі сараканожка
Вас напаткае дзе,
Яе не затапчыце —
У школу хай ідзе...

# ЗМЕСТ



Вучэбнае выданне

**ЗАЛАТЫЯ КАЛАСКІ**

**ЧЫТАНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

Частка 1

Укладальнікі:
ФЕДАСЕЕНКА Марыя Аляксееўна,
РАЗАНАВА Галіна Мікалаеўна,
ПРОХАРАВА Таццяна Паўлаўна,
ЯНУШКЕВІЧ Наталля Сяргееўна

Адказныя за выпуск
В. В. КРУГЛІК, А. В. БАРЫСЕНАК

Рэдактар *А. І. Сачанка*
Мастацкі рэдактар *П. М. Драчоў*
Тэхнічны рэдактар *М. А. Шабалінская*
Карэктар *Я. М. Важнік*

Здадзена ў набор 05.07.94. Падпісана да друку 26.08.94. Фармат $60\times90^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура кудрашэўская энцыклапедычная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 24,0. Ум. фарб.-адб. 43,5. Ул.-выд. арк. 22,0. Тыраж 30 000 экз. Зак. 1143.

Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Лазурак».
Ліцэнзія ЛВ № 690. 220005, Мінск, вул. Пугачоўская, 1.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, вул. Чырвоная, 23.